ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ






ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 4-5
30-31

Чацьверты год выданьня
КРАСАВІК—МАЙ 1931 г.

## У часопісу за сакавік 1931 года заўважана памылка.

| Старонка 31, левая калонка, 8 радок зьверху: | НАДРУКОВАНА: | ТРЭБА ЧЫТАЦЬ: |
|---|---|---|
| | Правільна ці не прыведзеная вышэй устаноўка ў хлебазагатоўках? Бязумоўна правільная. | Правільная ці не прыведзеная ў вышэй паказаных раёнах устаноўка ў хлебазагатоўках, супроць якой выступіла газ. „Зьвязда"? Бязумоўна няправільная. |

Друкарня Кір. Спраў СНК і ЭКАНА зак. 241—3000 экз. Галоўлітбел № 295

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве

№ 4—5 (30—31) Красавік—Май 1931 г. № 4—5 (30—31)

**Няма такіх крэпасьцей, якіх бальшавікі не змаглі-б узяць.**

## Бальшавіцкімі тэмпамі дагнаць і перагнаць.

*(Да вынікаў VI-га Усесаюзнага і X-га Усебеларускага Зьездаў Саветаў).*

Адбыўшыеся Зьезды Саветаў падвялі вынікі барацьбы за сацыялізм рабочае клясы Савецкага Саюзу за мінулыя два гады, а таксама вызначылі далейшыя задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

Пастановы VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў гавораць аб тым, што дзякуючы посьпехам сацыялістычнага будаўніцтва краіна саветаў уступіла ў пэрыяд непасрэднага сацыялістычнага будаўніцтва і знаходзіцца ў апошнім пэрыядзе НЭП'у. Гэта значыць, што з пункту пагляду суадносін клясавых сіл унутры краіны, пытаньне аб перамозе сацыялізму вырашана і перамога сацыялізму забясьпечана. Разам з гэтым тая задача што пастаўлена перад нашай краінай партыяй і савецкай уладай аб уцягненьні ў час веснавой пасеўнай кампаніі ня менш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, разам з выкананьнем іншых задач сацыялістычнага будаўніцтва, забясьпечвае заканчэньне пабудовы ў гэтым годзе фундамэнту сацыялістычнай эканомікі.

Вялізарнае гістарычнае значэньне гэтых пастаноў VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў прымушае кожнага працоўнага з усёй уважлівасьцю аднесьціся да работ Зьездаў Саветаў для таго, каб на падставе вывучэньня вынікаў Зьездаў Саветаў і пастаноў яшчэ больш узброіцца для далейшага рашучага пасьпяховага змаганьня за перамогу сацыялізму.

Кажучы аб унутраным становішчы Савецкага Саюзу, вывучаючы вынікі работы сацыялістычнага будаўніцтва за мінулыя два гады, мы павінны прасачыць за тым, як адбывалася выкананьне пяцігадовага пляну барацьбы за сацыялізм. Вывучэньне гэтага пытаньне паказвае нам, што пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва намі ня толькі выконваецца, але і перавыконваецца. Гэтае заключэньне мае вялізарнае значэньне, бо яно яскрава паказвае нам, што барацьба за сацыялізм на падставе генэральнай лініі партыі пры рашучым змаганьні супроць ухілаў ад генэральнай лініі партыі, — правага, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, „левых" загібаў і прымірэнчых да іх адносін, адбываецца пасьпяхова, і задачы, пастаўленыя партыяй і рабочай клясай, вырашаюцца.

Посьпехі ў справе выкананьня і перавыкананьня пяцігодкі мы бачым ужо на падставе шэрагу даных. Калі лічыць, што выкананьне пляну пяцігодкі за мінулыя два гады раўняецца 100 проц., то па паасобных асноўных паказчыках за гэтыя два гады мы маем наступнае выкананьне: народны даход Савецкага Саюзу 102 проц., дзяржаўны бюджэт 124 проц.; па капітальных укладаньнях мы маем выкананьне ў 109 проц.; валавая прадукцыя прамысловасьці, кіруемай ВСНГ, паказвае выкананьне на 104 проц. Па павялічэньні пасеўнай

плошчы мы маем выкананьне на 103 проц., павялічэньне таварнай прадукцыі зернавых прадуктаў вызначаецца ў лічбе 121 проц.; па грузазвароту мы маем выкананьне—117 проц.

Такім чынам, па ўсіх асноўных паказчыках мы маем значнае перавыкананьне тых плянаў, якія былі вызначаны на гэтыя два гады пяцігодкі. Вось гэтыя посьпехі ў справе выкананьня вызначаных плянаў сацыялістычнага будаўніцтва і паслужылі падставай таго, што рабочая кляса, разгортваючы работу ў парадку сацспаборніцтва і ўдарніцтва і. г. д., узьняла і паставіла ў парадак дню задачу аб выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады. Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады ёсьць зусім рэальная задача, якая мае пад сабой грунт у выглядзе таго перавыкананьня плянаў, якое наглядаецца па ўсіх асноўных галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Вельмі важна прасачыць, як адбывалася выкананьне задач, пастаўленых партыяй у справе індустрыялізацыі краіны. Барацьба за разгортваньне сацыялістычнай прамысловасьці, барацьба за тое, каб зрабіць прамысловасьць вядучай галінай народнай гаспадаркі, барацьба за тое, каб у першую чаргу пры разгортваньні прамысловасьці забясьпечыць разгортваньне цяжкай прамысловасьці, ці той прамысловасьці, якая вырабляе сродкі вытворчасьці—вось адзін з важнейшых пунктаў, які вызначае генэральную лінію партыі ў барацьбе за сацыялізм.

Як вядома, партыі прыходзілася па гэтым пытаньні перанесьці жорсткія баі як з боку трацкістых, так і ў апошні час з боку правых ухілістых; калі з аднаго боку трацкістыя з сваімі звыш-індустрыяльнымі плянамі фактычна вялі да разрыву з асноўнымі масамі серадняцкага сялянства, то з другога боку правыя, выступаючы з прапановамі аб зьмяншэнані тэмпаў індустрыялізацыі, гэтым самым капітуліравалі перад кулацка-нэмпанскімі элемэнтамі краіны. Сацыяльная сутнасьць гэтых двух антыпартыйных напрамкаў зьяўляецца нарэшце аднолькавай і заключаецца ў здачы бальшавіцкіх пазіцый дробна-буржуазным элемэнтам.

Рабочая кляса пад кіраўніцтвам кампартыі, маючы на чале органы дыктатуры пралетарыяту—саветы, рашуча змагалася за генэральную лінію партыі, праводзячы няўхільна ў жыцьцё мерапрыемствы, якія забясьпечваюць вырашэньне задач у справе індустрыялізацыі краіны. У выніку гэтага мы маем у сучасны момант наступныя дасягненьні: плян вызначаны па пяцігодцы па цяжкай прамысловасьці выканан за мінулыя два гады на 110 проц.; па лёгкай прамысловасьці пляны выкананы на 99 проц. Праўда, трэба адзначыць, што па шэрагу галін прамысловасьці мы маем недавыкананьне вызначаных плянаў Так, па чыгуну плян выканан на 99 проц., па каменаму вугалю—на 96 проц., па хлапчата-бумажнай—на 84 проц.

Аднак, калі ўзяць усю прамысловасьць у цэлым, то мы маем значнае перавыкананьне першапачаткова вызначаных плянаў. Гэта відаць з таго, што валавая прадукцыя па ўсёй прамысловасьці, якая вызначалася ў суме 9,5 міліарда рублёў, узьнялася за гэтыя два гады да 15,6 міліарды рублёў; гэта значыць, што замест вызначанага па пляну павышэньня валавой прадукцыі на 41 проц. нам удалося дабіцца яе ўзьняцьця на 64 проц. Пры гэтым трэба адзначыць на ступнае: **валавая прадукцыя па цяжкай прамысловасьці дае за гэтыя два гады выкананьне—193 проц., ці павялічэньне амаль што ў два разы.** Па машынабудаўніцтву мы маем выкананьне ў 2,5 разоў большае ў параўнаньні з вызначанымі плянамі. Нашы посьпехі ў справе будаўніцтва новых электрастанцый пры выкананьні вызначаных плянаў ужо ў гэтым годзе ставяць Савецкі Саюз на першае месца ў Эўропе і на другое месца пасьля Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў.

Адсюль мы павінны зрабіць наступныя важнейшыя вывады: тэмпы, узятыя партыяй і Урадам Савецкага Саюзу ў справе будаўніцтва прамысловасьці зьяўляюцца рэальнымі, што яскравей за ўсё відаць з таго, што пляны ня толькі выконваюцца, але і перавыконваюцца; лінія партыі, накіраваная на разгортваньне ў першую чаргу цяжкай прамысловасьці, рашуча праводзіцца ў жыцьцё. Вось дзякуючы гэтаму ўдзельная вага прамысловасьці з кожным годам павялічваец-

ца. Удзельная вага валавойпрадукцыі прамысловасьці ўзьнялася за мінулыя гады з 57 проц. да 67 проц., ці складае 2|3 усёй валавой прадукцыі народнай гаспадаркі. Такім чынам прамысловасьць яшчэ больш замацоўваецца, як вядучая галіна нашай народнай гаспадаркі. Гэтыя посьпехі ў справе будаўніцтва сацыялістычнай прамысловасьці зьяўляюцца лепшым адказам правым і „левым“ апартуністам і павінны яшчэ больш узмацніць шэрагі рабочае клясы і ўсіх працоўных для разгортваньня работы ў мэтах індустрыялізацыі Савецкага Саюзу.

Вялізарныя посьпехі адзначаны VI-м Усесаюзным Зьездам Саветаў ў справе разьвіцьця і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Як вядома, правыя ўхілістыя ў сваёй барацьбе супроць генэральнай лініі партыі значную частку сваіх установак будавалі на тых меркаваньнях, што разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва можа адбывацца на падставе выкарыстаньня прыватнай ініцыятывы адзінаасобных гаспадарак, што зернавая праблема можа пасьпяхова вырашыцца за кошт разьвіцьця заможных, у тым ліку і кулацкіх гаспадарак.

Партыя рашуча асудзіла пазіцыі правых ухілістых, бо гэтыя ўстаноўкі зьяўляюцца, як кажа аб гэтым тав. Сталін, прамой капітуляцыяй перад кулаком, павялічваюць шансы рэстаўрацыі капіталізму. Партыя з усёй рашучасьцю паставіла пытаньне аб тым, што зернавая праблема можа быць вырашана пасьпяхова і з карысьцю для сацыялістычнага будаўніцтва толькі на падставе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, шляхам будаўніцтва буйных саўгасаў і перабудовы індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на сацыялістычных падставах праз калгасы, пры ўмовах рашучай і жорсткай барацьбы супроць кулацтва.

Адказам на пытаньне аб выніках працы партыі і Ураду за мінулы час у галіне сельскай гаспадаркі могуць служыць паказальнікі аб загатоўках зернавых прадуктаў. Загатоўкі мінулага году склалі 1 міліард пудоў.

У бягучым годзе па ўсяму Савецкаму Саюзу на 1-е сакавіка ўжо загатоўлена 1.300.000.000 пудоў.

Для таго, каб зразумець значэньне гэтых лічбаў нам трэба мець на ўвазе наступнае: уся таварная маса зернавых прадуктаў царскай Расіі ў 1913 годзе складала 1.300 міл. пудоў. Гэта маса складалася з наступных элемэнтаў: абшарніцкія маёнткі давалі агульную суму ў 281 міл., і кулацкія гаспадаркі—650 міл. Такім чынам абшарнікі і кулацкія гаспадаркі разам давалі 931 міл., ці 3|4 усяго таварнага хлеба. Так было да сусьветнай вайны.

Малюнак рашуча зьмяніўся ў час рэвалюцыі. Так, у 1926-27 годзе з агульнай колькасьці таварнага хлеба ў 630 міл. пудоў, таварная маса хлеба кулацкіх гаспадарак складала 126 міл. пудоў. Калі-ж мы прымем пад увагу тое, што ў гэтым годзе калгасы і саўгасы далі ў загатоўках 487 міл. пудоў, то мы ўбачым, што кулацкая частка таварнай масы хлеба ў некалькі разоў жо перакрыта сацыялістычным сэктарам сельскай гаспадаркі і гэтая роля сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі з кожным годам будзе ўсё больш павялічвацца.

Так, калі па пяцігадоваму пляну меркавалі, што саўгасы толькі ў 1933 годзе павінны былі даць 207 міл. пудоў, то дзякуючы пасьпяховаму разгортваньню саўгасаў у бягучым 1931 годзе, саўгасы ўжо дадуць у сярэднім 190-195 міл. пудоў таварнага хлеба.

Адсюль мы павінны зрабіць вынік аб тым, што на падставе правільнай лініі Камуністычнай партыі, накіраванай на вырашэньне зернавой праблемы шляхам арганізацыі буйных саўгасаў і сацыялістычнай рэканструкцыі адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак праз калектывізацыю зернавая праблема вырашана.

Вырашэньне зернавой праблемы ўтварыла ўмовы для пасьпяховага вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы, а таксама іншых задач сельскай гаспадаркі. З усёй рашучасьцю і ўпартасьцю Урад праводзіў у жыцьцё мерапрыемствы, накіраваныя на вырашэньне гэтых задач праз саўгасы і калгасы. Гэта відаць з таго, шта плошча саўгасаў з кожным годам усё больш павялічваецца. Так, па зернавых саўгасах мы маем наступныя лічбы: у 1928 г. пад гэтымі саўгасамі было

1 міл. гэкт. зямлі, у 1929 г.—1,5 міл. га і ў 1930 г.—ужо 3,9 міл. га.

За апошні год дасягнуты вялізарныя посьпехі ў справе будаўніцтва жывёлагадоўчых і іншых саўгасаў. Так, трэст „Жывёлавод“ мае ўжо 140 саўгасаў на плошчы 20 міл. га з колькасьцю 1,2 міл. галоў жывёлы; трэст „Сьвінавод“ мае 350 саўгасаў на плошчы 1,2 міл. га з колькасьцю 218 тыс. сьвінаматак; трэст „Аўцавод“ мае 115 саўгасаў на плошчы 13 міл. га з колькасьцю 2,7 міл. галоў. „Маслацэнтр“ мае 52 саўгасы на плошчы 1,3 міл. га з колькасьцю 50 тыс. галоў. Ідзе шырокае разгортваньне саўгасаў Цукртрэсту, ільняных, хлапковых і г. д. У выніку гэтага ўжо ў 1930 годзе саўгасы здалі дзяржаве прадукцыі на суму 200 міл. руб.; у тым ліку саўгасамі здадзена 72 міл. пудоў зерна, каля 1 міл. пудоў мяса, 180 міл. пудоў сьвёклы, 670 тыс. хлапка-валакна.

Посьпехі Савецкага Саюзу ў справе вырашэньня зернавой праблемы, а таксама пасьпяховае разгортваньне мерапрыемстваў у справе вырашэньня задач разьвіцьця сельскай гаспадаркі зьяўляюцца вынікам таго, што на падставе посьпехаў у справе індустрыялізацыя краіны, на падставе ўзмацненьня вытворчай сувязі паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай, па падставе ўзмацненьня кіруючай ролі рабочае клясы і рашучай барацьбы з кулацтвам і яе агентурай у партыі правымі апартуністымі, асноўныя серадняцкія масы ўсьлед за беднатой рашуча павярнуліся да сацыялізму, стаўшы на шлях сацыялістычнай перабудовы сваіх гаспадарак праз калгасы.

Гэты паварот асноўнай масы сялянства да калгасаў можна прасачыць па наступных даных:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1/X-1927 г. у калгасах было | 286 т. | бядн.-серадн. гасп., што складала | 1,1 проц. |
| На 1/X-1928г. „ „ „ | 595 т. | „ „ „ „ „ | 2,3 „ |
| На 1/X-1929 г. „ „ „ | 2131 т. | „ „ „ „ „ | 8,1 „ |
| На 1/X-1930 г. „ „ „ | 5565 т. | „ „ „ „ „ | 22,2 „ |
| На 1/III-1931 г. „ „ „ | 8830 т. | „ „ „ „ „ | 35,3 „ |

З гэтых даных мы можам зрабіць вывады: разгортваньне справы калектывізацыі яшчэ ў 1927-28 г. ішло досыць павольнымі тэмпамі, затое 1929 год дае рашучы перапом, у выніку якога мы маем значнае павялічэньне калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у 1930 годзе.

Асабліва магутны прыліў у калгасы наглядаецца за апошнія месяцы. Так, за апошнія 6 месяцаў у калгасы ўлілося каля 3 міл. гаспадарак; за адзін люты ў калгасы ўвайшло 1.500 тыс. гаспадарак.

Вельмі цікава прасачыць як адбываўся працэс калектывізацыі ў БССР. Гэта відаць з наступных даных:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1/X-1928 г. у БССР уваходзіла ў калгасы | 8.499 | двароў, што складала | 1,07%, |
| На 1/X-1929 г. „ „ „ | 25.830 | „ „ „ | 3,27%, |
| На 1/X-1930 г. „ „ „ | 92.000 | „ „ „ | 11,53%, |
| На 1/I-1931 г. „ „ „ | 116.670 | „ „ „ | 15,00%, |

З гэтых лічбаў мы бачым, што ў асноўным тэндэнцыі ўваходу ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па Савецкай Беларусі аднолькавыя з агульнасаюзнымі. Розьніца заключаецца толькі ў тым, што тэмпы гэтага ўключэньня па БССР некалькі ніжэй агульных тэмпаў па Савецкаму Саюзу.

Гэтыя посьпехі ў справе разгортваньня калектывізацыі дасягнуты на падставе рашучага захоўваньня ленінскіх прынцыпаў дабраахвотнасьці, на падставе рашучай барацьбы супроць перагібаў і скажэньняў генэральнай лініі партыі ў справе калектывізацыі.

Вельмі важна адзначыць, што гэтыя сярэднія лічбы вельмі значна павышаюцца па паасобных важнейшых сельскагаспадарчых раёнах Савецкага Саюзу. Так, па асноўных зернавых раёнах Савецкага Саюзу ў калгасы ўваходзіць 74 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, па іншых зернавых раёнах у калгасы ўваходзіць 40 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У спажывецкай паласе ў нацыянальных раёнах у калгасы ўваходзіць 22 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Побач з колькасным ростам калектывізацыі ідзе і якаснае палепшаньне, дзя-

куючы чаму ўжо ў сучасны момант мы маем усе мажлівасьці для таго, каб канкрэтна на прыкладах даказваць кожнаму бедняку і серадняку пераважнасьць калгасу, абагуленай гаспадаркі перад адзінаасобнай гаспадаркай.

Дзякуючы таму, што калгас зьяўляецца буйнай аграмаджанай гаспадаркай, гэтая гаспадарка мае магчымасьць найлепш выкарыстоўваць трактары, сельскагаспадарчыя машыны і іншае абсталяваньне ў параўнаньні з адзінаасобнай дробнай гаспадаркай, пазбаўленай гэтай мажлівасьці. Нават конь у калгасе дае большую выгаду, чым у адзінаасобнай гаспадарцы; так, вылічына, што ў 1930 г. конь у калгасе, ня гледзячы на ўсе недахопы ў выкарыстаньні коняй, апрацаваў плошчу ў паўтары-два разы большую, чым у адзінаасобнай бядняцкасераднякацкай гаспадарцы. У выніку гэтага пасеўныя плошчы калгасаў растуць непарыўна з году ў год значна шпарчэй, чым расьце колькасьць гаспадарак, увайшоўшых у калгасы. У 1928 г. калгасы засеялі вясной і восеньню 2 міл. га, у 1929 г.—6,5 міл. га, у 1930 г.—43 міл. га.

Гэты рост пасеўных плошчаў калгасаў тлумачыцца ня толькі тым, што павялічваецца колькасьць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак увайшоўшых у калгасы, але і тым. што на кожную гаспадарку ў калгасе прыходзіцца большая плошча, чым на паасобную індывідуальную гаспадарку. Мажлівасьці выкарыстаць праз каляктыўную гаспадарку, як буйную гаспадарку, дасягненьняў агратэхнікі, мажлівасьць праводзіць нават самыя дробныя агратэхнічныя палепшаньні, як зьнішчэньне межаў, пасеў суцэльнымі масывамі, ачыстка і пратраўліваньне ўсякага пасеўнага насеньня і г. д. даюць у выніку значнае павялічэньне ўраджайнасьці ў калгасах у параўнаньні з адзінаасобнай гаспадаркай. Так, у 1930 годзе ўраджай хлябоў у калгасах перавысіў у сярэднім ураджай адзінаасобнай гаспадаркі на 10-15 проц. У выніку гэтага расьце дабрабыт калгасьнікаў і таварнасьць каляктыўнай гаспадаркі. За 1930 г. даход ад сельскай гаспадаркі на душу калгаснага насельніцтва перавысіў ня менш чым ў паўтара разы даходнасьць адзінаасобніка, што ў параўнаньні з даходамі ранейшага бедняка-адзінаасобніка азначае павышэньне даходу ня менш чым у два разы.

Мы ўжо раней гаварылі аб тым, што таварная прадукцыя зернавых культур, якія здадзены ў гэтым годзе калгасамі дзяржаве, раўняецца 460 міл. пудоў, ці ў 3,5 разы перавышае памеры таварнага хлеба кулакоў 1926-27 г. і больш чым у 1,6 разы перавышае даваенную таварную прадукцыю абшарніцкіх гаспадарак.

Так паступова краіна саветаў, краіна дробнай сялянскай гаспадаркі, разбуранай да жабрацтва абшарнікамі і кулакамі становіцца краінай самай буйнай, самай передавой сельскай гаспадаркі ва ўсім сьвеце.

Дзякуючы палітыцы Партыі і Ураду, якія рашуча праводзяць у жыцьцё мерапрыемствы, накіраваныя на сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі праз калектывізацыю, праз будаўніцтва буйных саўгасаў, мы вышлі з крызісу зернавой гаспадаркі, мы перамаглі голад; даякуючы ўсяму гэтаму шматмільённыя масы бядняцка-серадняцкага сялянства на практыцы бачаць усю перавагу каляктыўнай гаспадаркі і яшчэ больш рашуча становяцца на шлях далейшага разгортваньня калектывізацыі.

Гэтыя посьпехі ў справе калгаснага і саўгаснага будаўніцтва маюць надзвычайна прынцыповае значэньне. Перамога буйнага сацыялістычнага земляробства ў Савецкім Саюзе вырашае гістарычную задачу надзвычайнай важнасьці. Побач з тым, як становіцца зусім яскравым тое, што капіталізм ня здолеў забясьпечыць поўную замену дробнай сельскай гаспадаркі буйнай,—посьпехі сацыялістычнага земляробства ў Савецкім Саюзе паказваюць, што гэта задача можа быць вырашана толькі шляхам будаўніцтва сацыялізму, які забясьпечвае пераход усёй масы сялянскіх гаспадарак на шлях буйных сацыялістычных гаспадарак.

„Супярэчнасьці паміж прамысловасьцю і земляробствам—кажа у сваім дакладзе т. Молатаў—ня толькі ня зьнішчаны капіталізмам, а наадварот пашыраюцца і абвастраюцца ім усё больш; будаўніцтва сацыялізму—наадварот вядзе да зьнішчэньня супярэчнасьцяй паміж горадам і вёскай. Пераход дробнай сялянскай вытворчасьці на шлях буйнай сацыялістычнай вытворчасьці і будаў-

ніцтва саўгасаў адчыняюць шлях да зьнішчэньня супярэчнасьцяй паміж горадам і вёскай“.

Для працоўных Савецкай Беларусі, як Саюзнай нацыянальнай рэспублікі, вельмі цікава прасачыць якім чынам адбіваліся агульныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва Савецкага Саюзу на становішчы паасобных нацыянальных частак Савецкага Саюзу, якім чынам адбівалася і вырашалася важнейшая дырэктыва партыі аб тым, каб зьнішчыць паступова рэшткі гаспадарчай і культурнай адсталасьці паасобных нацыянальных раёнаў. Вывучэньне гэтага пытаньня прыводзіць нас да вываду аб тым, што лінія партыі ў справе рашучага правядзеньняў жыцьцё ленінскай нацыянальнай палітыкі праводзілася рашуча, дзякуючы чаму мы можам адзначыць за апошні час вялізарныя посьпехі ў справе гаспадарчага і культурнага сацыялістычнага будаўніцтва паасобных нацыянальных частак Савецкага Саюзу.

Прывядзем некаторыя даныя для таго, каб паказаць гэта. Рэспубліканскі бюджэт РСФСР вырас у 1931 годзе на 30 проц. у гэты-ж час рэспубліканскі бюджэт УССР на 32 проц., БССР на 35 проц., Закаўказьзя—на 50 проц., Узбекскай рэспублікі—на 61 проц., Туркменскай—на 87 проц., Таджыкскай—на 108 проц.

Такім чынам мы бачым, што ў справе разьмеркаваньня праз бюджэт сродкаў Урад праводзіць рашучы курс нацыянальнай палітыкі, накіраванай на паскарэньне ўздыму адсталых раней раёнаў.

Яшчэ больш красамоўна кажуць лічбы, калі мы будзем паглыбляць наш аналіз і вывучаць становішча работы ў паасобных больш дробных нацыянальных частках Савецкіх рэспублік. Гэта вывучэньне паказвае нам, што пры сярэднім росьце бюджэту РСФСР у 1930 годзе на 37 проц,, бюджэт аўтаномных рэспублік РСФСР вырас на 52 проц; таксама пры агульным росьце ўкладаньняў у прамысловасьць РСФСР у тым-жа 1930 годзе на 45,2 проц., укладаньні ў прамысловасьць аўтаномных рэспублік і абласьцей РСФСР выраслі на 60,6 проц.

Цікавыя даныя мы маем ў адносінах да Карэліі. Гэтыя даныя для нас тым больш цікавыя, што вельмі часта прыходзіцца чытаць у газэтах выступленьні антысавецкіх элемэнтаў Фінляндыі, якія ў сваёй барацьбе супроць Савецкага Саюзу імкнуцца спасылацца на тое, што быццам РСФСР у адносінах да Карэліі праводзіць калёнізатарскую палітыку. Што-ж мы бачым на справе? Колькасьць рабочых Карэліі з 2.300 чал. у 1921 годзе вырасла да 14 000 чал. у 1930 годзе; прамысловасьць Карэліі ў 1930 годзе дала рост на 34 проц. супроць 24 проц. у 1929 годзе., гэта значыць рост прамысловасьці Карэліі вышэй сярэдняга агульна-саюзнага ўзросту. Падвоены плян лясной прамысловасьці ў 1930 годзе выканан на 94,7 проц.; 82 проц. дзяцей школьнага ўзросту ахоплены школамі.

Яшчэ больш цікавымі зьяўляюцца даныя па Дагэстанскай аўтаномнай сацыялістычнай савецкай рэспубліцы. Цікавасьць гэтых даных заключаецца галоўным чынам ў тым, што яны зьяўляюцца паказчыкамі агульных мерапрыемстваў Партыі і Ураду ў дачыненьні да горскіх народаў паўночнага Каўказу, якія ў час панаваньня царызму былі ахвяраваны на паступовае выміраньне і зьнішчэньне. Дагэстанская рэспубліка налічвае 81 народнасьць, мае ў карыстаньні 32 мовы, з якіх 8 моваў існуе для пісьмовых зносін. Удзельная вага найбольшай народнасьці – авараў складае 17,61 проц. Гэта паказвае аб надзвычайнай складанасьці абстаноўкі, з якой прыходзіцца лічыцца там пры разгортваньні сацыялістычнага будаўніцтва. Аднак, рашучае пасьлядоўнае правядзеньне ў жыцьцё ленінскай нацыянальнай палітыкі зьнішчае тыя цяжкасьці, якія зьяўляюцца невырашаемымі для буржуазіі.

Дзякуючы гэтаму і ў гэтай складанай абстаноўцы мы наглядаем агульны гаспадарчы і культурны рост, які паказвае нам аб тым, што гэтая частка Савецкага Саюзу са становішча адзічаньня, выміраньня і г. д. узьнята і пастаўлена на шлях актыўнага ўдзелу ў справе барацьбы за сацыялізм. Так, капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць Дагэстанскай АССР у 1928/29 годзе складалі 5.801 т. р. у 1929/30 годзе—12.750 тыс. руб., або дае рост на 219,8 проц; у 1931 годзе—23.100 тыс. руб.

Прамысловая прадукцыя з кожным годам ўсё больш павялічваецца: у 1928/29 г. яна павялічылася на 475,4 проц., у

1929/30 г.—на 556,3 проц. і ў 1931 годзе —на 1320 проц.

Разам з тым ідзе рост пасеўных плошчаў, што відаць з наступнага: ў параўнаньні з 1923 годам пасеўная плошча вырасла ў 1930 годзе на 248,7 проц., а ў 1931 годзе на 326 проц.

Нам думаецца, што яскравым таксама прыкладам пасьлядоўнага бальшавіцкага правядзеньня ў жыцьцё ленінскай нацыянальнай палітыкі можа служыць і тая дапамога, якую атрымлівае Савецкая Беларусь з боку Савецкага Саюзу. У выніку гэтай сталай дапамогі з боку Савецкага Саюзу сярэднія паказчыкі росту народнай гаспадаркі Савецкай Беларусі значна перавышаюць сярэднія паказчыкі агульнага росту Савецкага Саюзу, і Савецкая Беларусь ня толькі даганяе, а па паасобных галінах сацыялістычнага будаўніцтва нават пераганяе сярэдні ўзровень усяго Савецкага Саюзу.

Так, Савецкая Беларусь зьяўляецца першай саюзнай рэспублікай, дзе пачалося зьдзейсьняцца, дзякуючы дапамозе Савецкага Саюзу, ўсеагульнае абавязковае навучаньне.

Гаворачы аб нацыянальнай палітыцы Савецкага Саюзу, тав. Молатаў у сваім заключным слове адзначыў гэта наступным чынам:

„У сацыялістычнае будаўніцтва ўцягваюцца такія нацыянальныя раёны, эканамічнае разьвіцьцё якіх падтрымлівалася царызмам на надзвычайна нізкай ступені і якія фактычна былі ператвораны ў аб'екты самай драпежніцкай эксплёатацыі з боку пануючых клясаў. Наша гаспадарчае будаўніцтва, накіраванае да найбольшага выкарыстаньня прыродных умоў, вядзе да эканамічнага ўздыму шэраг новых раёнаў. Гэтым самым зьдзейсьняецца ня толькі шпаркі тэмп непасрэднага гаспадарчага разьвіцьця, але і ўздым культуры шэрагу самых адсталых у мінулым нацыянальных рэспублік і абласьцей".

Так, рашуча праводзячы ў жыцьцё ленінскую нацыянальную палітыку і разгортваючы барацьбу супроць ухілаў ад ленінскай палітыкі, вялікадзяржаўнага, як найбольш небясьпечнага, і мясцовых шавінізмаў, Савецкі Саюз пад правадырствам Кампартыі яшчэ больш узмацніўся на падставе інтэрнацыянальнага згуртаваньня працоўных усіх нацыянальнасьцяй у барацьбе за сацыялізм.

Гэты кароткі агляд гаспадарчых дасягненьняў Савецкага Саюзу за мінулы час дае нам магчымасьць з усёй сілай сказаць аб тым, што пры агульным росьце народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу ідзе шпаркае ўзмацненьне яе сацыялістычнага сэктару, ўдзельная вага якога ўсё больш павялічваецца.

Побач з гэтымі зьменамі ў гаспадарцы адбываюцца таксама рашучыя зрухі ў клясавых суадносінах, рашучыя зьмены ў паасобных сацыяльных праслойках Савецкага Саюзу. Ідзе колькасны рост рабочае клясы, ліквідацыя беспрацоўя, паляпшаецца дабрабыт і культурны ўзровень, усё больш узьнімаецца палітычная актыўнасьць рабочых, кіруючая роля рабочае клясы ўсё больш узмацняецца.

„Рабочы,—як кажа аб гэтым тав. Молатаў,—ужо перастае быць рабочай клясай у строгім навуковым сэнсе гэтага слова, ён зьяўляецца кіруючай сілай у савецкай дзяржаве, якая пераможна будуе сацыялізм".

Важнейшай зьменай зьяўляецца тое, што адбываецца у нашым сялянстве. У выніку рашучага павароту сялянства да сацыялізму, сялянскія масы паступова ператвараюцца ў калгасныя масы. Гэта рашуча мяняе ранейшы твар селяніна.

Тав. Молатаў аб гэтым гаворыць наступным чынам:

„Пры ўсёй паступовасьці зжываньня векавых традыцый і звычак дробнага ўласьніка, наш селянін калгасьнік ужо далёка ня той, чым ён быў раней. Не. З калгасьнікаў утвараецца грамадзкі слой новага сацыялістычнага тыпу... Яны рвуцца ўперад да сацыялізму".

У рэзалюцыі па калгаснаму будаўніцтву па гэтым пытаньні сказана наступнае:

„Серадняк, уступіўшы ў калгас, побач з калгасьнікам—ранейшым батраком і бедняком ператвараецца ў сапраўдную і прочную апору савецкай улады ў вёсцы; тым самым у агромнай меры ўзмацняецца змычка рабочае клясы з сялянствам, пашыраецца фундамэнт рабоча-сялянскай улады, для якой ад гэтага часу асноўнай і галоўнай апорай у вёсцы зьяўляецца калгаснае сялянства".

На падставе разгортваньня суцэльнай калектывізацыі, савецкая ўлада перайшла да палітыкі ліквідацыі кулацтва і пасьпяхова зьдзейсьняе гэту палітыку ў працягу апошніх год.

Зараз, калі шматмільённыя масы бядняцка-серадняцкага сялянства на практыцы пераканаліся ў перавагах калгасаў, сталі рашуча на калгасны шлях, а кулацтва—асноўны вораг калгасаў—ліквідуецца як кляса, перад кожным бедняком і серадняком-адзінаасобнікам, яшчэ не ўступіўшым ў калгас, стаіць асноўнае пытаньне—за ці супроць калгасаў.

Бядняк зьяўляецця апорай савецкай улады ў вёсцы, сярэдняе сялянства зьяўляецца саюзьнікам. Але перад кожным бедняком і серадняком стаіць пытаньне аб тым, што бядняк і серадняк-адзінаасобнік, які дапамагае кулаку змагацца з калгасамі і падрывае калгаснае будаўніцтва,—ня можа быць назван саюзьнікам, а тым больш апорай рабочае клясы, ён на справе саюзьнік кулака.

Адзіным шляхам для ўсіх беднякоў і серадняkоў для таго, каб стаць сапраўднай і прочнай апорай савецкай улады зьяўляецца шлях дапамогі калгасам, а потым і ўступленьне ў калгасы.

Ход калектывізацыі ў працягу апошніх тыдняў паказвае, што новыя мільёны сялянскіх гаспадарак ужо вырашылі пытаньне аб тым, што яны з рабочай клясай і ўсім калгасным сялянствам за калгасы, што яны супроць кулакоў.

Адбываюцца таксама глыбокія зьмены і сярод клясава-варожых элемэнтаў. На падставе шырока разгорнутага сацыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту ідзе рашучае выкарчоўваньне карэньняў капіталізму, клясавы вораг усё больш траціць глебу пад сваімі нагамі, у клясавага ворага ўжо няма прочнай апоры ўнутры Савецкага Саюзу. Адсюль, зразумела, што клясавыя ворагі рабочае клясы ў сваёй барацьбе супроць сацыялістычнага будаўніцтва і дыктатуры пралетарыяту, асноўную стаўку робяць на інтэрвенцыю, на ўнешнюю імпэрыялістычную сілу. Судовы працэс над Рамзіным, Громанам і інш. паказалі факты надзвычайнага палітычнага і маральнага разлажэньня сярод гэтых элемэнтаў.

Ня менш яскравы малюнак палітычнага і маральнага разлажэньня даюць матар'ялы і паказаньні арыштаваных Беларускіх нацыянал-дэмакратаў, прызнаўшыхся ў тым, што кіруючыся нянавісьцю да рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства, кіруючыся жаданьнем дапамагчы буржуазіі ў аднаўленьні яе панаваньня над працоўнымі масамі, яны вялі контррэвалюцыйную работу, накіраваную на падрыхтоўку імпэрыялістычнай інтэрвенцыі з боку польскага фашызму.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва Савецкага Саюзу ідуць побач з паступовым паглыбленьнем эканамічнага крызысу капіталістычнага сьвету.

Перамогі сацыялістычнага будаўніцтва выклікаюць абвастрэньне ўзаемаадносін паміж Савецкім Саюзам і варожым яму капіталістычным акружэньнем.

Становішча ўнутры капіталістычнага сьвету характарызуецца тым, што эканамічны крызыс ахоплівае ўсё новыя капіталістычныя дзяржавы, ўсё больш паглыбляецца, і што ўсе спробы буржуазіі затрымаць ці хаця-б паслабіць гэты крызыс не даюць станоўчых вынікаў. Эканамічны крызыс капіталістычных краін характарызуецца ўсё большым зьмяншэньнем вытворчасьці. Так, па Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах вытворчасьць 1930 г. зьменшылася на 32 проц. у параўнаньні з 1929 годам. У Нямеччыне яна зьменшылася на 28 проц., у Англіі—на 19 проц., у Польшчы—на 25 проц. і ў Францыі, якая апошняй папала ў паласу эканамічнага крызысу, яна зьменшылася на 7 проц.

Побач з паглыбленьнем і пашырэньнем крызысу ў прамысловасьці нагляддаецца надзвычайна вялікі аграрны крызыс, які характарызуецца тым, што цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты зьменшыліся да паловы ці $^1/_3$. Гэта зьмяншэньне цэн у першую чаргу адбіваецца на дробных гаспадарках і выклікае разарэньне многіх мільёнаў паасобных фэрмерскіх і сялянскіх гаспадарак капіталістычных краін.

Мы ўжо ўсе ведаем, што ў капіталістычных краінах налічваецца каля 30 мільёнаў беспрацоўных—гэта значыць, калі лічыць, што кожны беспрацоўны мае сям'ю ў 3-4 душы, то звыш 100 мільёнаў людзей у капіталістычных краінах сёньня ня маюць работы, ня маюць

хлеба, а маюць уперадзе пэрспэктывы галоднай сьмерці. Разам з тым ідзе далейшае павялічэньнеміравых запасаў, пры наяўнасьці росту беспрацоўя. Павялічэньне міравых запасаў ставіць перад капіталістычнымі краінамі праблему аб тым, што рабіць з гэтымі запасамі. У Канадзе ў сучасны момант працуюць над пытаньнем аб тым, якім чынам прыстасаваць топкі для таго, каб з большым эфэктам паліць лішнія запасы пшаніцы. Гэта ў той час, калі сотні мільёнаў людзей у літаральным сэнсе гэтага слова, уміраюць ад голаду.

Мы ўсе ведаем, што буржуазныя вучоныя і палітычныя дзеячы імкнуліся даказаць, што гэты крызыс мае часовы характар ці што ніякага крызысу няма, і што капіталістычныя краіны знаходзяцца ў паласе „росквіту“. Аднак, тыя папярэджаньні, якія рабіліся Камінтэрнам, аказаліся правільнымі. Крызыс перажываемы ў сучасны момант капіталістычнымі краінамі зьяўляецца глыбокім арганічным крызысам, крызысам усёй капіталістычнай сыстэмы.

Асноўнай прычынай сучаснага крызысу капіталістычных краін зьяўляецца існаваньне капіталістычнай сыстэмы. Гэта думка прасякла ў паасобныя колы грамадзянства буржуазных краін і прыводзіць да пытаньня аб тым, ці мае права капіталістычная сыстэма на далейшае існаваньне.

Нам думаецца, што задача рэвалюцыйных рабочых і Кампартый усяго сьвету заключаецца ў тым, каб гэтыя думкі як мага хутчэй прасяклі ў самыя шырокія масы працоўных і каб працоўныя ўсяго сьвету пад кіраўніцтвам Кампартыі хутчэй пачалі шукаць выхаду з крызысу, шляхам зьнішчэньня капіталістычнай сыстэмы і ўстанаўленьня новай сыстэмы саветаў. Гэта ёсьць адзіны шлях да выхаду капіталістычных краін з перажываемага імі крызысу.

Побач з крызысам капіталістычных краін адзначаецца абвастрэньне ўзаемаадносін паміж мэтраполіямі імпэрыялістычных дзяржаў і іх калёніямі. Праўда, мы маем за апошні час паведамленьне аб тым, што індыйскія буржуазныя рэфармісты пайшлі на згоду з ангэльскім урадам. Аднак, для нас усіх вядома і тое, што гэтыя фокусы індыйскіх нацыяналістаў сёньня ўжо ня могуць ашукаць рабочых і шырокія масы сялянства Індыі, якія на цэлым шэрагу мітынгаў заявілі свае пратэсты супроць прадажніцкай палітыкі Гандзі і яго прыхільнікаў.

Гэта дае падставу нам рабіць вывад аб тым, што ідзе далейшае абвастрэньне ўзаемаадносін паміж калёніямі і мэтраполіямі ангэльскай імпэрыі.

Тое самае наглядаецца і ў узаемаадносінах з калёніямі іншых імпэрыялістычных дзяржаў. Той шырокі рэвалюцыйны рух, які ў сучасны момант адбываецца ў Кітаі, дзе на тэрыторыі з насельніцтвам звыш 50 мільёнаў чалавек існуе савецкая ўлада, арганізавана Чырвоная Армія, дзе ідзе барацьба за вызваленьне ўсяго Кітаю ад сваёй і імпэрыялістычнай буржуазіі, можа служыць найяскравейшым прыкладам абвастрэньня становішча ў калёніях.

Шуканьне выхаду з эканамічнага і палітычнага крызысу яшчэ больш узмацняе барацьбу за першынства паміж паасобнымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі. Абвастраюцца ўзаемаадносіны паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі.

Ня гледзячы на тое, што мінулы пэрыяд характарызаваўся значнай колькасьцю пацыфісцкіх заяў, канфэрэнцый і г. д. з боку імпэрыялістычнай буржуазіі мы ўсе добра ведаем, што гэта ўсё служыла толькі прыкрыцьцём для далейшага павялічэньня ўзброеньняў капіталістычных дзяржаў. Ня гледзячы на тое, што прадстаўнікі Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны і г. д. засядаюць і абгавараюць пытаньні аб папярэджаньні, аб небясьпецы вайны, прыкрываючыся для гэтага Лігай Нацый, мы ўсе добра ведаем, што гэта робіцца для таго, каб прыкрыць сапраўдныя інтрыгі паасобных імпэрыялістычных дзяржаў адной супроць другой, каб прыкрыць тое, што сапраўды ідзе далейшае ўзброеньне; за мінулы час узброеныя сілы капіталістычных дзяржаў ня толькі не паменшыліся, а наадварот—павялічыліся.

Усё гэта разам узятае паказвае нам, што ва ўзаемаадносінах паміж капіталістычнымі дзяржавамі існуе надзвычайная напружанасьць, што на даным этапе пагроза новай імпэрыялістычнай вайны надзвычайна павялічылася.

Перадзел калёній, барацьба за рынкі збыту, імкненьня за кошт пераможаных палепшыць становішча пераможных-вось звычайныя шляхі імпэрыялістых у пошуках выхаду з эканамічага крызісу, вось прычына таго, што капіталістычны сьвет шалёна рыхтуецца да новай інпэрыялістычнай вайны.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва Савецкага Саюзу, посьпехі выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады разам з шэрагам супярэчнасьцяў паміж імпэрыялітычнымі дзяржавамі і крахам надзей імпэрыялістых на перараджэньне СССР выклікаюць узмацненьне агрэсыўнай палітыкі капіталістычных дзяржаў супроць саветаў. Буржуазія ўсяго сьвету бачыць у пяцігодцы пагрозу для існаваньня капіталістычнага сьвету. Калі раней раздаваліся галасы няверʻя ў сілу Савецкага Саюзу, ў яго здольнасьці выканаць пяцігодку, калі пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва называўся фантазіяй і г. д., то сёньня капіталістычны сьвет, расцэньваючы, на падставе вывучэньня, посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва Савецкага Саюзу, рашуча зьмяніў свае адносіны да гэтага пытаньня, і пытаньне аб пяцігодцы сёньня ўжо ня ёсьць пытаньне толькі Савецкага Саюзу, а стала адным з важнейшых міжнародных пытаньняў.

Калі для рабочае клясы Савецкага Саюзу, рабочых і працоўных усяго сьвету барацьба за пяцігодку—гэта ёсьць барацьба за сацыялізм, перамога пяцігодкі—гэта ёсьць перамога ў барацьбе за сацыялізм, то для сусьветнай буржуазіі перамога пяцігодкі адзначае пагрозу для яе існаваньня, бо перамога сацыялізму ў Савецкім Саюзе разам з тым прысьпяшае перамогу сацыялізму ва ўсім сьвеце.

Вось чаму мы наглядаем на працягу ўсяго мінулага часу з боку кіруючых колаў сусьветнай буржуазіі, на чале якой стаіць француская буржуазія, імкненьне арганізаваць вайну супроць Савецкага Саюзу, падрыхтаваць інтэрвенцыю Савецкага Саюзу. Дапаможнікам сусьветнай буржуазіі ў гэтай барацьбе супроць Савецкага Саюзу зьяўляецца II-гі інтэрнацыянал, удзельнікі якога ў выглядзе сацыял-фашыстых усяго сьвету сталі на шлях адкрытай дапамогі капіталу ў барацьбе супроць Савецкага Саюзу.

Важнейшым пытаньнем у справе падрыхтоўкі вайны супроць Савецкага Саюзу буржуазія лічыць падрыхтоўку грамадзкай думкі сярод шырокіх мас насельніцтва буржуазных дзяржаў. У гэтых мэтах праводзяцца палітычныя працэсы, мэта якіх зьяўляецца мабілізаваць грамадзкай думку супроць Савецкага Саюзу.

У апошні час мабілізацыя грамадзкай думкі супроць Савецкага Саюзу праводзіцца шляхам распаўсюджваньня чутак аб савецкім „дэмпінгу“ і аб карыстаньні ў Савецкім Саюзе „прымусовай“ працы.

Абсурднасьць абвінавачваньня Савецкага Саюзу ў „дэмпінгу“ відаць хаця-б з таго, што вываз з Савецкага Саюзу ў буржуазныя краіны складае толькі 1,5 проц. агульнага замежнага гандлю гэтых краін. Гэта лічба паказвае тое, што такіх уплываў на замежны гандаль і становішча прамысловасьці, якія імкнуцца прыпісаць савецкаму экспарту, сапраўды савецкі экспарт, дзякуючы сваёй нязначнай колькасьці, аказаць ня можа.

Тым больш абсурдным зьяўляецца абвінавачваньне Савецкага Саюзу ў карыстаньні прымусовай працай.

Правільна паставіў пытаньне тав. Молатаў, калі ён, даючы тлумачэньні па гэтым пытаньні даказаў, што падняволеная праца існуе там, дзе існуе капітал і дзе рабочая кляса прымушана прадаваць сваю працу. Ня можа быць падняволенай працы ў краіне саветаў, дзе рабочая кляса зьяўляецца кіруючай клячай у дзяржаве, дзе ўся праца адбываецца на карысьць сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя абвінавачваньні Савецкага Саюзу ў дэмпінгу, падняволенай працы і г. д. выклікалі надзвычайнае абурэньне з боку дэлегатаў VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў, якія з лічбамі і фактамі ў руках апраўяргалі ўсе гэтыя абвінавачваньні.

Таксама рашучае абурэньне выклікае запатрабаваньне некаторых буржуазных колаў аб назначэньні асобнай камісіі, якая-б, выехаўшы на месцы працы ў Савецкі Саюз, занялася-б праверкай гэтага пытаньня.

Тав. Молатаў унёс наступную прапанову: вылучыць шляхам выбару на ра-

бочых сходах буржуазных краін дэлегацыі для пасылкі іх у Савецкі Саюз для вывучэньня становішча працы, а з другога боку—вылучыць рабочую дэлегацію з рабочых Савецкага Саюзу, якія таксама выехалі-б у буржуазныя краіны для вывучэньня становішча працы на капіталістычных прадпрыемствах. Пры гэтым асноўнай умовай павінна быць тое, што вынікі абсьледваньня гэтых камісій будуць надрукаваны і шырока распаўсюджаны сярод рабочых мас ўсіх капіталістычных краін.

Зразумела, што гэтая прапанова тав. Молатава сустрэла бурнае адабрэньне VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў; таксама зразумелым зьяўляецца і тое, што на гэтую прапанову тов. Молатава капіталістычныя краіны ніколі не згадзяцца.

Праводзячы шырокаю варожую агітацыйную кампанію супроць Савецкага Саюзу, капіталістычныя краіны становяцца на шлях эканамічнай блёкады Савецкага Саюзу. Паказчыкам гэтай блёкады зьяўляюцца выданыя ў Амэрыцы і Францыі законы, якімі забараняецца экспарт з Савецкага Саюзу тавараў, у дачыненьні якіх ёсьць падазронасьць быццам-б яны зьяўляюцца прадуктам прымусовай працы.

Такім самым фактам эканамічнай блёкады можа служыць арганізацыя аграрных канфэрэнцый суседніх з Савецкім Саюзам дзяржаў, асноўнай мэтай якіх зьяўляецца арганізацыя барацьбы супроць савецкага экспарту.

На працэсе „Прампартыі" з усёй яскравасьцю было выяўлена тое, што капіталістычныя дзяржавы, на чале якіх стаіць Францыя, рыхтавалі напад на Савецкі Саюз ужо ў бягучым 1931 годзе.

Падзеі на Усходня-Кітайскай чыгунцы зьяўляюцца паказчыкам таго, што імпэрыялістыя імкнуліся спрабаваць сілы і абароназдольнасьць савецкай краіны. Толькі, дзякуючы рашучай мірнай палітыцы Савецкага ўраду, дзякуючы ўзмацненьню абароназдольнасьці нашай краіны, Савецкі Саюз папярэдзіў вайну з боку імпэрыялістых; аднак пагроза вайны з боку капіталістычнага сьвету не зьмяншаецца.

Вось чаму, разгортваючы працу сацыялістычнага будаўніцтва, рабочая кляса і ўсе працоўныя Савецкага Саюзу, павінны рыхтаваць абарону Савецкага Саюзу, павялічваючы абароназдольнасьць краіны і баяздольнасьць Чырвонай Арміі.

З папярэдняга агляду відаць, што Савецкі Саюз у справе барацьбы за сацыялізм мае вялізарнейшыя посьпехі. Аднак, справа барацьбы за сацыялізм вымагае ад кожнага барацьбіта за сацыялізм зусім рэальнай ацэнкі дасягнутых посьпехаў для таго, каб не пераацаніць свае сілы, для таго каб усю далейшую барацьбу за перамогу сацыялізму пабудаваць на падставе рэальнага вучоту нашых мажлівасьцяй і канкрэтнай абстаноўкі.

Мы прайшлі за мінулы час важнейшы гістарычны этап. У вініку гэтага мы ўступілі ў апошні пэрыяд НЭП'у—у паласу непасрэднага сацыялістычнага будаўніцтва.

VI Усесаюзны Зьезд Саветаў паставіў перад намі канкрэтную задачу—на працягу бліжэйшага дзесяцігодзьдзя дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. Гэта задача пастаўлена VI-м Усесаюзным Зьездам Саветаў на падставе ўлічэньня сіл і здольнасьцяй рабочаеклясы і ўсіх працоўных Саюзу. Калі нельга пераацэньваць свае сілы, то з другога боку нельга іх і недаацэньваць. Недаацэнка сіл у барацьбе за сацыялізм можа прывесьці да страты тэмпаў, а страта тэмпаў,—кажа тав. Молатаў,—ёсьць рызыка галавой, рызыка савецкай улады.

Падыходзячы да тых задач, якія пастаўлены VI-м Усесаюзным Зьездам Саветаў, мы павінны рабіць ацэнку гэтых задач з пункту погляду таго, ў якой меры яны адпавядаюць узятым намі тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва, ў якой меры яны забясьпечваюць вырашэньне задачы аб тым, на працягу дзесяцігодзьдзя дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

Народна-гаспадарчы плян на 1931 год прадугледжвае патрэбныя работы. Народна-гаспадарчы даход павінен папавялічыцца на 39, проц. валавая прадукцыя на 45 проц., сабекошт зьніжаецца на 10 проц. а па прамысловасьці Наркамснабу—на 11 проц.

Каб правільна ацаніць значэньне гэтых лічбаў досыць паказаць на тое,

што пры выкананьні гэтых плянаў валавая прадукцыя прамысловасьці Савецкага Саюзу будзе ў два разы перавышаць тое, што атрымана ад прамысловасьці за мінулыя 4 гады; такім-жа паказчыкам можа служыць і тое, што калі за 4 гады 1927—1930 г. г. уключна пушчана ў ход новых 323 прадпрыемствы, то ў 1931 годзе павінна быць пушчана 518 новых прадпрыемстваў.

Мы паставілі перад сабой задачу выканаць пяцігодку ў чатыры гады. Па паасобных галінах народнай гаспадаркі гэтая пяцігодка можа і павінна быць выканана ў карацейшыя тэрміны. Згодна вызначаных плянаў па чыгуну, сталі, пракату і баваўнянай прамысловасьці пяцігодка выконваецца ў чатыры гады; па цэмэнту пяцігодка выконваецца ў $3^{1}/_{2}$ гады, па электратэхніцы, каменаму вугалю, торпу, цукру — пяцігодка выконваецца ў 3 гады; па нафце, медзі, агульнаму машынабудаўніцтву, аўтатрактарнаму будаўніцтву, сельска-гаспадарчаму машынабудаўніцтву, судабудаўніцтву, паравозабудаўніцтву — пяцігодка выконваецца ў $2^{1}/_{2}$ гады. Поўнае выкананьне гэтых меркаваньняў забясьпечвае выкананьне пяцгодкі ў $3^{1}/_{2}$ гады, а па цяжкай прамысловасьці — менш чым у 3 гады. Па Азербайджанскай нафце пяцігодка ужо выканана.

Выкананьне гэтых задач патрабуе надзвычайнай сьвядомасьці і дысцыплінаванасьці рабочае клясы, ўсіх нашых арганізацый; патрэбна мабілізацыя ўсіх сіл для выкананьня гэтых задач.

Вось чаму задача, пастаўленая ў мэталюргіі, каб замест 10 мільёнаў тон чыгуна, вызначаных па пяцігодцы, даць 17 мільёнаў тон была вядома ўсім працоўным, каб за выкананьнем гэтай задачы быў пастаўлен агульна-саюзны нагляд, каб з боку ўсіх працоўных Савецкага Саюзу была арганізавана дапамога выкананьню гэтай задачы; таксама мерапрыемствы па ўтварэньні новай мэталюргічнай базы ў выглядзе Урала-Кузьнецкага басэйна, які будзе даваць 2/5 усяго мэталу Савецкага Саюзу, павінны быць вядомы ўсім працоўным і ўсе працоўныя павінны арганізаваць дапамогу пасьпяховаму вырашэньню гэтых задач.

Мінулыя посьпехі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва Савецкім Саюзам дасягнуты на падставе надзвычайнага росту энтузіязму рабочае клясы, якая паказала за мінулы час новыя формы сацыялістычнай работы ў выглядзе ўдарніцтва, сацспаборніцтва і г. д. і г. д. Новыя задачы, што стаяць перад намі вымагаюць таго, каб гэтыя новыя формы работы ахапілі ўсю рабочую масу і ў першую чаргу партыйцаў і камсамольцаў, каб той энтузіязм, з якім рабочая маса бралася за выкананьне адказьнейшай задачы ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, стаў штодзённым зьявішчам і ператварыўся ў новыя вышэйшыя сацыялістычныя паказчыкі выпрацоўкі, якасьці, зьніжэньня сабекошту і г. д. і г. д. Гэта забясьпечыць нам тое, што асноўная задача сацыялістычнага будаўніцтва па індустрыялізацыі краіны будзе пасьпяхова вырашацца.

Зусім зразумела, што асноўная частка працы VI-га Усасаюзнага Зьезду Саветаў была прысьвечана пытаньням сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Будаўніцтва буйных саўгасаў і перабудова адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак праз утварэньне калгасаў—гэта ёсьць той шлях, праз які будзе адбывацца сацыялістычная перабудава сельскай гаспадаркі, праз які будуць зьнішчацца супярэчнасьці паміж прамысловасьцю і земляробствам, праз які будуць пасьпяхова вырашацца задачы вырашэньня пабудовы сацыялістычнай экономікі Савецкага Саюзу.

Зьезд Саветаў паставіў перад кожным бедняком і серадняком пытаньне аб тым—за або супроць калгасаў. Гэта зусім ня значыць, што такою пастаноўкаю пытаньня парушаецца ленінскі прынцып дабраахвотнасьці. Толькі ў тым выпадку калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак будзе даваць адпаведны эфэкт, калі яна будзе адбывацца на падставах рашучага захоўваньня прынцыпаў дабраахвотнасьці.

Аднак, было-б зусім няправільна, калі-б пытаньне аб дабраахвотнасьці замянялася-б пытаньнем аб самацёку, аб самацёчным працэсе ў справе калектывізацыі. Для бедняка і серадняка няма іншага шляху акрамя калектывізацыі— гэтага ёсьць адзіны шлях, які вызваляе бядняцка-серадняцкія масы ад кулацкай

кабалы, які зьнішчае жабрацтва, які забясьпечвае сапраўднае палепшаньне матар'яльнага і культурнага дабрабыту шматмільённых мас бядняцка-серадняцкага сялянства.

Ворагам калектывізацыі зьяўляецца кулацтва, якое, вядучы барацьбу супроць калектывізацыі, гэтым самым абараняе сваю кулацкую гаспадарку, абараняе свае права на эксплёатацыю батрацтва і беднаты. Барацьба супроць калектывізацыі—гэта ёсьць барацьба за захоўваньне і за разгортваньне капіталістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Вось чаму савецкая ўлада, на падставе посьпехаў суцэльнай калектывізацыі, рашуча стала на шлях ліквідацыі кулацтва як клясы і паставіла перад кожным бедняком і серадняком пытаньне аб тым— з кім ён ідзе ў справе калектывізацыі: з кулаком, супроць калгасаў, ці з рабочаю клясаю і з асноўнай апорай савецкай ўлады ў вёсцы—калгасным сялянствам, за калгасы.

Мы ўжо маем адказ з боку агромных мас бядняцка-серадняцкага сялянства, якія абгаварваючы пастановы VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў, рашуча становяцца на шлях аграмаджаньня сваіх гаспадарак, на шлях калектывізацыі. Таксама, як ў Саюзе, і ў Савецкай Беларусі мы маем за апошнія месяцы паскорныя тэмпы ўступленьня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы. Так, за тэрмін з 1-га студзеня да 10 сакавіка ў БССР арганізавалася звыш 1.000 новых калгасаў. У Савецкай Беларусі пастаўлена задача, каб за час вясеньняй пасеўнай кампаніі аграмадзіць у калгасах ня менш 30 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, каб да канца гэтага году аграмадзіць ня менш 45 проц. гэтых гаспадарак.

Вырашэньне гэтай задачы патрабуе таго, каб пастанова Зьезду Саветаў аб шырокім разгортваньні растлумачальнай работы, аб давядзеньні гэтай растлумачальнай работы да кожнага паасобнага бедняка, серадняка, беднячкі і серадлячкі выконвалася-б усімі нашымі арганізацыямі, і ў першую чаргу тымі арганізацыямі, якія працуюць на вёсцы. Гэта задача пастаўлена таксама і перад калгасьнікамі, якія, будучы практыкамі ў справе калектывізацыі, павінны на сваім асабістым прыкладзе даказаць ваколічнаму бядняцка-серадняцкаму сялянству перавагі калгаснага будаўніцтва і неабходнасьць уступленьня ў калгасы.

Барацьба за калектывізацыю, за аграмаджэньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак павінна адбывацца побач з працягваньнем рашучай барацьбы супроць кулацтва, аж да поўнай ліквідацыі кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі. Гэтая барацьба супроць кулацтва вымагае таго, каб дырэктывы Партыі і Ураду аб рабоце з бядняцкімі масамі вёскі, аб арганізацыі беднаты,—каб гэтыя дырэктывы выконваліся і каб усе мерапрыемствыў вёсцы праводзіліся абапіраючыся на калгасьнікаў, як на сапраўдную і прочную апору савецкай улады на вёсцы, на беднату і ў саюзе з серадняцкімі масамі вёскі.

Зразумела, што посьпехі калгаснага будаўніцтва ў значнай меры залежаць ад становішча саміх калгасаў. VI Усесаюзны Зьезд Саветаў адзначыў, побач з дасягненьнямі ў калгасным будаўніцтве, цэлы шэраг недахопаў у працы калгасаў. Да ліку такіх недахопаў, як важнейшых, аднесяны: адсутнасьць вучоту ў калгасах і неправільнае разьмеркаваньне прыбыткаў калгасаў, якія ў накаторых калгасах вытвараюцца падушна.

Пастанова Зьезду Саветаў аб арганізацыі правільнага вучоту ў калгасах, а таксама аб рашучым правядзеньні ў жыцьцё разьмеркаваньня ўраджаю ў адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю работы, праробленай калгасьнікамі, павінна быць рашуча праведзена ў жыцьцё. Павінна быць узьнята рашучая барацьба супроць ураўнілаўкі, супроць расхлябанасьці, распушчанасьці ўнутры калгасаў, павінна быць узьнята барацьба супроць прасякнуўшых у калгасы кулацкіх элемэнтаў, павінна быць праведзена ачыстка калгасаў ад кулацкіх элемэнтаў, якія пранікаючы ў калгасы імкнуцца разлажыць калгасы, скампрамантваць іх работу, падарваць аўтарытэт калгасу ў вачох ваколічнага бядняцка-серадняцкага насельніцтва.

Перад калгаснай сыстэмай пастаўлена ў гэтым годзе вялізарная задача, каб пасеўную плошчу калгасаў ахапіла ня менш 50 проц. усёй пасеўнай плошчы. Гэтая задача ўскладае на калгасы БССР вя-

лізарную адказнасьць за тое, каб шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў яшчэ больш узмацніць сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі. Асабліва ўважліва павінны адносіцца калгасьнікі да тэй часткі пастановы VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў, дзе гаворыцца аб абавязацельствах калгасаў перад дзяржавай і аб значэньні разгортваемай прамысловасьці.

Асноўнай формай гаспадарчых узаемаадносін калгасаў з дзяржаўнымі каапэрацыйнымі арганізацыямі зьяўляецца дагавор аб кантрактацыі. Гэты дагавор мае двубаковы характар, які ўскладае абавязкі з аднаго боку на дзяржаву, а з другога боку на калгасы перад дзяржавай.

Гаворачы аб выкананьні задач калгаснага будаўніцтва кожны калгас павінен выходзіць з неабходнасьці своечасовага і поўнага выканаьня кантрактацыйных абавязацельстваў; побач з гэтым кожны калгасьнік павінен яскрава ўяўляць сабе тое, што посьпехі калгаснага будаўніцтва зьяўляюцца вынікам таго, што Савецкі Саюз рашуча праводзіць палітыку індустрыялізацыі краіны. Толькі на падставе дасягнутых посьпехаў індустрыялізацыі Савецкага Саюзу стаў магчымым уздым сельскай гаспадаркі Савецкага Саюзу.

Вось чаму асабліва ўважліва павінны выконвацца калгасамі тыя абавязкі, якія могуць садзейнічаць пасьпяховаму вырашэньню задач індустрыялізацыі Савецкага Саюзу.

Пастановы Зьезду Саветаў аб калектывізацыі і аб саўгасным будаўніцтве трэба ўважліва вывучаць на ўсіх сялянскіх сходах, кожны селянін-адзінаасобнік павінен ведаць, на памяць што сказаў VI Усесаюзны Зьезд Саветаў.

„Кожны дзень адтэрміноўкі вашага ўступленьня ў калгасы затрымлівае рост вашага дабрабыту, пазбаўляе вас магчымасьці неадкладна карыстацца ўсімі перавагамі буйнай арцельнай гаспадаркі“.

Таксама ўсе калгасьнікі павінны ведаць і прыняць усе крокі да таго, каб выканаць наступныя дырэктывы VI-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў:

„Важнейшай задачай зьяўляецца ў вясну бягучага году засеяць па меншай меры 50 мільёнаў га і гэтым самым пашырыць сваю пасеўную плошчу на 10 мільёнаў га і заняць калгасы пасевам ня менш паловы ўсяго яравога пасеўнага кліну нашай краіны.

Вопыт вашага пасеву вясной 1930 г. паказвае, што гэтую задачу вы выканаеце цалкам, калі зможаце правільна ў адпаведнасьці з статутам арцелі і вопытам лепшых калгасаў арганізаваць работу калгасьнікаў і разьмеркаваньне прадуктаў у адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю работы калгасьнікаў“.

Побач з разгортваньнем калгаснага будаўніцтва вялізарнае значэньне мае поўнае выкананьне задач, пастаўленых VI Зьездам Саветаў у справе будаўніцтва саўгасаў. Значэньне гэтай работы падкрэсьлена VI-м Усесаюзным Зьездам Саветаў, які сказаў, што толькі адначасовае разьвіцьцё саўгасаў і калгасаў на базе растучай сацыялістычнай індустрыі, забясьпечваюць завяршэньне ў асноўным у гэтую пяцігодку калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

У пастанове па саўгаснаму будаўніцтву звярачваюць на сябе ўвагу тыя яго часткі, што вызначаюць значэньне саўгасаў для сялянства. Зьезд папярэдзіў аб тым, што імкненьне параўняць саўгасы і калгасы, стварыць скарасьпелыя саўгасныя камбінаты, а тым больш падпарадкаваць калгасы саўгасам зьяўляецца грубейшым парушэньнем палітыкі савецкай улады.

Саўгасы зьяўляюцца дзяржаўным прадпрыемствам, дзе дзяржава зьяўляецца поўным гаспадаром, калгасы-ж наадварот зьяўляюцца прадпрыемствамі, арганізаванымі сялянамі, дабраахвотна аграмадзіўшымі свае сродкі вытворчасьці і вядучых гаспадарку на зямлі, што належыць дзяржаве. Гаспадарамі калгасаў зьяўляюцца калгасьнікі, якім дзяржава аказвае ўсялякую падтрымку.

Аднак, з другога боку імкненьне супроцьпаставіць калгасы саўгасам таксама было-б шкодным. Саўгас, як гаспадарка з перадавой тэхнікай, з сацыялістычнымі формамі арганізацыі працы, паказвае сялянству перавагу буйнай гаспадаркі і зьяўляецца кіруючай сілай, якая палягчае паварот сялян на шлях калектывізацыі.

Вось чаму справа разгортваньня саўгасаў, справа перамогі недахопаў саўгаснага будаўніцтва, справа выкананьня саўгасамі тых вялізарных задач, пастаўленых перад імі VI Усесаюзным Зьездам Саветаў,—гэта ёсьць ня толькі справа саўгасных рабочых, але і справа ўсіх калгасьнікаў, справа ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства.

Справа саўгасаў—пастанавіў VI Усесаюзны Зьезд Саветаў—ваша агульная справа. Кожны крок уперад у разьвіцьці саўгасаў паляпшае матар'яльнае становішча рабочага, селяніна, палягчае далейшы рост калгасаў і ўзмацняе рост СССР.

Вось чаму Зьезд Саветаў выказаў упэўненасьць, што працоўныя масы Савецкага Саюзу з усёй энэргіяй падтрымліваюць будаўніцтва саўгасаў і дадуць рашучы адпор ворагам саўгасаў—кулаку, шкодніку, бюракрату і правым ухілістам.

Другая бальшавіцкая вясна павінна паслужыць для таго, каб, выконваючы яе заданьні па пашырэньні пасяўной плошчы, ўзьняцьці ўраджайнасьці, кантрактацыі і г. д., у той жа час па бальшавіцку правесьці работу ў мэтах узмацненьня і пашырэньня калгаснага і саўгаснага будаўніцтва і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі.

VI Зьезд Саветаў адбыўся ў той час, калі вызначаліся вынікі работы ў справе барацьбы за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за першыя два месяцы трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Зьезд адзначыў, што гэтыя першыя месяцы паказваюць шэраг прарываў на паасобных вучасткак сацыялістычнага будаўніцтва, і што гэтыя прарывы залежаць ў асноўным ад недастатковай увагі, ад недастатковай мабілізацыі на выкананьне задач.

Вось чаму патрэбна далейшая мабілізацыя сіл для таго, каб забясьпечыць ня толькі запаўненьне вызначыўшыхся прарываў, але поўнае выкананьне плянаў бягучага рашаючага году пяцігодкі.

Важнейшы момант у выкананьні гэтых задач зьяўляецца барацьба за якасьць работы. Барацьба за якасьць работы—гэта ёсьць барацьба за сапраўднае выкананьне плянаў, за перамогу сацыялізму. Таму, пры вырашэньні плянаў сацыялістычнага будаўніцтва, ўвага павінна быць накіравана ня толькі на колькаснае выкананьне гэтых плянаў, але і на якаснае выкананьне іх.

З ліку важнейшых задач, што стаяць перад намі, зьяўляецца задача барацьбы за зьніжэньне сабекошту. Значэньне гэтай задачы вынікае з таго, што зьніжэньне сабекошту на 1 проц. у галіне прамысловасьці дае эканомію ў суме 180 мільёнаў рублёў; зьніжэньне сабекошту будаўніцтва на 1 проц. дае эканомію ў суме 100 тыс. руб. Такім чынам невыкананьне задач па зьніжэньні сабекошту адбіваецца на выкананьні вызначаных намі плянаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Вельмі часта пры вырашэньні задач сацыялістычнага будаўніцтва мы ў сучасны момант упіраемся ўжо не ў недахоп мэханічнага абсталяваньня, а ў няўменьне карыстацца гэтым мэханічным абсталяваньнем як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі. У мінулым годзе заўважан цэлы шэраг прыкладаў, калі невыкананьне задач, невыкананьне прамфінпляну тлумачылася выключна няўменьнем пераключацца на новыя формы працы, нескарыстаньне мэханічнага абсталяваньня для работы; камбайн і іншыя складаныя машыны вельмі часта стаялі без выкарыстаньня ў той час, калі не хапала рабочых рук для выкананьня важнейшых сельска-гаспадарчых работ.

Данбас ня выконвае сваіх плянаў па выпрацоўцы каменнага вугалю дзякуючы недахопу рабочых рук у той час, калі шэраг мэханічнага абсталяваньня, якое можа замяніць гэтыя рабочыя рукі, ці зусім не выкарыстоўваецца ці выкарыстоўваецца не ў дастатковай меры.

Вось чаму на сёньняшні дзень задача аўладаньня тэхнікай зьяўляецца важнейшай задачай.

Тав. Сталін па гэтым пытаньні сказаў:

„Пара, даўно пара, павярнуцца тварам да тэхнікі; пара адкінуць стары лёзунг, аджыўшы лёзунг, аб няўмяшацельстве ў тэхніку і стаць сэмім спэцыялістамі, знатакамі справы, стаць самім поўнымі гаспадарамі справы.

Бальшавікі павінны аўладаць тэхнікай, пара бальшавікам самім стаць

спэцыялістамі. Тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё“.

Аўладаньне тэхнікай, аўладаньне той справай, якая даручаецца партыяй і савецкай уладай—вось тое, што стаіць у сучасны момант перад кожным работнікам, на кожным вучастку даручанай яму работы.

Вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва рэканструкцыйнага пэрыяду, бальшавіцкія тэмпы гэтага пэрыяду патрабуюць таго, каб усе арганізацыі рашучым чынам павярнуліся тварам да гэтых новых задач.

XVI Зьезд партыі рашуча паставіў пытаньне аб прыстасаваньні партыйнага, прафэсыянальнага і савецкага апарату, а таксама і іншых арганізацый да пасьпяховага вырашэньня гэтых задач. Ужо ідзе прыстасаваньне партыйнага апарату да задач выкананьня прамфінпляну, да задач калектывізацыі і г. д.; таксама рашуча перабудоўваецца прафэсыянальны апарат. Ліквідацыя акруг, пераход на раённую сыстэму зьяўляецца тым мерапрыемствам, якое павінна садзейнічаць рашучай перабудове савецкага апарату ў адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду.

Перавыбары саветаў, што адбыліся напярэдадні Х-га Ўсебеларускага і VI-га Ўсесаюзнага Зьезду Саветаў праводзіліся намі пад лёзунгам рашучага павароту саветаў тварам да вытворчасьці, тварам да калектывізацыі. Вынікі справаздачнаперавыбарчай кампаніі паказваюць нам, што ў пэўнай меры гэтая задача намі выканана.

Аднак, было-б няправільна сказаць, што ўжо ўсё зроблена, што ўжо саветы перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з задачамі сучаснага пэрыяду.

Вось чаму, гаворачы аб выкананьні задач сацыялістычнага будаўніцтва, нам трэба рашуча паставіць пытаньне аб тым, каб тая рэарганізацыя сыстэмы кіраўніцтва, якая намі праведзена, была даведзена да канца, каб пастановы Партыі і Ураду аб рашучай дапамозе раённым выканаўчым камітэтам і сельсаветам як з боку матар'яльнага, так і вылучэньнем адпаведных работнікаў, былі праведзены ў жыцьцё.

„Агромністыя задачы,—кажа VI Зьезд Саветаў,—што стаяць перад нашай краінай ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, патрабуюць перабудовы ўсёй працы Саветаў і савецкага апарату, павароту іх тварам да вытворчасьці, да калгаснага будаўніцтва, рашучага перамаганьня апартунізму і адставаньня ад бальшавіцкіх тэмпаў ва ўсёй савецкай працы зьверху да нізу, арганізацыі строгай праверкі фактычнага выкананьня прынятых пастаноў.

Толькі ў тым выпадку, калі палітычная актыўнасьць рабочае клясы і ўсіх працоўных знойдзе свае арганізацыйнае афармленьне ў саветах, калі саветы пад кіраўніцтвам Кампартыі сапраўды будуць стаяць на чале вырашэньня задач сацыялістычнага будаўніцтва,—мы будзем упэўнены ў тым, што гэтая задача пасьпяхова выконваецца, што гэтыя задачы выконваюцца ў адпаведнасьці з генэральнай лініяй нашай партыі.

Пасьпяховае вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва з асаблівай вастратой ставіць перад намі пытаньне аб кадрах. Нам не хапае вельмі часта работнікаў на важнейшых вучастках сацыялістычнага будаўніцтва. Зразумела, што пытаньне аб кадрах вырашаецца савецкай краінай у масавым маштабе шляхам шырокага разгортваньня мерапрыемстваў культурнага будаўніцтва, шляхам разгортваньня культурнай рэвалюцыі.

Правядзеньне ў жыцьцё ўсеагульнага абавязковага навучаньня, палітэхнізацыя школы, ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва, шырокае разгортваньне прафэсыянальна - тэхнічнага навучаньня, шырокае разгортваньне высока-спэцыялізаваных навучальных устаноў, а сёньня—шырокае разгортваньне рабочай ініцыятывы за аўладаньне тэхнічнымі ведамі, за аўладаньне тэхнікай—усё гэта разам узятае садзейнічае падрыхтоўцы кадраў, забясьпечвае нам у далейшым магчымасьць атрымаць кадры для сацыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, пры вырашэньні пытаньня аб кадрах трэба заўжды ўлічваць тое, што гэта ёсьць важнейшая задача і што гэта задача вымагае ўважлівых да яе адносін з боку ўсіх партыйных, савецкіх і іншых грамадзкіх пралетарскіх арганізацый.

Нам патрэбны ня проста кадры, нам патрэбны кадры пралетарскія, клясава-

сьвядомыя, палітычна-выхаваныя і бальшавіцкі загартаваныя кадры.

Дзякуючы посьпехам у справе сацыялістычнага будаўніцтва, паступоваму павялічэньню ўдзельнай вагі сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, рашучаму выкарчоўваньню рэшткаў капіталізму ў нашай краіне,—краіна саветаў ўступіла ў пэрыяд сацыялізму, у апошні пэрыяд НЭП'у, краіна саветаў вядзе барацьбу за завяршэньне пабудовы сацыялістычнай экономікі ў нашай краіне.

Гэта было дасягнута дзякуючы таму, што Савецкі Саюз вёў і вядзе барацьбу за перамогу сацыялізму на падставе генэральнай лініі партыі, што Кампартыя і рабочая кляса, змагаючыся за генэральную лінію партыі, давалі рашучы руйнуючы адпор ухілам ад генэральнай лініі партыі.

Контррэвалюцыйны трацкізм разгромлены, партыя перамагла правы ўхіл, як найбольш небясьпечны на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва. Партыя пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК вядзе барацьбу супроць правага ўхілу, супроць „левых" загібаў, супроць прымірэнчых адносін да гэтых апартуністычных ухілаў. Рабочая кляса переможа ў барацьбе за сацыялізм, працягваючы пад кіраўніцтвам партыі і яе Ленінскага ЦК гэтую барацьбу за генэральную лінію партыі, працягваючы барацьбу супроць ухілаў ад генэральнай лініі партыі.

Перад намі пастаўлена задача на працягу бліжэйшых дзесяці год дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-эканамічных адносінах. Для гэтай мэты павінен быць выкарыстан апошні пэрыяд НЭП'у і апошні пэрыяд НЭП'у трэба скарыстаць для таго, каб усе сілы, усе здольнасьці, усе матар'яльныя рэсурсы былі накіраваны на канчатковую перамогу сацыялізму.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне саветаў ужо вырашылі пытаньне аб перамозе сацыялізму.

Сацыялізм у краіне саветаў перамагае, сацыялізм у краіне саветаў пераможа; Савецкая Беларусь, як частка Савецкага Саюзу, як фарпост Савецкага Саюзу на стыку з капіталістычным сьветам, павінна выканаць з посьпехам ускладзеныя на яе задачы ў барацьбе за сацыялізм, павінна лічыць справай гонару, пасьпяховае выкананьне ўзложаных на яе задач у барацьбе за сацыялізм.

**А. Чарвякоў.**

---

## Саветы і выкананьне фінпляну.

Ажыцьцяўленьне гіганцкай праграмы гаспадарча-культурнага будаўніцтва трэцяга рашаючага году, фінансаваньне якой ствараецца, галоўным чынам, за рахунак бягучых накапленьняў, патрабуе чоткага бальшавіцкага выкананьня фінпляну ва ўсіх яго частках. Папярэднія вынікі першага кварталу паказваюць, што па шэрагу галіннalежнай чоткасьці і неабходных бальшавіцкіх тэмпаў работы мы яшчэ ня маем. Разам з добрымі прыкладамі, шэрагам прадпрыемстваў ня выкананы колькасныя і якасныя заданьні прамфінпляну, слаба праводзяць гаспадарчыя разьлікі, слаба мабілізуюць і недастаткова скарыстоўваюць унутраныя рэсурсы.

Плян мабілізацыі сродкаў насельніцтва па папярэдніх падліках выкананы толькі на 77 проц. Вынікі першага кварталу па выкананьні пляну паступленьня грошай па рэалізацыі дзяржаўных пазык (62 проц.) пры прыцягненьні ўкладаў у ашчадкасы (70 проц.) са ўсёй яскравасьцю падкрэсьліваюць нездавальняючасьць работы, няўменьне знайсьці новыя формы работы фінансава-крэдытнага апарату і недастатковасьць увагі справе мабілізацыі сродкаў з боку прафэсыйных, камсамольскіх і іншых грамадзкіх арганізацый. Недапушчальна апартуністычна-хвасьціцкія адносіны да справы выкананьня плянаў мабілізацыі сродкаў праяўлены спажывецкай каапэрацыяй, якая плян паянакапленьня па вясковай сетцы выканала за першы квартал толькі на 50 проц. Слаба абстаіць справа з таваразваротам. Гэтая акалічнасьць патрабуе ад кіруючых органаў спажывкаапэрацыі рашучага пералому ў рабоце па выкананьні фінпляну. Паасобныя раёны далі прыклады добрай работы і

даказалі, поўную рэальнасьць пляна. Любаньскі раён, які па-бальшавіцку змагаўся за фінплян у асобным квартале, заняўшы па выкананьні пляну па мабілізацыі сродкаў першае месца, захаваў яго і ў першым квартале. Таксама здавальняюча выканалі плян раёны: Глускі, Ельскі, Магілёўскі і Асіпавіцкі. Гэтым раёнам Наркамфін поўнасьцю перадаў датацыю па бюджэту. Шэрагам раёнаў слаба выкананы фінплян і такія раёны, як Азарыцкі, Кармянскі, Пятрыкоўскі і Расонскі апартуністычна плятуцца ў хвасьце і ня выканалі пляну нават да 50 проц. Зразумела, што гэтыя раёны ня змогуць ажыцьцявіць гаспадарча-культурных мерапрыемстваў у раёне, будуць мець перабоі і цяжкасьці з выдачай зарплаты, што зьяўляецца зусім недапушчальным. У цэлым шэрагу раёнаў пануе апартуністычная нядбайнасьць, што выражаецца ў злачынным няўзысканьні плацяжоў з кулацкіх гаспадарак.

Невыкананьне фінпляну першага кварталу робіць асабліва адказнай справу выкананьня фінпляну у другім квартале. Плян мабілізацыі сродкаў ІІ-га кварталу, як і першага, зусім рэальны і павінен быць выкананы безагаворачна. Недабор пляну першага кварталу неабходна поўнасьцю пакрыць у красавіку. З самага пачатку другога кварталу работу неабходна разгортваць шырокім фронтам і ўдарнымі тэмпамі. Ні ў якім разе нельга паўтараць памылак першага кварталу, калі дэмабілізацыйны настрой з пачатку кварталу сарваў плян першага месяцу, што адбілася на выкананьні ўсяго кварталу. Своечасовае давядзеньне да нізавых зьвеньняў пляну на другі квартал— ёсьць важнейшая умова недапушчэньня прарыву і дэмабілізацыйных настрояў. Ня толькі кожны сельсавет, але кожнае прадпрыемства і ўстанова, кожны калгас і кожная вёска павінны своечасова ведаць свае фінансавыя абавязкі перад пралетарскай дзяржавай.

Плян на другі квартал Наркамфінам высланы ва ўсе раёны 16 сакавіка. Аднак, паведамленьні аб давядзеньні пляну да сельсавета да гэтага часу атрыманы толькі ад паловы раёнаў. Ёсьць зьвесткі, **што паасобныя раёны** (Плешчаніцкі) праявілі недапушчальную нядбайнасьць да гэтай важнейшай справы. Выпадкі адсутнасьці пляну ў сельсавеце да пачатку квартала трэба разглядаць як злачынную нядбайнасьць.

Плян мабілізацыі сродкаў на другі квартал, галоўным чынам, складаецца з дабраахвотных плацяжоў. Абавязковыя плацяжы займаюць у пляне толькі 11 проц. Рост даходаў насельніцтва дае падставы з упэненасьцю канстатаваць поўную рэальнасьць пляну з пераважнасьцю дабраахвотных плацяжоў. Энтузіязм шырокіх мас працоўных, з якім праходзяць нашы фінансавыя мерапрыемствы, гавораць аб тым, што нашы фінансавыя мерапрыемствы карыстаюцца вялізарнейшым даверрам і падтрымкай рабочых арганізацый і працоўных мас. Але часта гэтыя мерапрыемствы мы практычна праводзім няўмела і затое не скарыстоўваем тых магчымасьцяй, якія у нас маюцца. **Непаваротлівасьць, бюракратызм, нежаданьне арганізаваць і разгортваць масавую работу, ёсьць застарэлая хвароба значнай часткі фінансавага апарату.**

Фінансавы апарат павінен базадкладна перабудаваць мэтады і тэмпы сваёй работы у адпаведнасьці з задачамі поўнага выкананьня фінпляну. Зразумела, што пасьпяховае выкананьне пляну мабілізацыі сродкаў насельніцтва будзе забясьпечана тады, калі прафэсыйныя, камсамольскія і іншыя грамадзкія арганізацыі з самага пачатку квартала разгарнуць шырочайшую работу зьверху да саміх нізоў. Рашучая барацьба за поўнае выкананьне пляну другога кварталу павінна біць цесна ўвязана з сяўбовай кампаніяй. Неабходна бязьлітасна змагацца з гэткімі чыста апартуністычнымі настроямі, калі гавораць, што „зараз правядзем сяўбовую кампанію, а потым возьмемся за выкананьне фінпляну". **Ставіць пытаньне аб другараднасьці выкананьня фінпляну, значыць наперад праваліць справу ажыцьцяўленьня важнейшых задач гаспадарча-культурнага будаўніцтва.**

Паступленьне грошай па пазыцы „Пяцігдока", уцягненьне укладаў у касы ашчаднасьці застаюцца цэнтральнымі вучасткамі пляну другога кварталу. Выключную ўвагу неабходна зьвярнуць на ахоп дзяржаўнай пазыкай і касамі аш-

чаднасьці сэзонных рабочых і працоўных мас вёскі. Надыходзячыя тыражы выйгрышаў пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады“ наша пралетарская грамадзкасьць і, у першую чаргу, камісіі садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчадсправе павінны цалкам скарыстаць для новых укладаў і падпісаў. Падпішчыкі своечасова да тыражу павінны атрымаць прымацаваныя талёны. Плацяжы па пазыках зараз-жа трэба уносіць у дзяржаўныя касы. Трэба адзначыць, як зусім недапушчальнае зьявішча, калі Аршанскія чыгуначнікі звыш 1.000 чалавек не ахоплены падпіскай на пазыку. У гэтай справе неабходна зацікавіцца працаўнікам адпаведных арганізацый Аршанскага Кіраўніцтва.

Спажыўкаапэрацыя ў другім квартале ўдарнай работай, бальшавіцкімі тэмпамі павінна змыць пляму апартуністычных адносін да справы выкананьня фінпляну. **Паявыя накапленьні, правільны тавараварот кааперацыі павінны даць належныя вынікі выкананьня фінпляну.** Узяўшы прыклад з сапраўды масавай работы некаторых раёнаў па рэалізацыі акцый трактарацэнтру, шмат раёнаў у апошні час дабіліся значнага пералому ў справе рэалізацыі акцый трактарацэнтру. У другім квартале гэты пералом неабходна замацаваць і разгарнуць далей. Зямельна кааперацыйныя калгасныя органы павінны гэтую справу шчыльна ўвязаць з сяўбовай кампаніяй другой бальшавіцкай вясны, памятуючы аб тым, што выкананьне плянаў рэалізацыі акцый трактарацэнтру наносіць моцны удар па кулаку і дае магчымасьць павялічыць колькасьць трактароў для сельскай гаспадаркі нашае краіны. Зразумела, што зараз выкананьне фінпляну ў раёнах павінна быць зьвязана з шырокай папулярызацый новага закону аб сельгаспадатку, як важнейшага сродку выкананьня пастаноў VI Усесаюзнага Зьезду Саветаў.

Бальшавіцкае выкананьне фінпляну патрабуе ад усіх партыйных і савецкіх арганізацый безадкладнага выкананьня рашэньняў ЦК Усе КП(б) і ЦК КП(б)Б аб узмацненьні фінансавага апарату па ўсіх зьвеньнях. Трэба зараз-жа на мясцох прыняць меры да звароту на фінансавую работу тых працаўнікоў, якія раней працавалі у фінапараце, а зараз скарыстоўваюцца не па належнасьці. Трэба зараз-жа вылучыць новых працаўнікоў для узмацненьня фінансава-банкаўскага апарату і арганізацыі ашчаднай справы.

У апошнія часы Партыя удзяляе фінансам вялізарную ўвагу. Прафэсыйныя арганізацыі, камсамольскія і ўсе іншыя грамадзкія арганізацыі павінны безадкладна мабілізавацца на дапамогу фінансавым органам у ліквідацыі адставаньня першага кварталу і поўнага выкананьня фінансавага пляну другога кварталу трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Ударнымі тэмпамі работы фінансава-крэдытна-кааперацыйнага апарату, шырачайшай мабілізацыяй грамадзкасьці і прафсаюзаў, рабселькораў камсамольскіх і усіх іншых пралетарскіх грамадзкіх арганізацый, плян мабілізацыі сродкаў другога кварталу можа быць ня толькі выкананы, але і перавыкананы. Гэта магчыма і гэтага неабходна дабіцца, бо гэтага патрабуюць задачы і бальшавіцкі шлях будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне.

А. Хацкевіч.

**Ударнай работай Саветаў забясьпечым бальшавіцкія тэмпы выкананьня фінпляну.**

**Закон аб сельгаспадатку спрыяе калгаснаму прыліву, выкананьню вялікіх задач бальшавіцкай вясны, уздыму і рэканструкцыі жывёлагадоўлі, дапамагае ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.**

# Новы закон аб с.-г. падатку.

Вялізарныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, задачы калектывізацыі ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі ня менш 45 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па БССР і 50 проц. па СССР, задачы ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі патрабавалі новых зьмен у сыстэме сельгаспадатку. Гэтыя зьмены накіраваны на далейшую, яшчэ больш узмоцненую, дапамогу калгасам, на максымальны рост вытворчых сіл сельскай гаспадаркі шляхам хутчэйшай калектывізацыі дробных сялянскіх гаспадарак і іх тэхнічнага пераўзбраеньня. Зусім зразумела, што закон аб сельгаспадатку цалкам прыстасаваны да вырашэньня важнейшых задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Задачы замацаваньня існуючых калгасаў, арганізацыі моцнага прыліву новых мільёнаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы—патрабавалі такой пабудовы сыстэмы абкладаньня, якая-б стварыла новыя стымулы для ўступленьня бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, для выкананьня вялікіх заданьняў бягучай веснавой кампаніі.

Калгасы абкладаюцца сёлета не па нормах, як летась, а па іх валавым даходзе, вызначаным на аснове справаздачнасьці калгасаў. Пакідаючы прапарцыянальнае абкладаньне калгасаў, закон устанаўляе розныя стаўкі абкладаньня для асобных форм і відаў калгасаў, больш нізкія для камун і арцеляй і некалькі падвышаныя для прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў—таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі.

Серадняцкія аднаасобныя гаспадаркі, як і летась абкладаюцца па прагрэсыўнай шкале ставак.

Гэта стварае прадпасылкі ня толькі для замацаваньня існуючых калгасаў і арганізацыі новага прыліву ў калгасы, але і для пераходу прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў на статут арцеляй, гэтай асноўнай формы калгаснага будаўніцтва на даным этапе.

Надзвычай важны тыя льготы, якія прадугледжваюцца законам аб сельгаспадатку ў адносінах жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Поўнае вызваленьне ад абкладаньня ў калгасах даходаў ад жывёлагадоўлі і вялікія льготы пры абкладаньні пасеваў тэхнічных культур (ільну і канапель), а таксама вызваленьне ад абкладаньня прыросту, параўнальна з леташнім годам, пасеўных плошчаў—зьяўляецца моцнай зброяй у змаганьні за ўздым і рэканструкцыю жывёлагадоўлі, за пашырэньне сырцовай базы для сацыялістычнай прамысловасьці, за агульнае пашырэньне пасеўнай плошчы.

Новы закон аб сельгаспадатку ўлічвае інтарэсы ня толькі калгаснага сялянства, але і тых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, якія яшчэ не пераканаліся ў перавазе каляктыўнай гаспадаркі і ня ўступілі пакуль што ў калгасы. Для гэтых груп устаноўлены істотныя льготы, якія цалкам адпавядаюць задачам пашырэньня пасеваў гэтых гаспадарак, разьвіцьцю жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

У адносінах да кулакоў закон аб сельгаспадатку зьяўляецца вострай зброяй барацьбы за поўную ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Закон выразна падкрэсьлівае абсалютную недапушчальнасьць абкладаньня ў індывідуальным парадку серадняцкіх гаспадарак, у той-жа час ён патрабуе неаслабнай пільнай увагі да індывідуальнага абкладаньня кулацкіх гаспадарак. Ні адзін кулак не павінен выкруціцца ад індывідуальнага абкладаньня! Неабходна рашуча ліквідаваць апартуністычна-прымірэнчыя адносіны да кулака.

Пастаўленае VI зьездам саветаў Саюзу перад аднаасобнікамі пытаньне—за ці супроць калгасу—поўнасьцю адбілася ў законе аб сельгаспадатку. Сюды трэба аднесьці пастанову абкладаць частку даходаў серадняка ад продажы сельска-гаспадарчых прадуктаў на прыватным рынку ў тых выпадках калі ён ня выконвае сваіх абавязкаў па контрактацыі, ня выконвае плянавых заданьняў па загатоўках. Калі-ж серадняк выканаў плянавыя заданьні па загатоўках і контрактацыйныя дагавары, дык прыбыткі па продажы прадуктаў на прыватным рынку сельгаспадаткам не абкладваюцца. Гатае мерапрыемства, бязумоўна дапаможа выкананьню нашых плянавых загатовак і контракцыйных дагавароў.

Бедната, якая не ўвайшла ў калгасы, будзе цалкам або часткова вызвалена ад падатку паводле пастаноў сельскіх і раённых падатковых камісій.

Установленыя законам вялікія ільготы для калгасаў і для бядняцка-серадняцкіх аднаасобных гаспадарак павінны быць шырока растлумачаны ўсяму працоўнаму сялянству—калгасьніку і аднаасобніку яшчэ да выхаду ў поле.

Да ажыцьцяўленьня новага закону павінны быць прыцягнуты ўвесь вясковы актыў, уся партыйная і савецкая грамадзкасьць раёну і вёскі.

Раённыя выканаўчыя камітэты, райфінаддзелы і сельсаветы павінны зараз-жа прыступіць да практычнага ажыцьцяўленьня закону аб сельгаспадатку, мабілізаваць увесь актыў, разгарнуць шырокую агітацыйна-растлумачальную масавую работу.

Цэнтральнаму і мясцоваму друку трэба разгарнуць на сваіх старонках самую шырокую і сыстэматычную папулярызацыю новага закону аб сельгаспадатку.

Трэба безадкладна прыступіць да распрацоўкі і выданьня пастаноў РВК аб сельгаспадатку.

Усякае спазьненьне з правядзеньнем гэтай кампаніі азначае неразуменьне палітычнага значэньня закону аб сельгаспадатку—гэтай моцнай зброі барацьбы за генэральную лінію партыі на вёсцы, зброю сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Новы закон аб сельгаспадатку павінен быць ажыцьцёўлен з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю і клясавай выразнасьцю.

**А. Х.**

---

## Гарсаветы, тварам да прамфінпляну.

Партыя і рабочая кляса з усёй сілай бальшавіцкай рашучасьці паставілі перад сабой задачу—дабіцца выкананьня 5-ці гадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва ў 4 гады, а па шэрагу асноўных галін—у 3 гады.

Сьнежанскі Пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) даў актуальную дырэктыву на 1931 г.: „завяршыць пабудову фундамэнту сацыялістычнай экономікі СССР“.

Прайшоўшыя X Усебеларускі і VI Усесаюзны зьезды Саветаў падагулілі вялізарныя посьпехі першых двух год 5-ці годкі, якія былі дасягнуты на грунце няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, у рашучым змаганьні з усялякімі ўхіламі ад яе ў сацыялістычным будаўніцтве. З'езды Саветаў вызначылі на грунце генэральнай лініі партыі далейшыя шляхі фарсіраванага, разгорнутага наступу па ўсяму фронту сац. будаўніцтва.

Магутны рост працоўнага энтузіязму рабочае клясы, які выяўляецца ў пашырэньні і паглыбленьні камуністычных форм працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, зьяўляецца вернай гарантыяй таго, што нашы плянавыя меркаваньні будуць выкананы і перавыкананы.

Аднак, вядома, што задачы бягучага рашаючага году і ў першую чаргу мерапрыемствы, забясьпечваючыя выкананьне прамфінпляну, ня могуць быць ажыцьцёўлены без уцягненьня шырокіх рабочых і працоўных мас, без мабілізацыі ўсей савецкай грамадзкасьці вакол пытаньняў бальшавіцкага выкананьня прамфінпляну. Задачы гарсаветаў—органаў пралетарскай дыктатуры—ў гэтай справе вызначаны шэрагам дырэктыў партыйных і савецкіх органаў. Яны ў асноўным зводзяцца да перабудовы работы саветаў, адпаведна задачам сацы-

ялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі.

„Павярнуцца тварам да фабрыкі і заводу, да прамфінпляну, да сац. спаборніцтва і ўдарніцтва“. На X Усебеларускім Зьездзе Саветаў тав. Гей сказаў: „Савет павінен, засучыўшы рукавы, не па папяроваму, а энэргічна, настойліва, актыўна працаваць над ажыцьцяўленьнем тых задач, якія стаяць перад органамі Савецкай улады“.

Ход выкананьня прамфінпляну першага кварталу бягучага году, сьведчыць аб тым, што гэтыя актуальныя дырэктывы яшчэ не знайшлі свайго практычнага ажыцьцяўленьня ў штодзённай працы гарсаветаў і што мерапрыемствы, забясьпечваючыя ажыцьцяўленьне прамфінпляну яшчэ не знаходзяць належнага месца ў іх працы.

Выкананьне прамысловасьцю ВСНГ БССР за студзень—люты 55,2 проц. прамфінпляну першай квадры 1931 г. зьяўляецца недапушчальна нездавальняючым і ставіць пад сур'ёзную пагрозу выкананьне прамфінпляну. Гэта становішча вымагае ад гарсаветаў значна шпарчэй і больш рашуча перабудаваць сваю працу. Гарсаветы павінны на справе даказаць, што яны па дзелавому павярнуліся тварам да вытворчасьці. Пытаньні і практычныя мерапрыемствы, забясьпечваючыя пасьпяховае выкананьне прамфінпляну павінны заняць значна больш месца ў пляне працы гарсавету. Нельга абмяжоўвацца заслухоўваньнем агульных дакладаў прадпрыемстваў аб іх працы, або вынікі выкананьня прамфінпляну, а плянам працы гарсавету трэба прадугледзець увесь комплекс пытаньняў і мерапрыемстваў у справе выкананьня прамфінпляну як пытаньні мабілізацыі і скарыстаньня ўнутраных рэзэрваў, забясьпечаньня рабочай сілай, арганізацыі работы на прадпрыемстве, сац. спаборніцтва і ўдарніцтва. Пытаньні такога зьместу павінны каляндарна, своечасова, паасобку прапрацоўвацца ў адпаведных сэкцыях і знайсьці свае выразшэньне на пасяджэньнях прэзыдыуму і пленуму гарсавету.

Трэба арганізацыйна-масавую работу гарсаветаў больш наблізіць да прадпрыемстваў, да цэху, да зьмены і прыстасаваць яе да задач прамфінпляну. Зьмест масавай працы гарсаветаў на прадпрыемствах, павінен быць значна больш насычан пытаньнямі арганізацыі сац. спаборніцтва і ўдарніцтва, барацьба са шкодніцтвам, гультаямі і прагульшчыкамі; пытаньнямі арганізацыі шырокага руху рабочых мас вакол сацыялістычнай рацыяналізацыі, аўладаньня тэхнікай, рабочага вынаходніцтва і барацьбы за якасьць. Пры гэтым трэба масавую працу канкрэтызаваць і будаваць у адпаведнасьці з умовамі і становішчам кожнага прадпрыемства і цэху. Сувязь паміж гарсаветам і прадпрыемствам, сэкцыяй гарсавету з адпаведнымі фабрычна-заводзкімі інстытутамі (вытворчая нарада, камісія) павінна быць наладжана і стала забясьпечана. Для гэтага лічым мэтазгодным практыкаваць сумесную (сэкцыя Савету і фабр. заводзкай камісіяй) прапрацоўку пытаньняў у парадку падрыхтоўкі да прэзыдыуму, пленуму гарсавету або сходу рабочых. Вялікую ролю ў справе сталай сувязі павінны адыгрываць дэпутаты гарсавету, працуючыя на вытворчасьці. Дэпутацкія групы і сац. саўмяшчэньне павінны стаць сапраўдным зьвязваючым зьвяном паміж прадпрыемствам і гарсаветам. Яны павінны быць на справе арганізатарамі рэалізацыі рашэньняў гарсавету на прадпрыемстве, з аднаго боку і з другога—застрэльшчыкамі у справе арганізацыі рабочага кантролю над дзейнасьцю гарсавету. Нарэшце, трэба больш практыкавоць перанясеньне пасяджэньняў сэкцый, прэзыдыуму і пленуму гарсавету па адпаведных пытаньнях на прадпрыемствы.

Гарсаветы, рашуча змагаючыся з апартунізмам усіх колераў з тэндэнцыямі самацёку, „аб'ектыўнымі ўмовамі“ павінны мабілізаваць Савецкі актыў, арганізаваць шырокія рабочыя і працоўныя масы вакол задач завяршэньня пабудовы фундамэнту Сацыялістычнай эканомікі ў бягучым рашаючым годзе.

**Каган.**

# Гарсаветы павінны ўзмоцніць сваю працу па арганізацыі пралетарскага ўплыву на вёску.

*(У парадку абгаварэньня).*

Буйнейшыя посьпехі пралетарыяту ў галіне будаўніцтва сацыялістычнай прамысловасьці далі яму магчымасьць пад кіраўніцтвам партыі ўплатную падыйсьці да вырашэньня задачы сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Уплыў гораду на вёску расьце вялізарнымі крокамі, ня гледзячы на шалёныя супроцьдзейнічаньні з боку клясава-варожых элемэнтаў вёскі. Усе надзеі Кандрацьцевых і, поўнасьцю прыняўшых іх праграму ў сялянскім пытаньні, меншавікоў на разрыў пралетарыята з працоўным сялянствам, іх стаўка ў поўным адзінамысліі з фашыстымі па тыпу польскага фашыста Галуўка на моцнага (кулацкага) гаспадара, ўсё больш рушацца дзякуючы ўзрастаючай змычца пралетарскага гораду і бядняцка-серадняцкай вёскі.

Пры дапамозе пралетарыяту і органаў яго дыктатуры асноўныя бядняцка-серадняцкія масы ўразумелі правільнасьць лініі партыі на калектывізацыю вёскі і шырокаю хвалей пайшлі ў калгасы.

Па прыкладу пралетарыяту бядняцка-серадняцкія масы вёскі павялі рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты.

Значна павялічылася снабжэньне пралетарскім горадам вёскі. Шпаркімі крокамі ідзе машынізацыя яе. Машына-трактарныя станцыі робяць сапраўдны пераварот у тэхніцы сельскай гаспадаркі. Снабжэньне вёскі ўгнаеньнямі значна павялічылася ў параўнаньні з даваенным часам.

Дзякуючы мерапрыемствам партыі і органаў пралетарскай дктатуры—Саветаў значна палепшыўся дабрабыт вёскі, ураджайнасьць палей па БССР павялічылася—замест 6,5 цэнтн. з га у 1928 годзе гэты год даў ужо 7,7 цэнтн., а ў калгасах—9,3 цэнтн.

Пралетарыят пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі паставіў ва ўсю шырыню пытаньне культурнага пад'ёму вёскі. Будуюцца сотні новых школ. Уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне. Тысячы батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх дзяцей уцягваюцца ў сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Усе гэтыя посьпехі сьведчаць аб тым, што вёска таксама падыходзіць да канчатковага вырашэньня пытаньня „хто каго“ у бок зьнішчэньня капіталістычных элемэнтаў.

Трэці год пяцігодкі зьяўляецца для вёскі рашаючым. У гэтым годзе палавіна ўсіх бядняцка-серадняцкіх (па БССР —45 проц.) павінна быць калектывізавана. Арганізуецца шэраг новых МТС. Будуюцца новыя саўгасы.

Вялізарныя задачы трэцяга году пяцігодкі на вёсцы патрабуюць яшчэ большага ўзмацненьня ўплыву пралетарыяту на вёсцы і яго дапамогі ёй.

У галіне арганізацыі гэтага ўплыву вялікую ролю павінны адыграць гарсаветы, як органы пралетарскай дыктатуры, маючыя шчыльную сувязь з прадпрыемствамі. Між тым, роля гарсаветаў у гэтым напрамку да гэтага часу была зусім мізэрная. У лепшым выпадку гарсавет браў шэфства над якім небудзь раёнам і абмяжоўваўся высылкай туды аднэй-двух брыгад. Часткова гэта тлумачылася тым, што гарсаветы ня мелі дастатковай матар'яльнай базы дзеля разгортваньня гэтай працы.

Ліквідацыя акруг, якая значна ўзмацніла гарсаветы і, асабліва, апошнія пастановы ЦВК аб пашырэньні тэрыторыі абслугоўваньня гарсавета шляхам уключэньня ў яго тэрыторыю акаляючых вёсак значна пашырылі магчымасьці і задачы гарсаветаў у адносіне вёскі.

У сувязі з гэтым паўстае пытаньне аб формах і мэтадах кіраўніцтва і ўплыву пралетарскіх мас праз гарсаветы на вёску.

Па нашай думцы базай працы гарсаветаў на вёсцы павінна зьявіцца тая тэрыторыя, якая знаходзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам гарсавету. Апошнія павінны дабіцца ня толькі поўнай калектывізацыі вёсак гэтай тэрыторыі, але і ператварэньня калгасаў на гэтай тэрыторыі ва ўзорныя калактыўныя гаспа-

даркі, якія аказвалі-б уплыў на калгасы і вёскі па-за межамі тэрыторыі гарсавету. Каб дабіцца гэтага гарсаветам неабходна выдзеліць пры гарсавеце сэкцыі калгаснага будаўніцтва, у якія павінны быць уцягнуты, як рабочыя, добра ведаючыя ўмовы вёскі, так і спэцыялістыя-зямельнікі члены гарсавету. Правы гэтай сэкцыі павінны быць пашыраны шляхам прадастаўленьня ёй апэрацыйных функцый і права распараджэньня дастатковай сумай сродкаў для работы.

Гарсавету, акрамя яму падпарадкаванай тэрыторыі, неабходна ўстанавіць сталую сувязь з раёнамі, якія мяжуюцца з тэрыторыяй гарсавету для сталай працы ў гэтых раёнах.

Значныя арганізатарскія і прапагандыцкія сілы павінны быць накіраваны ў прыгарадныя каапэрацыйныя гаспадаркі і саўгасы. Гэтыя гаспадаркі павінны стаць галоўным асяродкам уплыву на калгасы і вёскі. Неабходна паставіць працу ў гэтых гаспадарках ня толькі ўзорна, але і павесьці глыбокую выхаваўчую працу сярод рабочых гэтых гаспадарак з тым, каб з іх асяродку выкоўваць кадры арганізатараў і кіраўнікоў калгаснага руху.

Гэтыя гаспадаркі павінны стаць цэнтрам працы парт'ячэяк. Тут павінны склікацца шырокія вытворчыя нарады калгасьнікаў і сялян па пытаньнях вытворчасьці калгасаў і чарговых гаспадарчых кампаній. Адсюль павінна выходзіць непасрэдная практычная гаспадарчая дапамога калгасам і вёскам.

Было-б, бязумоўна, няправільным як з пункту погляду пасіленьня ўплыву гарсаветаў на вёску, так і з пункту погляду ўцягненьня ў работу на вёсцы рабочых мас, каб гэтай працай займаліся толькі сэкцыі калгаснага будаўніцтва, а культурная, прамысловая, аховы здароўя і ўсе іншыя сэкцыі таксама павінны прымаць у гэтай працы самы актыўны ўдзел. Для гэтага неабходна, каб пры кожнай сэкцыі гарсавету была створана падсэкцыя па рабоце на вёсцы праз каторую сэкцыя праводзіла бы работу па сваёй галіне (культурную, здраваахраненьне, каапэрацыйную і г. д.).

Для ўзмацненьня кіраўніцтва і сувязі є вёскай гарсаветам неабходна: 1) сумена з сельскімі арганізацыямі правесьці сталае прымацаваньне асобных прадпрыемстваў (альбо цэхаў) да асобных калгасаў і саўгасаў, як на тэрыторыі гораду гэтак і ўне яе, разгарнуўшы сацспаборніцтва паміж прадпрыемствамі на лепшую працу ў калгасе; 2) была-б мэтазгодным арганізаваць рабочае зямлячэства ў складзе арганізацыі прадпрыемств, якія зьвязаны з данымі калгасамі, вёскамі, сельсаветамі суадпаведных шэфскіх арганізацый з прыцягненьнем рабочых іншых прадпрыемстваў, якія маюць сувязь з вёскамі данага сельсавету ці раёну.

Такія зямлячаства павінны былі-б праводзіць працу ня толькі на вёсцы, але і сярод сэзоньнікаў, выходзячых з гэтых сельсаветаў і раёнаў.

Арганізацыя такіх зямлячастваў дала-б значную карысьць па-першае тым, што ўцягнула-б значную колькасьць рабочых у работу на вёсцы, па-другое,—што дала магчымасьць больш вывучыць вёску, па-трэцяе, што дала-б магчымасьць увязаць працу па розных галінах у данай канкрэтнай мясцовасьці.

Важнейшая задача паўстае перад гарсаветамі ў справе падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў для вёскі. Дзякуючы наліччу ў горадзе значных культурных сіл, гарсаветы маюць магчымасьці ў гэтай галіне працы. Гарсаветы павінны ўзяць на сябе ініцыятыву арганізацыі курсаў працаўнікоў сельсаветаў і калгасаў, як прыгараднай тэрыторыі, так, і прылягаючых раёнаў па ўзгадненьні з адпаведнымі РВК.

Гэтага, аднак, мала. Гарсавет павінен перанесьці гэтую падрыхтоўку ў самую вёску. Дзеля гэтага гарсаветы павінны арганізоўваць школы перасоўкі для накіраваньня іх у сельсаветы і раёны. Для працы ў гэтых школах-перасоўках, акрамя сталых кіраўнікоў, неабходна прыцягваць актыў гарсавету шляхам мабілізацыі яго на пэўны тэрмін для працы ў гэтых школах-перасоўках. Апошнія павінны ператварацца ня толькі ў сродак падрыхтоўкі кадраў, але і ў сродак масавай агітацыі на вёсках.

Культурны ўплыў гораду на вёску павінен таксама значна пасіліцца. Гарсавет павінни мабілізаваць актыўнасьць рабочых мас па двух напрамках. Па-першае, на пашырэньне і палепшаньне

працы гарадзкіх установ, якія абслугоўваюць сялян прыяжджаючых у горад. Дзеля гэтага неабходна пашырыць сетку і палепшыць працу дамоў калгасьнікаў, культурных чайных, спэцыяльных бібліятэк, справачных пунктаў і г. д. будуючы іх ня толькі ў самым горадзе, але і пазамежамі яго. Неабходна практыкаваць скліканьне ў горадзе шырокіх рабочасялянскіх канфэрэнцый па пытаньнях культурнай працы, як у горадзе, гэтак і на вёсцы.

Па-другое, неабходна значна ўзмацніць абслугоўваньне вёскі і асабліва калгасаў на месцы. Гарсаветам неабходна шырэй практыкаваць пасылку брыгад з працаўнікоў культурнага фронту (настаўнікі, урачы, культ-масавыя працаўнікі) для арганізацыі і палепшаньня працы школ, хат-чытален, лікпунктаў, насьценных газэт, гурткоў і г. д. Шляхам скліканьня нарад культпрацаўнікоў вёскі гораду неабходна арганізаваць перадачу вопыта гораду на вёску.

Больш канкрэтнай і практычнай павінна стаць работа гарсавета ў справе дапамогі культурнаму пад'ёму, бытавому разьнявольваньню і ўцягненьню ў сацыялістычнае будаўніцтва жанчыны вёскі. Камісіі па палепшаньні быту работніцы і сялянкі пры гарсаветах павінны выдзеліць спэцыяльныя падкамісіі для работы на вёсцы. Задача гэтых падкамісій павінна быць—дапамога сельскім бытавым камісіям, у арганізацыі працы жанчын у калгасах, поўнае зьнішчэньне няпісьменнасьці сярод жанчын, будаўніцтва бытавых установ і г. д.

Уся работа гарсаветаў на вёсцы будзе пасьпяхова толькі тады, калі савецкія органы на вёсцы будуць дастаткова ўзмоцнены і калі правільна і клясава-вытрымана будзе пастаўлена праца. Гарсаветы павінны гэтай працы ўдзяліць асаблівую ўвагу. Для гэтага ім неабходна практыкаваць скліканьне нарад працаўнікоў сельсаветаў па пытаньнях пастаноўкі іх працы, прымацаваць асобныя сэкцыі і падсэкцыі гарсаветаў да сельскіх саветаў для дапамогі апошнім ставіць даклады сельсаветаў на прэзыдыумах і пленумах гарсаветаў адначасова з дакладамі сэкцый гарсаветаў.

Мэтад заслухоўваньня адначасова дакладаў неабходна практыкаваць у адносіне прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў у мэтах перадачы апошнім вопыту працы прадпрыемстваў (ударніцтва, сацспаборніцтва, грамадзкі буксір і г. д.). Зразумела, што пры гэтым нельга дапускаць мэханічную пераноску вопыта прадпрыемстваў на саўгасы і калгасы.

Для зьнішчэньня разнабою ў працы на вёсцы гарсаветы павінны ўсю сваю працу па гэтай галіне ўвязаць з працай шэфскіх арганізацый і значна ўзмацніць свае кіраўніцтва гэтымі арганізацыямі.

Задачы трэцяга году пяцігодкі высоўваюць перад гарсаветамі вялікую задачу адносна вёскі. Каб вырашыць гэтыя задачы гарсаветам неабходна безадкладна перабудаваць сваю працу так, каб арганізаваць сыстэматычны ўплыў і дапамогу пралетарскіх мас вёсцы і на базе правядзеньня генэральнай лініі партыі яшчэ больш узмацніць змычку пралетарыята з калгаснымі, батрацкімі і бядняцка-серадняцкімі масамі.

**А. Вайцок.**

---

# У барацьбу за МТС.

Праграма другой бальшавіцкай вясны —гэта баявая праграма разгортваньня сацыялістычнага наступу на апошнюю апору капіталістычнай эксплёатацыі ў нашай краіне кулацтва, гэты новы буйны крок да шляху суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на яе аснове кулацтва як клясы.

Другая бальшавіцкая вясна гэта рашаючае зьвяно ў справе ажыцьцяўленьня вялізарнейшай праграмы трэцяга рашаючага году пяцігодкі, у якім мы павінны завяршаць пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі СССР. Буйнейшыя капіталаўкладаньні ў сельскую гаспадарку, якія мы ўтвараем у гэтым годзе, надзвычайна хуткія тэмпы мэханізацыі сельскай гаспадаркі, у першую чаргу сацыялістычнага сэктару подводзяць пад праграму другой бальшавіцкай вясны

мацнейшую фінансавую матар'яльную і тэхнічную базу. Мы сёлета шырока разгортваем будаўніцтва машынатрактарных станцый. Вясною па ўсім СССР пачнуць працаваць звыш 1000 новых МТС. У БССР больш 20-ці новых МТС пачнуць пракладаць шляхі суцэльнай калектывізацыі.

Ці трэба гаварыць аб МТС, як аб рычагох суцэльнай калектывізацыі і рашаючых пунктах сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі цэлых раёнаў, як аб здольных і пераконваючых працоўныя масы аднаасобнікаў у перавагах вядзеньня калякты ўнае гаспадаркі? Бязумоўна, патрэбна, бо ўжо за кароткі тэрмін свайго існаваньня МТС на справе паказалі, якую вялізарную ролю яны адыгрываюць ў справе сацыялістычнай перабудове вёскі, яны ўжо сталі бяспрэчнымі апорнымі пунктамі для далейшага разгортваньня калгаснага руху. Адсюль мы павінны згуртаваць вакол арганізацыі МТС увагу самых шырокіх мас калгасьнікаў, батракоў, беднаты і серадняцтва з тым, каб у сапраўднасьці забясьпечыць выкананьне гістарычных рашэньняў пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб калектывізацыі ў 1931 г. 45 проц. адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па БССР. Мы зараз, у час ўзмоцненай падрыхтоўкі да правядзеньня другой бальшавіцкай вясны, павінны сканцэнтраваць агонь па тых, хто перашкаджае будаўніцтву МТС, або разьвіцьцю іх дзейнасьці.

Койданаўскай МТС плян па рамонту трактароў і с.-г. машын ужо выкананы. 30 трактароў з поўным камплектам с.-г. машын стаяць у гаражы ўпаўне гатовымі да выхаду ў поле.

Будаўніцтва МТС скончана ў 30 годзе і прыступлена к абсталяваньню цэхаў і майстэрні.

Трэба адзначыць, што Койданаўская МТС у такім становішчы будзе мець яшчэ больш вялізарнае значэньне ў перабудове сельскай гаспадаркі на сацыялістычный лад, а таксама будзе высоўваць кадры для барацьбы за пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Кампанія па мабілізацыі сродкаў таксама мае зрух. Заданьне трактарацэнтру ў першай палове сакавіка ўжо выканана на 45,1 проц. Дагаворная кампанія з калгасамі прайшла здавальняюча. З 70-ці калгасаў 64 ужо заключылі дагаворы. У часе дагаворнай кампаніі Койданаўская МТС арганізавала 31 калгас.

Буда-Кашалёўская МТС арганізавана 1-га студзеня 1931 году і поўнасьцю працаўнікамі яшчэ не ўкамплектавана. Аднак, трэба адзначыць, што ўжо ход падрыхтоўкі да будаўніцтва МТС пракладае шлях шырокае і шпаркае сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі, арганізуючы вакол гэтага ўсе працоўныя масы.

Аднак. трэба адзначыць, што з боку РВК практычная дапамога ў гэтым будаўніцтве аказана толькі адводам зямлі пад МТС 25 га і водпускам лесу; пытаньню жа арганізацыі працы МТС на Прэзыдыумах і Пленумах РВК і с.-с., не ставілася.

Раённыя савецкія органы не даацэньваюць ролі МТС.

На час праверкі кампаніі па рэалізацыі акцый трактарацэнтра ў раёне не распачата, а гэтакія ляжаць у Сельбанку на 3000 руб. і да гэтае пары не рэалізавана ні воднай акцыі. Дагаворная кампанія МТС з калгасамі ўжо распачата і заключаны дагаворы з 25 калгасамі і 15-цю. Арганізацыя курсаў прайшла самацёкам, дзякуючы чаму падбор курсантаў быў надта няўдалы. На курсы прасочваліся нават і лішэнцы. У падшуканьні будынкаў для курсаў рулявых ніхто не цікавіўся да прыезду інструктара па масавай працы МТС.

Трэба рашуча пакончыць са стаўкай на самацёк у будаўніцтве МТС, разгарнуць масавую работу сярод калгасьнікаў і беднаты і адначасова рашуча выяўляць усіх тых, хто падрыхтоўку да другое бальшавіцкай вясны пушчае па самацёку і перашкаджае будаўніцтву МТС, з тым, каб у корні прасякаць усю апартуністычную работу ў будаўніцтве апорных пунктаў суцэльнай калектывізацыі.

**І. Хоцькін.**

# Саветы і палітэхнізацыя школ.

XVI Зьезд нашай партыі вызначыў генэральны плян разьвіцьця культурнага будаўніцтва. У ажыцьцяўленьне гэтага пляну другая партыйная нарада па народнай асьвеце намеціла разгорнутую праграму перабудовы ўсей сыстэмы народнай асьветы, а першы палітэхнічны зьезд вызначыў ужо практычную праграму палітэхнічнай перабудовы школы.

Усе гэтыя рашэньні патрабуюць ад саветаў баявых тэмпаў правядзеньня культурнай рэвалюцыі праз уцягненьне шырокіх працоўных мас у культурнае будаўніцтва і такую перабудову школы, каб яна зьявілася сапраўднай кузьняй пралятарскай дзяржавы ў справе выхаваньня актыўных будаўнікоў сацыялізму.

Ажыцьцяўленьне такімі тэмпамі перабудовы нашай масавай школы на палітэхнічных пачатках зьяўляецца адной з важнейшых умоў забесьпячэньня выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і гэтым самым рэальнага садзейнічаньня вырашэньню сусьветнай гістарычнай задачы дагнаць і перагнаць перадавыя ў тэхнічных адносінах капіталістычныя краіны.

Як жа гэтыя задачы вырашаюцца саветамі на мясцох? Трэба адзначыць, што ў асноўным гэтыя рашэньні кіруючых органаў у справе павароту масавай школы на палітэхнічны шлях з посьпехам ажыцьцяўляюцца. Мы наглядаем амаль па ўсей БССР прымацаваньне школ да прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў для ўстанаўленьня непасрэднай сувязі школ з вытворчасьцю. Дзеці ўключаюцца ў вытворчую працу прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў і выступаюць у якасьці актыўных барацьбітоў за выкананьне прамфінпляну, за правядзеньне гаспадарча-палітычных кампаній і мерапрыемстваў партыі і савецкай улады.

У справе палітэхнізацыі перадавыя школы маюць значныя посьпехі, але у гэтай перабудове школ большасьць нашых сельсаветаў яшчэ прымаюць слабы ўдзел.

Дзякуючы такім недапушчальным адносінам з боку некаторых саветаў да гэтай надзвычайна важнай справы, значная частка вясковых школ не зьвязалася яшчэ з вытворчасьцю і арганічна не ўключылася ў гаспадарча-палітэхнічную барацьбу. У такіх школах камуністычнае выхаваньне праводзіцца толькі на словах—фармальна, а ў некаторых выпадках і зусім не праводзіцца. Цяжкасьці сацыялістычнага будаўніцтва не растлумачваюцца зусім, або растлумачваюцца па абывацельскі. Каб ня быць галаслоўнымі прывядом некалькі прыкладаў: а) настаўнік Цімкаўскай школы калгаснай моладзі Андруковіч падрыхтоўку да другое калгаснае вясны тлумачыць вучням, што вясновы сеў пачынаецца каля вялікадня і канчаецца каля тройцы, а па перабудове школы на шлях палітэхнізацыі памянены стары і трухлявы пэдагог заяўляе: „гэты нумар ня пройдзе“ (газэта „Калгасьнік Копыльшчыны“ № 5 (20); б) настаўнік Койданаўскай школы калгаснай моладзі Цярэшка таксама выкладае вучням антысавецкую тэорыю: „у СССР кулак, серадняк, бядняк і батрак прадстаўляюць сабою адну клясу“, а таксама з жалем гаворыць „Савецкая ўлада раскулачвае і высылае кулакоў паміма суцэльнай калектывізацыі“ і шмат інш. (прат. пасядж прэзыдыуму Койданаўскага РВК за 1930 г. № 51); в) выкладчыца граматазнаўства ў Людзенавіцкай ШКМ Кауфман паходжаньне клясавай няроўнасьці тлумачыць вучням таксама чыста па кулацкі: „Ня ўсе гаспадарацць аднолькава, адны гаспадарацць лепей, а другія горш, адным збожжа пабіла градам, заліло вадою, у адных ураджай урадзіўся добры, а ў другіх дрэнны, адсюль багатыя і бедныя“. (Прат. прэзыд. Жыткавіцкага РВК, № 11 § 23, ад 7/III-1931 г.).

У Нехлюдаўскім с/с., Талочынскага раёну настаўнік Літвінаў, які меў цесную сувязь з кулацтвам, арганізаваў у час перавыбарчай кампаніі саветаў зрыў кандыдатур беднаты, а ў школе вывесіў нацдэмаўскі лёзунг такога зьместу: „усе сяляне і сялянкі на перавыбары народнага Нехлюдаўскага сельсавета“ (папярэднія вынікі аб перавыбарчай кампаніі па Талочынскаму раёну).

Уся гэта шкодная антысавецкая работа праводзілася, а можа дзе праводзіцца і да гэтае пары, дзякуючы толькі

таму, што саветы на пастаноўку ў нашых школах камуністычнага выхаваньня мала зварочвалі ўвагі, пакідаючы школы варыцца ва ўласным саку. Частка настаўніцтва такіх адарваных ад саветаў школ зусім не займалася вывучэньнем бытавой і сацыяльна-клясавай абстаноўкі, у якой жывуць вучні іх групы, або клясы з тым, каб на жывых прыкладах паказваць вучням сутнасьць клясавай барацьбы на вёсцы і мерапрыемствы партыі і савецкай улады па зьліквідаваньні клясавых супярэчнасьцяй.

Гэта настаўніцтва зусім упушчае з свайго погляду тое, што ўсетыя задачы, якімі жыве ў сучасны момант краіна, у першую чаргу павінны быць паложаны ў аснову работы школ і што ва ўмовах індывідуальнага сялянскага акружэньня першым крокам да шляху палітэхнізацыі зьяўляецца барацьба за калгас і за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Побач з вышэйпаказанымі шкоднымі фактамі пастаноўкі работы ў школах мы маем цэлы шэраг школ, якія пры дапамозе саветаў і пад кіраўніцтвам кампартыі, вядуць жорсткую барацьбу з астаткамі капіталізму і асабліва ў справе адваёвы дзяцей ад уплыву варожых клясаў, выхоўваючы з іх барацьбітаў за камунізм. Мы маем пераважную колькасьць школ, якія цалкам і поўнасьцю ўключыліся ў клясавую барацьбу, у вытворчае жыцьцё прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў і вёсак, дапамагаючы мільённым працоўным масам стаць актыўнымі будаўнікамі сацыялізму ў нашай краіне.

Гэтыя школы палітэхнізацыю, справу камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня і перабудову школ тварам да вытворчасьці, да калектывізацыі, ставяць як баявы сродак.

Да такіх школ трэба аднесьці, побач з шэрагам гарадзкіх ФЗС, Грозаўскую і Лагойскую ШКМ. Першая мае цесную сувязь з с/саветам і мясцовай парт'ячэйкай і для пасьпяховага ажыцьцяўленьня палітэхнізацыі пры непасрэднай дапамозе с/савета і пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі заключыла ўмову з калгасам „Інтэрнацыянал“.

На сумеснай нарадзе калектываў школы, калгасу і прадстаўнікоў ад парт'ячэйкі і сельсавету гэта школа сваю праграму папоўніла практычным вывучэньнем асноў сельскай гаспадаркі і рахункаводзтва ў калгасе і яе з посьпехам выконвае. Калгас мае жывёлаводчы напрамак, вучні старэйшых груп разьбіты на брыгады і калгас выдзеліў спэцыялістага, пад кіраўніцтвам якога брыгады вучняў навучаюцца правільнаму кармленьню і догляду за жывёлай (за імі замацована вядомая колькасьць жывёлы). Трактар калгасу ў разабраным выглядзе прадастаўлен школе і вучні яе на справе вывучаюць часьці трактару і іх узаемадзейнасьць.

Вытворчы плян калгасу вучні складаюць пад кіраўніцтвам выкладчыка агранома, а рахункаводзтва калгасу вывучаюць пад кіраўніцтвам вопытнага бухгальтара. Пры школе арганізавана майстэрня, у якой вучні са спэцыялістымі калгасьнікамі і пад кіраўніцтвам інструктара школы вытварылі рамонт усяго сельска-гаспадарчага інвентару і дапамаглі калгасу абчысьціць усе насеньне да веснавога севу. Такім чынам школа ўвесь зьмест сваёй вучэбнай работы арганічна аб'яднала з работай калгасу. Вытворчы плян калгасу вісіць на сьценках школы і маецца ў кожнага вучня старэйшых груп. Адным словам, асноўным матар'ялам вучэбнай работы школы зьяўляюцца справы і задачы калгасу. Не адстае школа ад выкананьня ўскладаемых на яе с/саветам абавязкаў у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній. Да кожнага паселішча прымацована брыгада вучняў, якая пад кіраўніцтвам настаўніка і прадстаўнікоў мясцовай парт'ячэйкі і с/савета праводзіць у гэтай вёсцы ўсю работу. Брыгады вучняў заключылі паміж сабою сацспаборніцтва на лепшае выкананьне кожнага заданьня сельсавета. Асабліва брыгады рашуча ўзяліся за падрыхтоўку да другой калгаснай вясны. Яны ўжо сумелі нават у вельмі кансэрватыўнай вёсцы Ужа арганізаваць калгас з 40 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і папоўніць існуючыя калгасы ў другіх вёсках. Брыгады, побач з арганізацыйна-масавай работай, па ўсіх вёсках выяўляюць, хто і ў якой меры ня выконвае заданьняў агульных сходаў па збожжаачыстцы, лясных і іншых загатоўках, складаюць

сьпісы такіх асоб і праз школу падаюць у с/савет для адпаведнага рэагаваньня

Амаль такія жа посьпехі ў справе палітэхнізацыі школы маюцца і ў Лагойскай ШКМ. Гэта школа таксама заключыла з калгасам дагавор і выконвае яго здавальняюча. Звыш дагавору школа арганізавала рымарную майстэрню, у якой адрамантавала ўсю калгасную зброю.

Перабудова школы на палітэхнічнай аснове с усей катэгарычнасьцю ставіць перад саветамі пытаньне аб узмацненьні кіраўніцтва школай, саветы павінны дапамагчы настаўнікам паставіць у школах работу так, каб разгорнутае сацыялістычнае наступленьне рабочае клясы пад кіраўніцтвам компартыі на капіталістычныя элемэнты, працоўны пад'ём і энтузіязм у сацыялістычным будаўніцтве аказвалі рэвалюцыянізіруючы ўплыў на зьмест і мэтады выхаваўчае работы кожнае школы. Саветы павінны дабіцца, каб усе настаўнікі на тэрыторыі с/саветаў умелі арганізоўваць дзяцей ня толькі ў школе, але і па-за яе сьценамі. Кожны настаўнік павінен апірацца на піянэрскую арганізацыю, разгортваць культурна-масавую работу сярод дзяцей і быць актыўным барацьбітом за камунізм. Сельскім саветам неабходна дапамагчы настаўнікам учобу ў вясковай школе першай ступені паставіць так, каб у поўнай меры ажыцьцяўлялася палітэхнічная падрыхтоўка дзяцей, каб кожны канчаючы вучобу ў школе вучань ведаў асновы індустрыялізацыі краіны і элемэнтарныя асновы навуковай пастаноўкі сельскай гаспадаркі і яе сацыялістычнай рэканструкцыі. Трэба, каб кожны такі вучань меў навыкі ў правядзеньні агранамічнага і зоотэхнічнага мінімуму; добра ведаў статут арцелі і яе вытворчы плян, а таксама асновы арганізацыі ў калгасе працы; меў навыкі калектыўнае працы і камуністычных адносін да яе; быў знаёмы з задачамі МТС і з пабудоваю сельска-гаспадарчых машын; элемэнтарна знаёмы з хэмізацыяй сельскае гаспадаркі, а дзе дазваляюць умовы, дык на практыцы і з энэргецікай; меў сталае разуменьне аб сацыялістычнай перабудове быту; умеў растлумачваць розьніцу паміж сацыялістычнаю і капіталістычнаю гаспадаркаю і быў пераконаным барацьбітом за новую сацыялістычную гаспадарку.

У гэту работу ў першую чаргу павінны быць уцягнуты сацыяльна-культурныя сэкцыі саветаў. Гэтыя сэкцыі ў справу перабудовы школ на палітэхнічнай аснове павінны ўцягнуць усе прадпрыемствы, саўгасы, калгасы і працоўныя масы, а таксама арганізаваць па гэтай справе кантроль з боку рабочых і калгасьнікаў. Сэкцыі саветаў павінны адшукаць сродкі і забясьпечыць школы адпаведнай палітэхнічнай літэратураю. Для больш пасьпяховага правядзеньня палітэхнізацыі школ сэкцыі павінны вызначыць брыгады з найбольш падрыхтаваных настаўнікаў, рабочых, калгасьнікаў і актыўнейшых беднякоў і серадзнякоў адзіналічнікаў і даручыць ім, выходзячы з мясцовых умоў, распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па ўдасканаленьні гэтай перабудовы школы з тым, каб поўнасьцю забясьпечыць выкананьне ўсіх вышэйпералічаных задач. Падрыхтаваныя брыгадамі мерапрыемствы стала прапрацаваць на пашыраных паседжаньнях сэкцый і пасьля гэтага выносіць іх на шырокае абгаварэньне пленумаў саветаў. Пажадана, каб па гэтаму пытаньню у межах с/савета былі таксама праведзены дзіцячыя канфэрэнцыі.

Усю сваю работу па палітэхнізацыі школ саветы і іх сэкцыі павінны цесна ўвязаць з інспэктарамі сацыяльнага выхаваньня, а правядзеньне па гэтаму пытаньню дзіцячых канфэрэнцый з камсамольскімі арганізацыямі.

Шырокае залучэньне ў гэтую работу працоўных мас паскорыць удасканаленьне палітэхнізацыі школы і паскорыць ажыцьцяўленьне задачы культурнай рэвалюцыі і гэтым самым дапаможа ў поўнай меры ня толькі выканаць, але і перавыканаць пяцігодку ў чатыры гады.

**Байкаш.**

# Мазыршчына дрэнна падрыхтавалася да пасеўкампаніі.

На сёньняшні дзень ужо піонэру зразумела, што падрыхтоўкай, а таксама і правядзеньнем бальшавіцкімі тэмпамі веснавой пасеўнай кампаніі 1931 г., як асноўнай сальскагаспадарчай кампаніі трэцяга году пяцігодкі, павінны быць забясьпечаны далейшыя посьпехі сацыялістычнага наступленьня на фронце сельскае гаспадаркі.

Калі гэта ўжо ўразумелі піонэры, то ў Мазырскім раёне гэтага ніяк ня могуць уцяміць некаторыя с/с, а таму і становішча з падрыхтоўкаю да веснавой сяўбы знаходзіцца ў зусім нездавальняючым становішчы, а менавіта: зернаачышчаньне разгорнута слаба, насенныя і страхавыя фонды па індывідуальнаму сэктару ня складзены і горш гэтага – да такой важнейшай працы яшчэ ні водзін з сельскіх саветаў не прыступаў; па калгасах гэтыя фонды створаны ня поўнасьцю; рамонт рознага сельскагаспадарчага інвэнтару ідзе надзвычайна маруднымі тэмпамі; прасоўваньне машын і ўгнаеньняў, як да калгасаў, а таксама і да індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ідзе павольнымі тэмпамі і г. д. і г. д.

Зараз, каб падмацаваць такія катастрафічныя вынікі з падрыхтоўкаю да пасеўкампаніі, застановімся на трох сельсаветах і разгледзім, што-ж канкрэтна імі зроблена да другой бальшавіцкай вясны?

Казіміраўскім сельсаветам зроблена вось што. Плян падрыхтоўкі да сяўбы сарваны. Сельсавет зусім не займаўся пытаньнем ачысткі насеньня, сельскгаспадарчыя машыны і інвэнтар не рамантуюцца, да збору попелу не прыступалі. Пляну пасеўкампаніі сельсавет „прынцыпова“ не прызнае і выступае супроць пашырэньня засеўных плошчаў. Калі казаць аб кантрактацыі—то ў гэтым напрамку нічога не рабілася і ня робіцца. Насенныя і страхавыя фонды ня створаны, сельскагаспадарчыя машыны не завозяцца і да абмену звычайнага насеньня на гатунковае пакуль што сельсавет не прыступіў.

Гэты сельскі савет нідае ніякага адпору кулацка-заможнай частцы вёскі, якая вядзе шалёную агітацыю супроць усіх мерапрыемстваў партыі і савецкай улады і ў першую чаргу супроць калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Дый чаму-ж ня весьці супроцьсавецкую агітацыю, калі сам старшыня сельсавету Канопліч за два-тры дні папярэджвае кулакоў аб прадстаячым вопісу іх маемасьці, якія зразумела, к часу вопісу каштоўнейшую маемасьць хаваюць, альбо прадаюць. Сельскім саветам з ніводнае кулацкае гаспадаркі не спагнаны сельска-гаспадарчы падатак, самаабкладаньне, страхоўка і аднаразовы збор на гаспадарча-культурныя патрэбы таксама не спагнаны.

Калгаснае будаўніцтва ў раёне гэтага сельсавету зусім спынілася. Ёсьць яшчэ шэраг агіднейшых фактаў работы сельскага савету, але-ж усіх фактаў тут не пералічыш. Цяпер у кароткіх рысах застановімся на Антонаўскім і Баброўскім сельсаветах.

Тут таксама справа абстаіць кепска. Насенфонды поўнасьцю яшчэ ня складзены, а да ўтварэньня страхавых фондаў і зусім не прыступалі. Ня поўнасьцю ачышчана насеньне і не наладжаны збор попелу.

Што трэба зрабіць, каб гэтыя недахопы адхіліць? у першую чаргу трэба, каб пракуратура занялася справаю Казіміраўскага сельсавету і яго старшынёй Канаплічом.

Далей неабходна ўсім раённым арганізацыям зараз-жа пераключыцца на баявыя рэйкі працы, інакш плян другой бальшавіцкай вясны ў раёне будзе сарваны.

Трэба разгарнуць ва ўсю шырыню сацыялістычныя мэтады работы і ў першую чаргу сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Антонаўскаму сельсавету трэба абмеркаваць паводзіны свайго члена сельсавета, які агітуе супроць давядзеньня загатовак да двара і супроць калектывізацыі. Такіх членаў сельсавета нам не патрэбна. Ад такога кулацкага агітатара трэба аслабаніць сельсавет.

Вось кароценькі малюнак падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай вясны ў Мазырскім раёне.

С. Лодысеў.

# Як Тураўскі РВК „кіруе" працаю каапэрацыі.

Наша краіна ўступіла ў пэрыяд сацыялізму. Бягучы год завяршыць пабудову фундамэнту сацыялістычнай экономікі нашага саюзу. Гэты этап ставіць перад органамі каапэрацыі вялізарнейшыя задачы, якія патрабуюць рашучай перабудовы іх работы.

Аб'яднаны сьнежаньскі Пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) адзначыў, што аднэй з гэтых задач зьяўляецца разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня.

У пэрыяд шпарка разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва вялізарнейшую ролю павінна адыгрываць шырокае разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня. Яно мае значэньне ня толькі з пункту гледжаньня разьвіцьця аграмаджаных форм быту, але з гэтага часу набывае асобную ролю ў сувязі з ліквідацыяй беспрацоўя. Уцягненьне шматмільённых мас жанчын у вытворчасьць як на прамысловых прадпрыемствах, так і ў калгасах і саўгасах, зьяўляецца неадкладнай задачай гэтага году, а гэта ўцягненьне будзе праходзіць тым лягчэй і хутчэй, чым лепш і хутчэй будзе наладжана аслабаненьне жанчын ад прымуса і кухні.

Усе гэтыя задачы каапэрацыяй могуць быць пасьпяхова выкананы толькі пры ўмове рашучага ўзмацненьня кіраўніцтва з боку мясцовых органаў і практычнае дапамогі іх у справе перабудовы ўсёй работы каапэрацыі.

Як-жа кіруе гэтаю перабудоваю Тураўскі РВК?

Гэты РВК замест практычнае дапамогі і арганізацыі шырокага рабочага кантролю над работай каапэрацыі, замест аздараўленьня і ўзмацненьня фінансавага становішча каапэрацыі праз ажыцьцяўленьне жорсткага рэжыму экономіі, замест арганізацыі грамадзкасьці вакол рашучай барацьбы з растратамі, самаснабжэньнем, з перавышэньнем сапраўдных нормаў натуральнай утрускі тавараў, з абважваньнем, абмерваньнем спажыўца і замест ужываньня рэпрэсый да непасрэдных віноўнікаў—на сваім пасяджэньні ад 31-га сьнежня 1930 году (прат. № 61, § 10) выносіць наступную пастанову:

„За парушэньне абавязковых пастаноў АВК і РВК спаж. т-вам у галіне процівапажарнага становішча хлебапякарні і некаторых крам, даць штрафу праўленьню спажыв. т-ва ў суме 100 рублёў, даручыў Райадмаддзелу спагнаць, адначасова прапанаваў спаж. т-ву перавесьці пякарні ў другое памяшканьне, якое-бы адпавядала сапраўднасьці".

Аб чым гаворыць гэта пастанова?

Яна гаворыць, па-першае, аб тым, што РВК да гэтае справы падыйшоў фармальна, па бюракратычнаму; па-другое, РВК раней непаклапаціўся, каб дапамагчы спажывецкаму т-ву адшукаць больш адпавядаючае памяшканьне пад хлебапякарні і крамы і нарэшце, не заняўся выяўленьнем непасрэдных віноўнікаў у парушэньні абавязковых пастаноў РВК і АВК з тым, каб пакараць гэтых віноўнікаў, а ня ўсю каапэрацыю.

Мы рашуча патрабуем ад Тураўскага РВК перагляду свае пастановы ў адносіне налажэньня штрафу на спажывецкую каапэрацыю, у бок яе адмены, а таксама зьвярнуць асаблівую ўвагу на кіраўніцтва, перабудоваю ўсёй працы спажывецкай каапэрацыі ў адпаведнасьці з сучаснымі запатрабаваньнямі.

М.-Б.

---

# Работу з беднатой—на вышэйшую ступень.

Пытаньне арганізацыі батрацтва і беднаты набывае ва ўмовах правадзімай сацыялістычнай перабудовы вёскі асаблівае значэньне, бо арганізацыя батрацтва і беднаты, непарыўна зьвязана з калектывізацыяй, з ліквідацыяй кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі і з палітычным і гаспадарчым уздымам вёскі і зьяўляецца неабходнейшаю ўмоваю для пасьпяховага правядзеньня разгорнутага сацыялістычнага наступленьня.

Сур'ёзнейшае значэньне арганізацыі батрацтва і беднаты неаднаразова пад-

крэсьлівалася партыяй і ўрадам, патрабаваўшы ад партыйных і савецкіх арганізацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці максымальнай увагі да гэтата вучастку работы.

У сьнежні 1930 г. ЦК УсеКП(б) ізноў завастрыў увагу на гэтым пытаньні і даў дырэктыву аб усямерным разгортваньні самастойнай арганізацыі батрацтва і беднаты. У сваёй пастанове ЦК папярэджваў:

„ЦК лічыць, што толькі чуждыя УсеКП(б) і УсеЛКСМ элемэнты могуць ігнараваць гэтую карэнную задачу партыі, задачу самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва ў вёсцы“.

XVI-м зьездам УсеКП(б) у дакладах і рэзалюцыях была падкрэсьлена важнасьць сыстэматычнасьці работы сярод батрацтва і беднаты.

Прайшло ўжо больш году з моманту выданьня пастановы ЦК УсеКП(б) і восім месяцаў пасьля XVI зьезду УсеКП(б). Гэты тэрмін упаўне дастатковы для таго, каб партыйныя, савецкія і грамадзкія арганізацыя змаглі шырока разгарнуць работу сярод батрацтва і беднаты, паставіўшы яе ў цэнтры сваей ўвагі.

Што-ж мы маем у гэтай галіне на сёньняшні дзень? Ці змаглі парт'ячэйкі і нізавыя органы пралетарскай дыктатуры, на долю якіх прыпадае непасрэдная работа з батрацтвам і беднатою на вёсцы па сапраўднаму перавесьці яе на баявыя рэйкі?

Шматлікія факты дазваляюць сьцьвярджаць, што ў справе па арганізацыі батрацка-бядняцкіх груп і наладжваньню іх работы наглядаецца бясспрэчны зрух. Шэраг мясцовых партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый сапраўды паставілі гэтую работу у цэнтр свае дзейнасьці і дабіліся ў гэтай справе значных посьпехаў і ў колькасных, і ў якасных адносінах..

У падцьвярджаньне гэтага трэба даказаць, што вялізарнейшы ўплыў аказваюць на палітычнае жыцьцё вёскі і на работу мясцовых органаў групы батрацтва і беднаты пры сельскіх саветах і іншых выбарчых арганізацыях у Лепельскім раёне. У гэтым раёне ніводная палітычна-гаспадарчая задача не вырашалася бяз удзелу груп беднаты. Тут збоку груп беднаты існаваў сыстэматычны кантроль і праверка выкананьня работы кожнага выканаўца, дзякуючы чаму калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак дасягнула звыш 38 проц. Плян рэалізацыі пазыкі выканан на 106,8 проц., плян мабілізацыі сродкаў выканан на 91,3 проц. Разьмеркаваньне ўраджаю праведзена па ўсіх калгасах.

Вось кароценькія вынікі работы груп беднаты ў Лепельскім раёне, якія характэрызуюць, што пры найлепшай увазе і жаданьні можна арганізаваць работу груп беднаты і яна дасьць адпаведныя вынікі.

Далей возьмем некалькі фактаў з тых раёнаў, дзе работа з беднатой знаходзіцца ў заняпадзе, і пакажам як гэта дрэнна адбіваецца на выкананьні важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніях.

Пачном з Цэрахаўскага раёну, дзе ход гаспадарча-палітычных кампаній ня ўвязаны і не падпарадкаваны пытаньням калектывізацыі і не разгорнуты рашучы наступ на кулака. Кулацка-заможныя гаспадаркі ня выканалі цьвёрдых заданьняў па ўсіх відах загатовак. Плян збожжазагатовак бядняцка-серадняцкаю часткаю перавыкананы, а кулацка-заможнымі гаспадаркамі цьвёрдыя заданьні ня выкананы. Ніводзін кулак і заможнік да судавай адказнасьці ня прыцягнуты. Таксама ня выкананы кулацка-заможнымі гаспадаркамі цьвёрдыя заданьні па ільназагатоўках.

Старшыня Усоха-Буцкага сельсавету—Семянцоў заяўляе, што ў яго сельсавеце няма кулакоў і заможнікаў і калі беднякі выкрылі кулакоў, Семянцоў не галасаваў за дачу ім цьвёрдых заданьняў.

Старшыня Перарostаўскага сельсавету—Абозны выдаў кулакам і заможнікам давекі аб тым, што яны серадкякі і яны, выканаўшы заданьні па загатоўках, прэміраваліся.

Старшыня Цэрахаўскага сельсавету—кулак Малаяў, абраны членам райвыканкому і нават быў абраны дэлегатам на X Усебеларускі зьезд Саветаў. Калі гэты „актывіст“ рабіў даклад на прэзыдыуме сельсавету аб веснавой пасеўнай кампаніі дык не сказаў ніводнага слова пра калектывізацыю. Пралез ён у калгас з мэтаю захаваньня ад індывідуальнага абкладаньня.

У раёне пануе праваапартуністычная стаўка на самацёк. Работы з беднатою партыйныя ячэйкі не праводзяць. Крупіцкая парт'ячэйка недаацэньвае важнасьці работы з беднатой і ня кіруе калгасным рухам. Васілеўская парт'ячэйка зусім не праводзіць работы па калектывізацыі і ня кіруе групамі беднаты, у выніку чаго ў раёне яе дзейнасьці няма калагасу.

Зараз застановімся на Мазырскім раёне. Пры Каліцкай ячэйцы КП(б)Б налічваецца 4 групы беднаты, у колькасьці 51 чал., з якіх 44 бednякі і 7 батракоў. Парт'ячэйка яшчэ і да гэтага часу не прапрацавала як сьлед дырэктывы ЦК аб рабоце з беднатой, ні разу на працягу 7 месяцаў пытаньне аб рабоце сярод беднаты не стаяла на партсходзе і не заслухоўвала кіраўнікоў груп аб становішчы працы. Не арганізавана група беднаты пры каапбюро. Уся праца праходзіць самацёкам, бяз сталых плянаў, як у ячэйцы, так і групах.

Групы беднаты у Зеляноцкім і Антонаўскім сельсаветах пры камітэтах узаемадапамогі разваліліся і старшыні КСТУ ня ведаюць хто зьяўляецца кіраўніком гэтых груп беднаты.

Пытаньні, якія КСТУ праводзіць у жыцьцё на групах і сходах беднаты не абгаварваюцца.

Ня лепш справа абстаіць і ў Аршанскім раёне. У Пугляеўскім сельсавеце ёсьць некалькі батрацка-бядняцкіх груп: пры сельсавеце, СКСТУ і ў некаторых калгасах. Аднак, сталая работа з беднатой не вядзецца.

Наконт дрэннае арганізаванасьці беднаты і адсутнасьці сталае работы з ёю, калгасьнікі з „Авангарду"—Будзішча, проста кажуць:

„—Гады два таму назад у нашым сельсавеце бедната была добра арганізавана і згуртавана вакол сельсавету і тады мы адпор кулацтву як належыць давалі, а зараз—няма ў беднаты арганізаванасьці і работа з ёй не вядзецца".

Дрэнна ідзе работа з беднатою і ў Суражскім раёне. Важнейшыя палітычна-гаспадарчыя кампаніі ў вёсьцы праходзяць без выстарчальнага разгортваньня работы сярод батрацтва і беднаты і асабліва па Батаніцкаму, Крацоўскаму і Марчанскаму сельсаветах.

Якасны склад кіраўнікоў груп беднаты падабраны ня зусім здавальняючы (Балтаніцкі, Марчанскі і Янавіцкі сельсаветы). Нарад кіраўнікоў груп як у раёне, так і ў сельсаветах райвыканком не праводзіў.

Можна было-б прывесьці яшчэ цэлый шэраг прыкладаў слабай работы з батрацтвам і беднатой, якія сьведчаць аб надзвычайна адмоўным уплыве такога становішча работы з батрацтвам і беднатой на правядзеньне сацыялістычнай перабудовы вёскі. І бясспрэчны факт, што калектывізацыя сельскай гаспадаркі наступленьне на кулацтва і гаспадарча-палітычны і культурны уздым вёскі найменш пасьпяхова праходзіць імённа там, дае слаба работа з батрацтвам і беднатою.

У рабоце з батрацтвам і беднатою патрэбен рашучы перелом. Той зрух, які наглядаецца за апошні год у арганізацыі батрацтва і беднаты, яўна недастатковы і далёка яшчэ не адпавядае дырэктывам партыі.

Трэба палажыць рашучы канец апартуністычнай недаацэнцы работы з групамі беднаты і ўзяцца як сьлед за замацаваньне батрацка-бядняцкага уплыву ў калгасным і савецкім будаўніцтве.

Выкананьне другой бальшавіцкай веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі будзе залежыць ад таго, на колькі парт-арганізацыі будуць кіраваць, а саветы і грамадзкія арганізацыі рашуча павядуць наступленьне на кулакоў, разгорнуць працу з батрацтвам, беднатою і сераднякамі, наколькі яны наладзяць працу груп беднаты і арганізацыйную працу ў існуючых калгасах, ад гэтага будзе залежаць выкананьне задач трэцяга году пацігодкі ў перабудове сельскай гаспадаркі на іх тэрыторыі.

Неабхода цьвёрда ўявіць, што толькі пры ўмове, актыўнай работы з батрацтвам і беднатой і мабілізацыяй іх вакол ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі магчыма пасьпяховае правядзеньне сацыялістычнага наступленьня.

Сяргей Лодысеў.

# Культустановы Дараганаўскага сельсавету бязьдзейнічаюць

**(Старадароскі раён).**

Для забясьпечаньня посьпеху ў падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўкампаніі і калектывізацыі ў часе другой бальшавіцкай вясны аграмадную ролю граюць культустановы на вёсцы: школы, хатычытальні і чырвоныя куткі.

Дзе гэтыя ўстановы арганічна ўключыліся ў працу правадзімых кампаній, там мы маем уздюм калектывізацыі, з посьпехам праходзяць і ўсе іншыя мерапрыемствы партыі і ўлады. Толькі культрстановы Дараганаўскага с.-савету не зразумелі рашаючага значэньня другой бальшавіцкай сяўбы і не зразумелі сваёй адказнай ролі. Яны яшчэ да гэтага часу стаяць у баку ад сацыялістычнага будаўніцтва, праяўляючы на практыцы найшкоднейшы апартунізм.

**Хата-чытальня,** якая на ўвесь сельсавет адна і маецца, абсалютна нічога ня робіць. Нават няма савету хаты-чытальні, насьценгазэта адсутнічае. Загадчык хаты-чытальні акуратна зьяўляецца ў сельсавет, чытае пра сябе газэты, або забярэцца ў асобны пакой і слухае сам адзін радыё. Масавай працы не праводзіць. Кансультацыя для сялян пры чытальні не наладжана.

Дзякуючы таму, што культкамісія пры сельсавеце бязьдзейнічае, па 16 вёсках і пасёлках сельсавету ня ўтворан ні адзін чырвоны куток. Сяляне, ня гледзячы на існаваньне ў межах сельсавету ўмацаваўшагася калгасу „Чырвоны Працаўнік“ кормяцца кулацкімі плёткамі адносна калгаснага будаўніцтва, у вочы скажаючы факты з жыцьця гэтага калгасу.

**Настаўніцтва і школы.** Па-першае, трэба адзначыць, што па Дараганаўскаму сельсавету маецца да 60 членаў саюзу працасьветы, бо апрача 6 вясковых школ 1 ступені, тут існуюць інстытут сацыяльнага перавыхаваньня (Крынкі), дзіцячы дом і пяцігрупавая сямігодка.

Але, як яны працуюць?

Сямігодка ўсё яшчэ пакуль наладжвае сувязь з калгасам „Чырвоны Працаўнік“, дагавор па палітэхнізацыі яшчэ ў стадыі афармленьня, настаўніцкі калектыў яшчэ да сёньняшняга дню ўсё ня можа вылучыць і выслаць на рэгулярную працу ў культурна-бытавую камісію калгасу аднаго з настаўнікаў. Яшчэ да апошняга часу ў сямігодцы ўжываліся шкодныя матэматычныя сшыткі Сагаловіча (выд. БДВ у 1929 г., а пісаліся яшчэ раней) з прышчэпаўскай ідэалёгіяй, пра сяляніна адзінаасобніка—кулака, як ён, адзінаасобнік разьмяркоўвае сваё поле; які ён, аднаасобнік, мае прыбытак ад **уласнае капейкі** ды з задачамі амаль не на кожнай старонцы пра пакупку рабочым хлеба. Гэта ў той час, калі ў нас бурліць хваля калгаснага будаўніцтва. Пасеўнага пляну сельсаветаў і свайго пляну або вытворчых плянаў калгасаў школы не скарыстоўваюць. Да сёньняшняга дню яшчэ ў некаторых школах дзеці любуюцца партрэтам сярэднявяковага царкоўніка Скарыны. Некаторыя настаўнікі сарвалі лікпункты і і аддаюцца пад суд. Другія настаўнікі (Крынкаўская школа) **караюць дзяцей,** забараняючы ім, аж да 10 дзён наведваць школы.

**Палітвучобаю. марксыцкаю** падрыхтоўкаю настаўнікі не займаюцца. Кажуць, з восені быў складзен палітгурток, але кіраўнік (той-жа загадчык хатай-чытальняй) не зьявіўся, і на тым справа скончылася. Газэту „За коммунистическое просвещение“ прыблізна з 40 нтстаўнікаў выпісвае ўсяго 9, надзвычайна мала выпісваецца „Зьвязда“ і „Праўда“. Ня дзіва таму, калі настаўнік агітуючы за калгас кажа, што лепш ісьці ў калактыў, а не на завод, бо ў горадзе рабочы ходзіць з мяшочкам па базары, каб дастаць сабе хлеба.

Сваркі паміж настаўнікамі ня ізжыты. А сяляне гэта падхопліваюць і кажуць: „во гэтак і мы будзем у калгасе“ (в. Радуцічы).

Сярод жанчын праца не вядзецца сыстэматычна. Нават у дзень 8 сакавіка Дараганаўская сямігодка ні ў калгасе, ні ў суседняй вёсцы, ні ў самым мястэчку не правяла жаночага сходу. Такую бязьдзейнасьць у гэты дзень праявіў і інстытут сяцыяльнага перавыхаваньня адносна суседніх пасёлкаў Камарына і Нагорнае, дзе няма школ.

Ва ўсіх гэтых прарывах у працы школ вінават ня толькі сельком і групком пры

інстытуце сацыяльнага перавыхаваньня, але і раённая інспэктура, пры абглядзе не ахаплівае ўсіх бакоў працы школ. Напрыклад, у пасёл. Буда пазасеткавая школа мала таго, што працуе 6 дзён, але якраз выхадны дзень робіць у нядзельку; не складзен тут школьны савет. Між тым гэту школу і лікпункт ужо наведваў ад райінспэктуры т. Хілько.

Зразумела, што бязьдзейнасьць культустаноў, іх прарывы зьяўляюцца аднэй з найважнейшых прычын адставаньня Дараганаўскага с.-с. у правядзеньні калектывізацыі і пасеўкампаніі: на сёньня па сельсавету маецца калектывізаваных толькі 7,0 проц. сялянскіх двароў.

Б'ём трывогу, каб як найхутчэй узварушыць школы, хату-чытальню і настаўніцтва Дараганаўскага сельсавету, ліквідаваць прарывы і ўзмацніць ход калектывізацыі па Дараганаўскім с.-савеце.

М-ш.

## Перашкоды калектывізацыі па Дараганаўскім сельсавеце.

(Стародароскі раён).

Яшчэ і на сёньня па раёну Дараганаўскі сельсавет займае адно з апошніх месц у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі. За ўсю зіму тут утворана толькі тры невялічкіх калгасікі з 30 гаспадарак. Калі-ж улічыць існаваўшы ужо гадоў пяць калгас „Чырвоны Працаўнік“, дык атрымаем усяго 7 проц. калектывізаваных сялянскіх двароў.

Якія-ж прычыны такога ганебнага адставаньня?

Па-першае, сельсавет у значнай ступені пераржыў прышчэпаўскую рэформу. Тут маецца 44 заселеных пункты, з якіх вёсак і прышчэпаўскіх пасёлкаў—16, а рэшта—прышчэпаўскія хутары. Сяляне і кажуць, „што ім абрыдла ўсё перабудоўвацца, хай-бы адразу рабілі калгасы“. Цікава, што пападаюцца пасёлкі (Буда, Каменка, Красны), якія ў пераважнай большасьці заселены былымі панскімі батракамі, але якраз-то яны і горш усяго паддаюцца калектывізацыі. Адны з батракоў кажуць, што за панам яны мелі хлеб, а ў калгасе будуць галодныя, —гэта былыя конюхі і ім падобныя. Другія кажуць, што яны, як батракі-беднякі, запішуцца ў калгас, але першымі з заду, бо „бедняку—хоць і ў раку“. Так гаворыць адсталая і падвучаная заможнікамі і кулакамі частка насельніцтва. А галоўнаю прычынаю, якая затрымлівае арганізацыю калгасаў, бядняцка-сераднядкае насельніцтва сельсавету высоўвае боязьнь вайны. Асабліва гэту прычыну выстаўляюць жанчыны: „нашых мужыкоў на вайну пабяруць, а мы, бабы, што зробім у калгасе?“. На пасёлках Камарына і Нагорнае і ў в. Радуцічы жанчыны знарок ідуць на агульныя сходкі, не дзеля таго, каб паслухаць, павучыцца і дапамагчы вырашыць тое ці іншае пытаньне, але каб галасаваньнем праваліць прыняцьце пасеўпляну, каб сарваць запіс у калгас. Гэта робіцца жанчынамі тут арганізавана. Яны зносяць дзяцей у адну хату, даручаюць гаспадыні, а самі ідуць гуртам на сходку (пас. Нагорнае).

Ясна, што гэта ня робіцца само сабою, а пад замаскаваную кулацкую песеньку і ўсіх варожых сацыялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў.

Поруч з жанчынамі пляцецца ў хвасьце і вясковы актыў з сялян: сябры сельсавету, засядацелі сельскіх судоў, сябры кам. сялянскай узаемадапамогі і інш. Бывае, што гэты „актыў“ падчас супроць прыняцьця пасеўпляну; як правіла, сябры сельсавету ў калгасы ня хочуць пісацца ні першымі, ні апошнімі, ня гледзячы на пастанову пленуму сельсавету аб уступленьні ў калгасы, ў першую чаргу сяброў сельсавету.

Чым тлумачыць наяўнасьць гэтых перашкод калгаснага будаўніцтва па Дараганаўскаму сельсавету?

Па-першае, тут упэўнена трэба казаць, што адсутнічае палітасьветная праца сярод дарослага насельніцтва. Адна адзіная хата-чытальня пры сельсавеце бязьдзейнічае, на 44 насельных пункты няма ні воднага чырвонага кутку, школы не вядуць сыстэматычнай працы сярод жанчын, не знаёмяць сялян з адозваю ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб кантрактацыі і рашэньнямі VI Усесаюзнага Зьезду Саветаў. На вёсках адсутнічаюць камсамольскія арганізацыі, молодзь прадастаўлена сама сабе.

Ш. М.

# Б'ем трывогу.

Сельскія саветы Сьвіслацкага раёну падрыхтоўчую работу да пасеўкампаніі вядуць з „прахладцам“. Аб гэтым сьведчыць тое, што ніводзін з сельсаветаў ня выканаў дырэктыву ЦК і СНК БССР па пытаньні давядзеньня пляну пасеўкампаніі да двара (пляны да двара давядзены на 34 проц.)

На сёньняшні дзень у раёне маецца шэраг такіх сельсаветаў, якія ня далі цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам па засеву плошчы і культур.

Надзвычайна марудна праходзіць засыпка насенных страхавых і фуражных фондаў у калгасах, а таксама па лініі камітэтаў узаемадапамогі і вытворчых таварыстваў і амаль што ні ў адным сельскім савеце ня прыступлена да засыпкі страхавых фандаў у індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

Зернаачышчальныя абозы ня маюць поўнай нагрузкі, у выніку чаго насеньне ачышчана толькі на 41 проц. плянавага заданьня. Ёсьць і такія прыклады, калі трыеры стаяць па некалькі дзён без усялякага руху (Градзянскі сельсавет).

Загатоўка насеньня ідзе слаба і асабліва па тэхнічных культурах. Некаторыя сельсаветы не далі яшчэ цьвёрдых заданьняў кулацка-заможнай частцы вёскі па тэхкультурах (Сялібскі і інш.).

З боку райвыканкому вылучаны адказныя працаўнікі ў якасьці упаўнаважаных РВК па таму ці іншаму сельсавету. Справа гэта добрая, але-ж дрэнна тое, што некаторыя упаўнаважаныя, як напрыклад, Краснашчокаў, ужо даўно ня быў у тым сельсавеце, да якога ён прымацаваны. Прыкладу Краснашчокава пасьледваў і другі упаўнаважаны РВК—гэта Парэнькоў, які 3 тыдні не заглядваў у прымацаваны да яго сельсавет. З гэтага можна зрабіць такі вывад, што упаўнаважаныя райвыканкому ня лічаць сябе адказнымі за даручаную ім работу у тым ці іншым сельсавеце.

Кантрактацыя яравых пасеваў ідзе чарапашымі крокамі, а там, дзе гэта работа праведзена (Яноўскі сельсавет), то райкалгассаюзам ня ўжыты неабходныя меры да заключэньня адпаведных кантрактацыйных дагавароў.

Сельскія саветы раёну не мабілізавалі вакол сябе батрацтва, беднату і калгасьнікаў на бальшавіцкую падрыхтоўку да другой калгаснай вясны, у выніку чаго процант калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак дасягнуў у раёне толькі 16,2 проц. Значная частка сельсаветаў, у справе калектывізацыі, праяўляюць поўнаю нядбайнасьць і спадзяюцца на самацёк (Сялібскі, Віркаўскі, Пагарэльскі і Касьянскі).

Лепш справа з падрыхтоўкаю да пасеўкампаніі абстаіць у саўгасе імя „Сьвярдлова“, дзе падрыхтоўка ў асноўным ужо скончана. Насеньне ачышчана, сельскагаспадарчыя машыны і інвэнтар адрамантаваны і попел у патрэбнай колькасьці сабраны.

Калі казаць аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да пасеўкампаніі па лініі Райбанку, то і тут справа абстаіць ня зусім добра, бо тыя крэдыты, якія вызначаны для калгасаў, апошнімі не скарыстоўваюцца. Справа кантрактацыі ў рабоце райбанку яшчэ не знайшла пэўнага адбітку.

Вось як абстаіць справа у Сьвіслацкім раёне з падрыхтоўкаю да другой бальшавіцкай вясны,

С. Л.

---

# У Талачынскім раёне не сьпяшаюцца.

У раёне вельмі слаба разгорнута работа па калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а ў асобных сельсаветах, як напрыклад: Азерацкім, Няклюдаўскім, Еўдахаўскім і Плоскім дырэктывы партыі і ўраду па калектывізацыі зусім ня выконваюцца.

Ні адзін з сельскіх саветаў раёну ня выканаў дырэктыў ураду па пытаньні давядзеньня плянаў веснавой пасеўкампаніі да паселішч і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у парадку самаабавязацельстваў у вызначаныя тэрміны. Ня поўнасьцю давездены цьвёр-

дыя заданьні і да кулацка-заможнай часткі сялянства.

Ачыстка збожжа ў раёне праходзіць дрэнна (ачышчана толькі 38,7 проц. насеньня). Зернаачышчальных машын маецца ў дастатковай колькасьці, але-ж яны ня маюць поўнае нагрузкі. Да гэтых недапушчальных фактаў трэба дадаць, што да апошняга часу на складах райкапсаюзу стаяла 7 машын без усялякага руху.

Стварэньне насенных і страхавых фондаў па калгасах праходзіць вельмі маруднымі тэмпамі, а калгассаюз не зьвяртае на гэта дастатковае увагі. Стварэньне-ж страхавых фондаў сярод індывідуальнага сэктару знаходзіцца пад вялікаю пагрозаю, бо плян выкананы ўсяго толькі на 7 проц. Цэлы шэраг сельсаветаў, а менавіта: Валосаўскі, Плоскі, Рыдамльскі, Няклюдаўскі, Саколінскі, Мархлеўскі, Кулахоўскі, Друцкі, Азерацкі і Славенскі на сёньняшні дзень страхавых фондаў па індывідуальнаму сэктару зусім не стварылі.

Справа з рамонтам сельскагаспадарчага інвэнтару, абменам звычайнага насеньня на гатунковае, зборам попелу, падрыхтоўкаю да пратручваньня насеньня і вапнаваньня глебы праходзіць таксама павольнымі тэмпамі, а з боку шэрагу раённых устаноў і арганізацый, а таксама і сельскіх саветаў, наглядаецца слабае кіраўніцтва і недастатковая увага гэтым пытаньням.

Дрэнна ідзе справа і па кантрактацыі яравых пасеваў, а таму плян выкананы ня больш як на 2 проц. у індывідуальных гаспадарках і 15 проц. у калгасах. Слабая работа у справе пасьпяховага правядзеньня контрактацыі тлумачыцца тым, што райкаапсаюз і райкалгассаюз не мабілізавалі сваіх апаратаў на правядзеньне гэтай важнейшай задачы партыі і ўраду.

Райземаддзел, калгассаюз і каапсаюз ня прымаюць дастатковых мер да разгортваньня бальшавіцкімі тэмпамі падрыхтоўчых работ да пасьпяховага правядзеньня другой бальшавіцкай пасеўнаў кампаніі. Гэтыя установы яшчэ і да гэтага часу ня маюць дасканалых лічбаў аб колькасьці маючагася і недахапаючага насеньня як у паасобных сэктарох, так і ў паасобных відах культур.

Дрэнна ідзе работа па падрыхтоўцы да веснавой пасеўкампаніі і па лініі камітэтаў ўзаемадапамогі.

Злучная кампанія праходзіць без усялякай увагі як з боку калгассаюзу, каапсаюзу, так і з боку райземаддзелу і калі гэтыя арганізацыі не разварушацца, то магчымы зрыў злучной кампаніі ва ўсім раёне.

Калі усе раённыя арганізацыі і установы Талачына не перабудуюць зараз-жа работу на бальшавіцкія тэмпы, то трэба быць упэўненым, што другая бальшавіцкая вясна у Талачынскім раёне стане пад пагрозаю зрыву.

Неабходна мабілізаваць усю савецкую грамадзкасьць раёну на дапамогу сельсаветам у справе пасьпяховага правядзеньня плянаў вясеньняй пасеўкампаніі і контрактацыі.

С. Л.

---

## Аб становішчы і далейшых задачах завочнага навучаньня работнікаў нізавога апарату па Случчыне.

Задача, пастаўленая камуністычнай партыяй перад краінай Саветаў, „Дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхнічных і эканамічных адносінах у мінімальныя тэрміны“ патрабуе такога вялізарнага ўздыму творчых сіл і энтузіязму працоўных мас, які толькі магчымы ў краіне будуючагася сацыялізму. Працэс стварэньня фундамэнту сацыялістычнай эканомікі саправаджаецца ня толькі тэхнічнай, але і культурнай рэвалюцыяй. Сацыялістычная рацыяналізацыя прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ператварае кожнага рабочага і работніцу, кожнага калгасьніка і калгасьніцу ў сьвядомага арганізатара сацыялістычных вытворчых навыкаў. Усё гэта з дня ў дзень больш і больш павялічвае запатрабаваньні працоўных мас у падвышэньні сваіх ведаў наогул, а тэхнічных і палітычных у асаблівасьці.

Арганізатары і кіраўнікі сацыялістыч-

най вытворчасьці, павінны быць добра падрыхтаваны па пытаньнях Марксыцка-Ленінскай тэорыі і нават практыкі, але на вялікі жаль, на сёньняшні дзень адчуваецца на нізах недахоп у падрыхтаваных арганізатарах і кіраўніках па сацыялістычнаму будаўніцтву сельскай гаспадаркі; работнікі сельскіх саветаў вельмі слаба падрыхтаваны ў палітэхнічных ведах і ня рэдка не разьбіраюцца ў самых элямэнтарных (прастых) справах работы сельсавета. Ці ёсьць магчымасьць работнікам нізавога савецкага апарату падвышаць сваю адукацыю і палітычна Марксыцка-Ленінскія веды, хоць бы праз завочнае навучаньне? Трэба сказаць з усёй рашучасьцю, што такая магчымасьць ёсьць,—толькі трэба, яшчэ з большай рашучасьцю адкінуць у бок нежаданьне, нядбайнасьць і спасыланьня—„няма часу займацца"...

Па Случчыне, пакуль-што ні воддзін работнік нізавога апарату ў сучасны час завочна не навучаецца, нават некаторыя работнікі бягучую літаратуру (газэты, часапісы і іншую) не прачытваюць. Пры праверцы некаторых сельсаветаў па ўсваеньні імі сваіх абавязкаў у пяці сельсаветах (Ленінскі, Кастрычнікаўскі і іншыя) пры доўгім шуканьні знойдзены ў справах новыя палажэньні пра сельсаветы не разрэзанымі, а таксама шмат каштоўнай іншай літаратуры: завочныя курсы савецкага будаўніцтва, часапісы „Саветы Беларусі" і іншыя. Ёсьць і такія сельсаветы (Казловіцкі і іншыя), у якіх і днём з ліхтарней ня знойдзеш паступіўшай у сельсавет літаратуры. Гэтыя с/с заўсёды спасылаюцца на тое, што „мы такую літаратуру не атрымлівалі, а дзякуючы гэтаму нічога ня ведаем". Аднак пры ўсебаковым апытаньні высьвятляеш, што літаратура ў сельсавет паступіла—але яе зусім пастаронныя людзі расьцягнулі і сельсаветчыкі яе ня чыталі. У гэтых с/с магчыма пачуць толькі адно—„няма часу займацца і чытаць".

Палітычная сьвядомасьць працоўных мас расьце і яны вельмі часта патрабуюць тлумачэньня па тых ці іншых складаных справах ад работнікаў нізавога апарату, але нажаль бываюць выпадкі, калі на гэтыя запатрабаваньні не даюцца дасканалыя адказы і ясныя тлумачэньні. У такіх выпадках бярэ верх кулак, антысавецкі элемэнт, альбо сэктант—тлумачачы гэтыя пытаньні на свой клясава-варожы лад.

Вядома, што работнікам нізоў, падчас бывае цяжка ў працы ад недастатковага вопыту, ад маласьвядомасьці і няўменьня, ад недаацэнкі таго, што робіцца вакол.

У такіх выпадках шмат можа дапамагчы завочнае навучаньне, але яго трэба паставіць на належную вышыню. Трэба завочнае навучаньне для работнікаў нізавога апарату арганізаваць так, каб кожнаму прадстаўлялася поўная магчымасьць займацца завочным навучаньнем.

Для гэтага патрэбна плянавасьць работы кожнага работніка, каб выдзеліць свабодную гадзіну для заняткаў, бо мы шмат трацім часу на дарэмную суталоку, і таптаньне на адным месцы. Дзякуючы бясплянавасьці ў рабоце, у нас няма часу пачытаць адпаведную літаратуру, каб папоўніць свае веды; мы часта прыступаючы да ажыцьцяўленьня якіх небудзь каштоўных мерапрыемстваў, ня ўлічваем мясцовых акалічнасьцяў і за гэтым дапушчаем памылкі. Для зьліквідаваньня прарываў на фронце завочнага навучаньня неабходна ў першую чаргу наладзіць кіраўніцтва, трэба мець адказнага работніка па завочнаму навучаньню і адпаведную літаратуру, што дасьць належны зрух і вынікі ў завочным навучаньні работнікаў нізавога апарату.

За гэту справу павінны ўзяцца ўсе арганізацыі Случчыны.

Вінаградаў.

# Праваапартуністычная практыка ў працы Бягомльскага РВК.

Ніжэйпералічаная бязьдзейнасьць устаноў і арганізацый раёну, а таксама праца самацёкам сьведчыць аб правай практыцы Бягомльскага РВК, якая стварае небясьпеку на даным этапе ў пасьпяховым разьвіцьці разгорнутага соцнаступу на капіталістычныя элемэнты у барацьбе за пасьпяховае выкананьне прамфінпляну, за генэральную лінію партыі, за выкананьне пяцігодкі за 4 гады, за суцэльную калектывізацыю раёну.

Бо што значыць апраўданьне РВК, што ён „працаваў здавальняюча“ у той час, калі яго асноўныя часткі, неразрыўныя зьвеньні ў працы, састаўныя часткі РВК на вёсцы бязьдзейнічалі, ці працавалі самацёкам.

Пачнем з прыкладаў:

### Праца сельсаветаў.

Як старыя, так і новаабраныя сельсаветы яшчэ да гэтага часу не пераключыліся на баявыя, ударныя тэмпы працы, на новыя сацыялістычныя мэтады і формы, якія выкоўваюцца шырока разгорнутым сацыялістычным будаўніцтвам. Праўда, на недахопах мы вучымся, але-ж пара гэтыя недахопы спыніць, выпраўляючы іх на хаду з тым, каб ужо працаваць без усялякіх ухілаў ад генэральнай лініі нашай партыі.

У раёне маецца 11 сельсаветаў, але ні воднага няма, каб працаваў прыкладна.

Большасьць сельсаветаў працуе нават бесплянава, самацёкам, г. зн. па кампанейску праводзіць кампаніі, ды і баста, а на апошнюю працу „і часу няма“.

Ня пры ўсіх сельсаветах існуюць групы беднаты. Праца з беднатой праходзіць нездавальняюча, самацёкам.

Таксама дрэнная праца з жанчынамі, з якіх па раёну маецца 70 проц. няпісьменных. Дэлегацкія пункты працуюць толькі на паперы, сыстэматычная растлумачальна-выхаваўчая праца з жанчынамі не вядзецца. У выніку мы маем зусім слабы ўдзел жанчын у перавыбарах сельсаветаў (каля 40 проц.).

Калі паглядзець на працу добраахвотных арганізацый, дык за галаву можна схапіцца: яны па раёну амаль бязьдзейнічаюць і лічацца толькі на паперы. Праўда, за апошні час троха ўскалыхнуліся ячэйкі Асоавіяхіму, як Іканская, Недальская і Асаўская, якія ўжо наладзілі вайсковыя заняткі і збор сродкаў у тым ліку і на дырыжаблебудаўніцтва.

А апошнія добраахвотныя арганізацыі, як Мопр, Чырвоны Крыж, Прэч няпісьменнасьць і рэшта ячэйкі АСО толькі і праводзяць правы апартунізм на практыцы, бо сельсаветы яшчэ ня ўзялі кіраўніцтва гэтымі арганізацыямі, не абсьледуюць іх, не заслухоўваюць на прэзыдыумах дакладаў аб іх працы і не даюць належнага напрамку ў далейшай іх рабоце.

Гаспадарча-палітычныя кампаніі яшчэ не знайшлі таго адбітку і характару, які яны павінны насіць, бо сельсаветы глядзяць на гэта, як на фармальную справу і не праводзяць да таго часу, пакуль з РВК прыдзе некалькі паперак.

У выніку мы маем выкананьне ільнонарыхтовак на 15 проц. гадавога заданьня, а лесанарыхтоўкі яшчэ не знайшлі сваіх баявых тэмпаў, бо шмат якія вучлеспрамгасы яшчэ не ўзяліся па бальшавіцку за працу, а чакаюць апекі сельсаветаў. Квартальнае заданьне выканана на 33 проц.

Такая важная і адказная праца, як мабілізацыя сродкаў правальваецца.

Плян за кастрычнік—сьнежань 1930 г. выканан на 25|XII толькі на 50,3 проц.

Тут самае горшае становішча з спажыўкапэрацыяй, дзе па пляну вызначана сабраць за квартал паявых узносаў 76.550 руб., а сабрана 27,521 руб., што складае 36 проц.; па ашчадкасе: укладаў вызначана на квартал 22.150 р., а сабрана 6319 р.—29 проц. квартальнага заданьня; паявых і ўступных узносаў у жывёлагадоўчыя т-ва па пляну вызначана 35.000 р., а сабрана толькі 30 р. —0,08 проц. Таксама дрэнная справа і з калгасамі, якім па пляну вызначана 12.600 р., а сабрана толькі 4670 р.—37 проц.—гэта ўступных узносаў у калгасы.

Есьць нават такія сельсаветы, як Бярэзінскі, які змазвае ролю серадняка і

мэханічна пераводзіць яго ў заможныя. Напрыклад, пры правядзеньні ільнонарыхтовак у в. Атрубак серадняку Васюковічу Дамяніку, які плаціць 13 р. 96 к. с.г. падатку, вызначана 4 пуды лёну—1 пуд ён здаў свайго, 2 пуда быў вымушан купіць у Вушацкім раёне, а ад здачы 1 пуда адмовіўся, бо ўжо няма і падаў заяву ў ЦВК БССР.

Калі пры дадатковым разьмеркаваньні ільна-валакна ў гэтай вёсцы ў 3-ці раз серадлякі заявілі, што лішкаў няма, бо ўвесь здалі, дык сакратар мясцовай парт'ячэйкі Багуцкі заявіў (ці параіў) ім: „прадайце сваю пшаніцу і кунпякі беднякам, а яны за вас здадуць лён".

І сапраўды, ёсьць шмат такіх бядьякоў, у якіх ёсьць лішкі лёну, але яны не здаюць яго дзяржаве, а прадаюць на прыватным рынку.

Таксама дрэнна праведзены і мясазагатоўкі, бо шмат кароў і сьвіней засталося захаванымі (пры вучоце с.-г. падатку запісаны 2, а цяпер ужо ёсьць 3) і такія „шчасьліўцы" вызваліліся ад здачы.

Пры загатоўках каровы былі сагнаны ў Бярэзіна і Бераспонь у гароды, стаялі па некалькі дзён на марозе бяз догляду і на іх падаў сьнег, ад чаго яны губілі сваю вагу і інш.

Найбольш праваапартуністычную практыку ў раёне правадзіў Райкаапсаюз, Райкалгассаюз і райспажыв. т-ва, якія працуюць толькі па габінэтнаму, бюракратычна. Аб гэтым сьведчыць хоць-бы праца па мабілізацыі сродкаў, якая гэтымі ўстановамі праведзена толькі самацёкам.

Культасьветная і масава-выхаваўчая праца ў раёне зусім кульгае. Напрыклад, Бярэзінская, Глінская, Вітуніцкая хаты-чытальні і нават Бягомльскі нардом зусім бязьдзейнічаюць і знаходзяцца амаль заўсёды на замку.

Выключэньнем з гэтага зьяўляюцца Бярозкаўская і Мсьціская хаты-чытальні, якія арганізавалі вакол сябе актыў разгарнулі работу і сабралі сродкі на радыё па 300 руб.

Школы яшчэ не павярнуліся тварам да палітэхнізацыі і працягваюць работу па-старынцы. Есьць яшчэ нават школы (Глінскі с.-савет), дзе дзяцей ставяць у вугал і г. д.

Шмат настаўніцтва ўжываюць белмову толькі на занятках, а затым зноў зварочваюцца да „улюбленай" расейскай. А ёсьць і такія настаўнікі, якія зусім ня ўжываюць белмовы (Грынюк, Шваб). Некаторыя школы неўкамплектаваны настаўнікамі.

Цікава, што сам палітінспэктар Крашынскі ня ведае белмовы, а таксама не адпавядае свайму прызначэньню. Гэтым трэба тлумачыць дрэнную працу палітасьветных устаноў раёну.

Беларусізацыя ў раёне таксама праводзіцца фармальна.

Насьценгазэты ў раёне выходзяць толькі па-кампанейску—да 1 мая і гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Рабселькораўскі рух у заняпадзе. Раённая друкаваная газэта „Калгасны Змагар" займаецца зажымам самакрытыкі і скарыстоўвае шмат рабселькораўскага матар'ялу.

Рэагаваньне на допісы адсутнічае. Яшчэ за ўвесь час існаваньня савулады ў раёне ня было ні воднай канфэрэнцыі ці нарады рабселькораў.

Нацпалітыка праводзіцца невыстарчальна, у выніку чаго маецца нацыянальная розьнь.

### Калектывізацыя.

Калі ў раёне маецца больш 36.000 ч. насельніцтва, дык калектывізацыю раёну на 31,4 проц. у вясну 3-га рашаючага году пяцігодкі трэба лічыць нездавальняючай.

Па раёну маецца каля 103 калгасаў —у сярэднім па 9 у сельсавеце.

Але бяда ў тым, што калгасы яшчэ не ператварыліся ў лепшых агітатараў за калектывізацыю, не наладзілі ўзорную працу. Большасьць калгасаў працуе з вялікімі недахопамі, як разбазараваньне кармоў (Бярэзінскі с.-с.), зацяжка з абмалотам да гэтага часу (Бярэзінскі, Дамжарыцкі, Мсьціскі с.-с.), замкнутасьць у працы (Бягомльскі калгас), разьмеркаваньне ўраджаю па душам (Чырвоны Садавод) і г. д.

Напр., у в. Бярэзіне маецца такі калгас, у які пазалазілі б. злачынцы—Каленкі і толькі займаюцца шкодніцтвам: пагнаілі на лузе шмат сена, на гумне

шмат саломы; яшчэ дагэтуль зацягнулі абмалот, у выніку чаго частка аўса згніла, бо авёс доўга быў на дварэ пад дажджом. Ніякай ужыўчывасьці паміж калгасьнікамі няма, а толькі сваркі і склокі, ды нездаволенасьць праўленьнем.

Росту калгас ня мае, бо дзе-ж ён можа карыстацца аўтарытэтам? Толькі калі-б выкінуць з калгасу, ды аддаць пад суд некалькіх шкоднікаў—прыліў быў-бы адразу, бо праца пайшла-б па новаму, добра.

Але с.-с. і парт'ячэйка на гэтым ніякай увагі не завастрылі.

Нават райгазэта па допісах селькораў ня зрабіла ніякага расьследваньня і ня прыняла ніякіх захадаў.

Цяпер праца Прэзыдыуму РВК.

У РВК часта нават адсутнічае плян працы. Працаўнікамі РВК не ўкамплектован, таму шмат галін працы кульгае.

РВК нядбайна адносіцца да расьследваньня рабселькораўскіх допісаў і яны грудамі па некалькі месяцаў ляжаць у папках РВК.

Было некалькі выпадкаў, калі РВК замарынаваў допісы з „Беларускай Вёскі" і справа засталася бяз вынікаў. Напр., аб тым, што райаграном Александровіч зьнішчыў палову пладовага пітомніка, які дзяржаве абышоўся каля 2.000 руб. Але Александровіч нават і вухам ня вёў аб гэтым і нават застаўся непакараным.

Другі факт—допіс аб зрыве сілосаваньня Бягомльскімі аграномамі Александровічам і Уласаўцом.

На пасяджэньні прэзыдыуму РВК не запрашаюцца прымацаваныя дэлегаткі, вясковы актыў, а толькі члены прэзыдыуму і загадчыкі ўстаноў.

Пленумы РВК бываюць ня больш 1 разу ў 3 месяцы, парадак дню падрыхтоўваецца самацёкам.

З вылучэньнем на Бягомльшчыне справа зусім дрэнная: вылучэнку Іоненка Аўдоцьцю пасылалі на розныя пасады, а нарэшце вызначылі загадчыцей сталоўкі (раней яна была старшынёй с.сав., райжэнарганізатарам, адказным працаўніком райспажыв. т-ва), у выніку чаго яна зусім зволілася з працы, бо з яе зьдзекаваліся адказныя працаўнікі раёну з-за асабістых рахункаў.

Заг. Бягомльскага Вузлеспрамгасу Меляшкевіч абазваў вылучэнца—аб'ездчыка Юхнаўца (б. лясьніка) „пешкай" і заявіў яму: „я паганю такую пешку з працы" і гэта толькі за тое, што ён ня хутка выканаў даручэньне „зава".

З вылучэнцамі ніякая праца не праводзіцца, на працу вылучаюцца „выпадкова ўзьбегшыя на памяць". Шмат работнікаў бярэцца за працу бяз згоды з прафсаюзам.

Трэба адзначыць, што і апарат установ і арганізацый Бягомльшчыны засьмечаны (шмат лішэнцаў, дзяцей кулакоў, папоў, б. служакаў і г. д.), бо ўсе вычышчаныя пры чыстцы савапарату ў 1930 г. зноў засталіся на старых цёплых мясцох.

РВК яшчэ часта займецца прызначэньнем на тую ці іншую працу тых працаўнікоў, якія працуюць па выбару, а пагэтаму на яго месца набіраюцца невыбарныя работнікі (асабліва ў сельсавет і РВК на адказную працу).

У заключэньне характэрна адзначыць, што і прафсаюзы Бягомльшчыны нічога ня робяць, а памяшканьне райпрофсавету амаль заўсёды бывае на замку, бо няма сталага работніка.

Матар'ялы гэтыя і факты мною ўзяты часткова з №№ 3 за 1 студзеня 1931 г. і 1|4 за 12 студзеня 1931 г. раённай друкаванай газэты „Калгасны змагар", а таксама з маіхназіраньняў і атрыманых матар'ялаў з іншых крыніц.

Як сьведчаць факты Бягомльшчыну ахапіла праваапартуністычная практыка і самацёк—вельмі шкодныя ў нашай працы.

Аб гэтым нават № 3 выразна прызнаўся „Калгасны змагар" „выкананьне гадавога заданьня лёну—валакна 13 проц., пянькі—5 проц.—вось вынік праваапартуністычнай практыкі райкаапсаюзу і спажывецкага т-ва. Пад суд зрыўшчыкаў".

Але Бягомльшчына, якая знаходзіцца ў глухім кутку БССР—120 клм. ад Менску пачынае вязнуць у праваапартуні-

стычным балоце, бо сюды мала заглядвае вока цэнтру, мала хто цікавіцца гэтым закінутым кутком.

„Саветы Беларусі“ павінны праз часопіс зробіць свае вынікі і падрабязна зацікавіцца гэтай справай на месцы.

Канаплянік.

**Ад рэдкалегіі:** Бягомльская РКК-РСІ паведамляе, што паказаныя ў гэтым допісу факты ў асноўным падцьвярждаюцца і ею прыняты адпаведныя меры як супроць вінаватых, так і па зьліквіданьні паказаных прарываў.

## Вырашэньне жывёлаводчай праблемы ў Парыцкім раёне.

Калі паставіць пытаньне, якую кармавую базу мае Парыцкі раён дзеля таго, каб пасьпяхова разьвіваць жывёлаводзтва ў раёне, і калі азнаеміцца з зямельнымі плошчамі раёну, то адразу можна заўважыць, што Парыцкі раён павінен быць аднесен к раёну з жывёлагадоўчым напрамкам. У раёне маецца 17.000 га сухадольнай сенажаці, 4.500 га заліўной сенажаці, 5000 га балотнай сенажаці, акрамя гэтага значныя плошчы балотных сенажацяй маюцца ў лясох дзяржаўнага і мясцовага значэньня, якія не ўваходзяць у гэтую лічбу.

Пахатная глеба пяшчаная і супяшчаная, якая займае да 80 проц. усяе глебы раёну. Такое становішча глебы заставіла кіруючыя органы раёну накіраваць увагу насельніцтва на пашырэньне бульбяногa кліну, які ў 1930 годзе займаў 17 проц. па хатнай плошчы а на 1931 г. бульбяны клін будзе займаць 21 проц. пахотнае плошчы раёну. На базе бульбяногa кліну ў раёне адну з асноўных галін жывёлагадоўлі займае сьвінагадоўля.

Пытаньня жывёлагадоўлі беднякі і серадпякі да Кастрычнікавай Рэвалюцыі вырашыць не маглі, бо ў іх ня было ні сенажаці ў дастатковай колькасьці, ні ўгнаеньня на пасеў бульбы дзеля таварнай сьвінагадоўлі. Малако ад 1—2 кароў і сала ад свайго падсьвінака беднякі і серадпякі вымушаны былі скарыстоўваць на пракармленьне сваёй сям'і, занятай на рабоце ў кулака і абшарніка, або на лесараспрацоўках. Калі бядняк, або серадняк што небудзь і прадаваў з прадуктаў жывёлагадоўлі, дык толькі выключна за кошт голаду сваёй сям'і.

Кастрычнікавая рэвалюцыя зьмяла абшарнікаў і перадала іх землі сенажаць працоўнаму сялянству. Аднак, тыя бедняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія атрымалі абшарніцкія землі таксама ня ўнесьлі ніякіх новых зьмен у справу жывёлагадоўлі. Ставіцца пытаньне, па якой прычыне жывёлагадоўля пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі не магла разьвівацца ў вёсцы такімі тэмпамі, якія патрабуюцца дзеля нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

На гэта пытаньне трэба шукаць адказу ў клясавай барацьбе на вёсцы.

За апошнія гады (1926/29) вёска рыхтавала тыя клясавыя сілы якія выступілі ў змаганьне за канчатковую перамогу Кастрычнікавай рэвалюцыі. Беднякі і серадпякі, атрымаўшы зямлю на пасёлку, або на прышчэпаўскім хутары, упэўніваліся, што гэты пасёлак і хутар не вырашае пытаньня, перамогі над кулацтвам на вёсцы. Кулак хоць і абрэзаны заставаўся на сваіх землях і сенажацях і працягваў далей эксплёатацыю беднаты. Беднякі і серадпякі ўпэўніліся, што на адзінaлічнай гаспадарцы няма магчымасьці скарыстоўваць буйныя машыны, адчаго нельга наладжваць палепшаную апрацоўку зямлі гэтымі машынамі і немагчыма шырока разводзіць палепшаную жывёлу.

Беднякі і серадпякі пераканаліся у тым, што адно аб'яднаньне дробных адзінаасобных гаспадарак у калгасы павалічвае іх даход па меншай меры у паўтары разы, ад чаго у значнай частцы іх зарадзілася глыбокая думка, што для палепшаньне свайго становішча, маецца адзін выхад арганізацыя буйнай калгаснаай гаспадаркі.

Бедняк і серадняк бачыць, што кулак і заможнік на вёсцы падрывае разьвіцьцё жывёлагадоўлі. Кулак і заможнік ня хоча паляпшаць балотных сенажацяй, ня хоча гадаваць жывёлы, ня хоча прадаваць сваіх лішкаў Дзяржаве,

а выключна імкнуцца перашкаджаць гэтай справе праз розныя махінацыі.

У параўнаньні з 1929 годам кулацка-заможная гаспадарка вёскі зьменшыла лік рагатай жывёлы на 25,3 проц. сенажаць гэтыя гаспадаркі прадаюць беднаце, а таксама гандлююць скошаным сенам у мястэчках і нават трапляюць прадаваць сена ў г. Бабруйску па досыць высокіх цэнах, якія даходзяць да 5 руб. пуд. Гэта яшчэ раз гаворыць за тое, што пытаньне аб сенажацях у бліжэйшы час павінна быць вырашана ў бок канчаткова ізьяцьця гэтых сенажацяй ад кулацкіх гаспадарак на базе суцэльнай калектывізацыі.

Усе гэта востра ставіць пытаньне перабудовы жывёлагадоўлі па шляху калектывізацыі.

Палітыка компартыі і савецкай улады на суцэльную калектывізацыю сельскай гаспадаркі зьяўляецца адзіна-магчымым выхадам з такога цяжкага становішча, у якім апынілася жывёлагадоўля раёну. Суцэльная калектывізацыя сельскае гаспадаркі і на яе базе ліквідацыя кулацтва падводзіць магутны фундамэнт у справу жывёлагадоўлі. Задзічалыя сенажаці, балоты, перагружаныя сялянскія сенажаці, задзічалыя выганы—усе гэта можа быць палепшана, калі плянавым парадкам будзе весьціся сельская гаспадарка. Вёска з сваімі адзінаасобнымі палосамі і з сваімі клясавымі супярэчнасьцямі ні як ня зможа ўзяцца за плянавае палепшаньне сенажацяй. Наадварот, з кожным годам гэтыя сенажаці ўсё больш і больш перегружаліся жывёлай, зарасталі хмызьняком, а кулацка-заможная частка ня была зацікаўлена палепшаньнем яе і гэта яшчэ раз відавочна пераконвае кожнага бедняка і серадняка ў неабходнасьці хутчэйшага пераходу на плянавую калгасную гаспадарку.

Паварот бедняцка - серадняцкіх мас вёскі на шлях калектывізацыі ўнес шэраг новых момантаў і ў справу жывёлагадоўлі. 1930 год зьяўляецца сапраўдным годам, які кладзе пачатак рэканструкцыі жывёлагадоўчай галіны ў раёне,

У калгасах раёну 1930 году было 2.132 штукі буйнай рагатай жывёлы, або 12 проц. жывёлы ўсяго раёну, сьвіней было 645 штук, або 7 проц. сьвіней раёну.

Раст маладняку за 1930 год выразіўся ў наступных лічбах: цялят выгадавана 520 штук, або 24,3 проц. павялічэньня, парасят выгадавана 495 штук.

Разам з ростам маладняку калгасы раёну вялі і вядуць шпаркімі тэмпамі будаўніцтва хлявоў дзеля жывёлы. Калгасныя хлявы зусім мяняюць выгляд і ўмовы ўтрыманьня жывёлы ў сельскай гаспадарцы. У гэтых хлявох хоць яшчэ і не цалкам, але галоўныя запатрабаваньні санітарных ўмоў, бяруцца, як правіла, пры пабудовах. Патрэбная колькасьць плошчы, вокны дзеля сьвятла, некаторае ўцяпленьне хлявоў—усе гэтые новыя мерапрыемствы ў справе палепшаньня жывёлагадоўлі. За 1930 год пабудавана 8 буйных хлявоў дзеля рагатай жывёлы на 550 галоў; пабудован адзін буйны сьвінарнік на 96 галоў і перабудавона 9 кулацкіх сьвінарнікаў на 430 галоў. Гэтае будаўніцтва яшчэ больш пашыраецца на 1931 год. Амаль усе калгасы раёну на 1931 год будуюць новыя палепшаныя хлявы для кароў і шэраг калгасаў будуюць сьвінарнікі. Ужо за зіму падрыхтаваны лесаматар'ял на гэтае будаўніцтва. Вялікую ролю і дапамогу ў гэтым будаўніцтве адыгрывае дзяржаўны крэдыт, якога было выдадзена ў 1930 годзе 63.014 рублёў, а на 1931 год па пляну таксама намечана выдаць ня меншыя крэдыты.

Па пытаньню кармавых рэсурсаў дзеля калгасаў жывёлы таксама 1930 год адзначае шэраг новых мерапрыемстваў. У той час калі пасеў траў у аднаасобных гаспадарках займаў 1,8 проц. агульнай плошчы пасеву ў 1930 годзе, то у калгасах пасеў траў быў даведзены да 6,90 проц., а на 1931 год намечана засеяць травамі 11,30 проц. пасеўнай плошчы.

Земляўпарадкаваньне калгасаў некаторым чынам садзейнічала надзяленьню калгасных гаспадарак палепшанымі сенажацямі, аднак гэта справа патрабуе яшчэ значнай увагі з боку раённых арганізацый і сельсаветаў, каб далей узмацняць сенажацевыя фонды калгасаў за кошт кулацкіх і заможных гаспадарак, а таксама за кошт асушкі і культывіроўкі сенажацяй калгасаў. Трэба ад-

значыць, што асушка (меліарыраваньне) калгасных сенажацяй павінна вырашацца ў маштабе усёй Беларусі, па колькі на гэтую асушку патрабуюцца некаторыя сродкі і рабочая сіла.

Без асушкі калгасных сенажацяй у шэрагу калгасаў будзе асабліва ў раёнах з забалочанымі землямі адчуваецца недахоп грубых кармоў.

Зусім новым мерапрыемствам у кармовай базе калгасная гаспадарка змагла паставіць такое мерапрыемства, як сіласаваньне кармоў. Ужо раней азначалася, што сіласаваньне кармоў не прывіваецца ў бясплянавай сялянскай гаспадарцы. 1930 год зрабіў нячуваны пералом ня толькі ў справе жывёлагадоўлі праз сіласаваньне, але і дзеля таго, каб кожны селянін бедняк і серадняк маглі-б відавочна ўпэўніцца ў перавагах буйнай калгаснай гаспадаркі. У 1930 годзе калгасы раёну пабудавалі 1-ну цагляную башню, 5 цагляных полубашань, 3-ы драўляных палубашні і сіласных ям і ўсяго засіласавана за 1930 год 50.000 пудоў сілосных культур (кукурузы, бульбяніку і агароднага лісьця). Нам вельмі добра вядома, што асобная сялянская гаспадарка не скарыстоўвае ні бульбяніку, ні другіх магчымасьцяй дзеля сіласаваньня, а гэта прыносіць вялікія страты дзеля справы жывёлагадоўлі.

Бягучы 1931 г. павінен быць рашаючым годам на 100 проц. сіласаваньня ўсяго бульбяніку і на шырокі засеў сілосных культур, бо ў карысьці сілосных кармоў упэўніліся шырокія масы калгасьнікаў, а за імі і выколічнае насельніцтва. Раённыя і сельскія арганізацыі выпрацавалі плян сілосаваньня на 1931 год. Гэтым плянам прадугледжана засіласаваць ня меньш 7544 тон сілосных культур, якія будуць складацца з бульбяніку, пасеву кукурузы і агароднага лісьця. Сіласаваньне разьлічана на ахоп усіх плошчаў бульбянога пасеву, гэта значыць, што ў сіласаваньне будуць прыцягнуты усе сялянскія гаспадаркі раёну праз калектывізацыю і праз капераваньне.

Калгаснае жывёлаводзтва ўнесла ў вёску яшчэ адну зьмену ў галіне арганізацыі злучных пунтаў і гадаваньне вытворнікаў. Ек вядома за апошнія гады кулацка-заможная вярхушка вёскі падрывала сельскую гаспадарку і ў справе гадаваньня вытворнікаў. Недахоп вытворнікаў ужо вельмі адчуваўся за апошнія гапы, што прывяло да таго, што жывэла па сваёй якасьці значна пагаршалася, маладняк нараджаўся зусім дрэнны, бо прыходзілася карыстацца выпадковымі вытворнікамі.

Калгасы за апошнія два гады арганізавалі злучныя пункты з палепшанымі вытворнікамі, якіх маецца быкоў—40 шт. кныроў—26 штук, жарабцоў—5 штук. Значны зрух і зьмены ў справе злучной галіны ўнес 1930 год, пакольні ў гэтым годзе выгадавана—195 штук маладых бычкоў і 49 штук кныроў, якія маюцца на бягучы час і будуць разьмеркаваны па новаарганізаваных калгасах, не маючых вытворнікаў.

Новыя зьмены ўнесьлі калгасы і ў таварную частку жывёлаводзтва. За апошнія гады кулацтва і заможная частка вёскі імкнуліся праз арганізацыю малочных арцеляй узмацняць свае індывідуальныя гаспадаркі і ў шэрагу выпадкаў у малочныя арцелі ня змог увайсьці бедняк-серадняк, бо ў гэтых дварох ня было таварнага малака пакольні кармавыя фонды былі ў руках кулацка-заможнай вярхушкі вёскі. Пры падыходзе да справы абагуленьня кармавых фондаў кулакі пачалі разбураць арцелі і зьнішчаць сваю жывёлу.

На месца разбураных кулацкіх арцеляй калгаснае сялянства арганізавала малочную перапрацоўку ў калгасах і павяла за сабою бедняцка-серадняцкае насельніцтва. У 1930 годзе па раёну працавала 4 калгасных малочных заводаў ці адзін завод малочнай арцелі. На гэтых заводах перапрацавана 480 тон малака і здадзена дзяржаве таварна-малочнай прадукцыі і 16 тон масла, у сярэднім калгасная карова дала 40 пуд. таварнага малака. Гэта толькі за адзін год паказвае, што калгаснае жывёлаводзтва замяніла сваёю таварнаю прадукцыяй—прадукцыю кулакоў. На 1931 г. закантрактавана калгаснага малака 580 тон, што дае павялічэньне на 17 проц.

У мінулым 1930 сьвінагадоўля ў калгасах яшчэ толькі пачала арганізоўвацца. Было здадзена дзяржаве шмат таварных сьвіней, а на 1931 год гэта справа значна пашыраецца. Ставяцца і ўжо пастаў-

лана частка сьвінаматак у спэцыялізаваныя сьвінагадоўчыя калгасы і арганізуюцца адкормачныя пункты таварных сьвіней. Па пляну павінна быць пастаўлена 2000 сьвінаматак. Пастаўлена ўжо 352 штук, або 17 проц. Па пляну павінна быць адкормлена ў 1931 г. 18 96 штук таварных сьвіней, ужо пастаўлена на адкорм 316 штук або 16 проц.

Навокал таварнага жывёлаводзтва ў вёсцы кулак вядзе шалёную барацьбу з мэтай сарваць гэта мерапрыемства. Статут калгасу аб тым, што кожны калгасьнік мае права трымаць у сваім асабістым карыстаньні прадукцыйны малочны скот і сьвіней выбівае з рук кулочны козыр, што ў калгасах „усё забялака козыр, і прыдзецца галадаць“, а апошні год разьмеркаваньне ўражаю канчаткова кладзе канец кулацкай агітацыі, бо кожны калгасьнік упэўніўся, што затрачаная ім праца ў калгасе цалкам аплачваецца атрыманаю прадукцыяй.

На раду з ростам калгаснага жывёлаводзтва ў раёне арганізаваны ў 1930 г. і саўгас, які пасрыхтоўвае шырокае будаўніцтва на 1931 г. і па пляну саўгаса будзе ў 1931 годзе пастаўлена 100 шт. жывёлы, Гэты саўгс мае магчымасьць разгарнуць жывёлаводную гаспадарку, паколькі яму адведзены значныя плошчы да 2000 га сенажаці, хоць трэба адзначыць, што гэтая сенажаць вельмі забалочана і знаходзіцца пад зарасьлямі. Па пляну Белсельтрэсту яшчэ неканчаткова вырашана пытаньне аб паскарэньні асушкі і кульцівіраваньня гэтых плошчаў.

Апрача ўсяго пералічанага Парыцкі РВК пытаньню палепшаньня конскай пароды. зварочвае таксама значную ўвагу. На 1931 г. па пляну НКЗ у раёне адчыняюцца злучныя пункты з пародзістымі жарабцамі. Адначасова з гэтым РВК узмацняе цягавую сілу ў калгасах праз трактарызацыю.

Другое пытаньне, на якім трэба спыніцца—птушкаводзтва. Рэчка Бярэзіна, а таксама маючыяся возеры ў Парыцкім раёне складаюць добрыя ўмовы ў справе птушкаводзтва, асабліва у справе разьвядзеньня гусей. Большасьць сялян, якія жывуць блізка рэчкі Бярэзіны займаюцца гадаваньнем гусей, але гэтай справе няма ніякай увагі з боку плянуючых органаў. Гадаваньне гусей не пашыраецца ніхто на гэта не зварочвае належнай увагі.

Адсюль мы намячаем на бліжэйшы час у справе жывёлаводзтва па раёну наступныя асноўныя задачы:

1. Узмацніць арганізацыю жывёлаводзтва ў калгасах шляхам падвядзеньня кармавай базы пад калгаснае жывёлаводзтва, палепшыць пароду калгаснай жывёлы, і паскорыць тэмпы будаўніцтва хлявоў і арганізацыю таварнай часткі.

2. Паскорыць будаўніцтва хлявоў ва ўноў арганізаваным саўгасе і арганізацыі ў ім кармовай базы.

3. Узмацніць работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі за карэнную перабудову жывёлаводчай справы, шляхам аб'яднаньня ў калгасы, пабудову палепшаных хлявоў, карэннае палепшаньне сенажацяй, наступленьне на кулацка-заможную вярхушку вёскі, пэўнае выкананьне пляну сіласаваньня, арганізацыю работы па палепшаньні пароды жывёлы праз калектывізацыю капераваньне гэтых галін, арганізацыю сялянства на перапрацоўку таварнай прадукцыі малака на калгасных і арцельных заводах.

4. Распрацаваць мерапрыемствы па палепшаньні каняводзтва ў раёне.

5. Распрацаваць мерапрыемствы па птушкаводзтву.

6. Весьці сталую працу па арганізацыі бядняцка-серадняцкіх мас вакол рашучага адпору кулацтву, якое імкнецца зрываць сацыялістычныя мерапрыемствы ў сельскай гаспадарцы і гуртаваць бядняцка-серадняцкае насельніцтва вакол правадзімых кампартыяй і савецкай уладай задач перабудовы сельскай гаспадаркі па шляху суцэльнай калектывізацыі і на яе базе ліквідацыі кулацтва як клясы.

7. Усё раённыя і сельскія савецкія ўстановы і грамадзкія арганізацыі павінны значна больш аддаваць увагі справе жывёлагадоўлі, чым гэта рабілося да гэтага часу, увязваючы свае мерапрыемствы з выкананьнем тых задач, якія пастаўлены ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі.

**Дашко.**

# Вынікі выкананьня фінпляну па Быхаўшчыне за першы квартал 1931 г. і задачы другога кварталу.

Фінансавы плян па раёну за першы квартал выканан усяго толькі на 51 проц. Гэты процант, бязумоўна, кажа аб недастатковай увазе з боку раённых устаноў да выкананьня пляну і наогул аб недаацэнцы з боку некаторых работнікаў фінансавага пляну, як аднаго з галоўных вагароў выкананьня палітычна гаспадарчых мерапрыемстваў сацыялістычнага будаўніцтва 3-га рашаючага году пяцігодкі.

Пленум раённага выканаўчага камітэту, падводзячы вынікі выкананьня фінпляну першага кварталу, канстатаваў нездавальняючую работу фінансава-крэдытных і асабліва капэрацыйных устаноў па мабілізацыі сродкаў пры поўнай магчымасьці выкананьня пляну, а таксама наяўнасьць права-апартуністычнае практыкі ў рабоце—Райкапсаюзу, Райкалгассаюзу, спажывецкай капэрацыі і райашчаднай касы. І гэта сапраўды так, бо чым-жа інакш можна тлумачыць тое, што па лініі ашчадкас першы квартал ня толькі не даў прыліву ўкладаў, а нават даў адліў на 3.748 руб. Па лініі спажывецкай капэрацыі плян паянакапленьня выканан усяго толькі на 36,7 проц., райкалгассаюзу 25,2 проц., прычым па рэалізацыі акцый трактарацэнтру плян райкалгассаюзам выканан толькі на 6,1 проц.; па лініі райкапсаюзу плян мабілізацыі сродкаў выканан усяго толькі на 4,6 проц.

У чым-жа справа? Чым тлумачыць наяўнасьць такога прарыву?

Тлумачыцца гэта тым, што некаторыя сельсаветы і раённыя установы „цалкам палажыліся на самацёк і не разгарнулі вакол пытаньня мабілізацыі сродкаў шырокай палітычна-масавай работы“ (з пастановы Пленума РВК).

„Прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі пытаньням мабілізацыі сродкаў і згуртаваньню вакол гэтага пытаньня шырокай грамадзкай думкі, не удзелялі належнай ўвагі і амаль што у гэтай рабоце не прымалі ніякага ўдзелу“ (там-жа).

Раённая камісія садзейнічаньня, а гледзячы на яе і камісіі пры с|саветах да апошняга часу не працавалі зусім, прычым пры некаторых с|саветах гэтыя камісіі нават ня былі пасьля перавыбараў сельсаветаў пераабраны. Грамадзкасьць вакол пытаньня мабілізацыі сродкаў і наогул вакол пытаньня выкананьня фінпляну ня была згуртавана. З прычыны чаго па цэламу шэрагу с|саветаў замест правільна арганізаванай упартай і настойлівай работы—мела месца адміністраваньне, прымусовыя меры і г. д. Так, па Глускаму с|савету замест аказаньня грамадзкага ўплыву на кулацка-заможныя колы вёскі ў справе рэалізацыі пазыкі сельсавет займаўся давядзеньнем у адміністрацыйным парадку цьвёрдых заданьняў да кулацка-заможных гаспадарак, робячы апошнім абавязковыя прадпісаньні прыкладна такога зьместу: „Гэтым сельскі савет паведамляе, што на пасяджэньні прэзыдыуму сельскага савету да вас даведзена цьвёрдае заданьне па аблігацыях „Пяцігодка ў чатыры гады“ у суме № руб. Грошы за паказаныя аблігацыі вы павінны ўнесьці у 5-цідзённы тэрмін з дню атрыманьня гэтай пастановы. У выніку невыкананьня вы будзеце прыцягнуты да адказнасьці. Старшыня сельсавету (подпіс) сакратар (подпіс)“. Прычым заданьне сельскага савету па рэалізацыі пазыкі у суме 5400 рублёў выканана так: рэалізавана за наяўны разьлік 362 р. 50 кап., па падпісцы сярод рабочых і служачых—750 рублёў, рэалізавана сярод калгасьнікаў—1490 рублёў і даведзена ў парадку цьвёрдага заданьня да кулацка-заможных гаспадарак—4000 рублёў. Вось, так сказаць, балянс рэалізацыі. Вынікі такой рэалізацыі таксама вельмі яскравы і яскрава сьведчаць аб тым, што так рэалізаваць пазыку нельга. Пры наяўнасьці рэалізацыі па гэтаму сельскаму савету пазыкі 6.602 руб. 50 к. грошай па падпісцы паступіла усяго толькі 804 р. 50 к. прычым за падпіску даведзеную ў парадку цьвёрдага заданьня не паступіла ніводнага рубля.

Другі агідны факт, які меў месца у Ніжне-Тошчыцкім сельскім савеце яўна падрывае работу па рэалізацыі пазыкі

і на які факт аднак, да самага апошняга часу ня было зьвернута належнай ўвагі як з боку Райфа, так і асабліва з боку сельскага савету. Факт гэты наступны: у свай час калгасьнікі калгасу „1 Мая“ падпісаліся на 3 пазыку індустрыялізацыі ў суме 376 рублёў; грошы за паказаныя аблігацыі выплацілі поўнасьцю і РВК поўнасьцю выдаў старшыні калгасу, Ільіну, паказаныя аблігацыі. Старшыня-ж калгасу замест таго, каб гэтыя аблігацыі раздаць калгасьнікам альбо здаць іх у каляктыўным парадку на хаваньне у касу ашчаднасьці, гэтыя аблігацыі растраціў і ў выніку сярод калгасьнікаў наконт гэтых аблігацый ходзяць, зараз розныя чуткі: па аднэй—кажуць. што Ільін гэтыя аблігацыі проста прапіў, а па другой, што ён іх каму-та перадаў у лік якіх-то асабістых разрахункаў. Сам-жа Ільін кажа што ён гэтыя аблігацыі згубіў. Якая з гэтых чутак правільная судзіць на сёньня вельмі цяжка; ясна толькі тое, што аблігацый падпісчыкі не атрымалі і ніхто справай высьвятленьня гэтага агіднага факту не займаецца і да апошняга часу.

Вельмі дрэнна па раёну абстаіць справа з паступленьнямі па абавязковых плацяжох і асабліва па самаабкладаньні і аднаразоваму збору, якія выкананы адпаведна на 88,5 проц. і 77,8 проц., прычым калі агульныя паступленьні па самаабкладаньні выяўляюцца на 1/IV-31 г. —на 88,5 проц., дык па кулацкіх гаспадарках гэтае пасупленьне дасягае толькі 46 проц. Па аднарозаваму збору пры 77,8 проц. паступленьняў агульнай сумы па кулацкіх гаспадараках—гэтае паступленьне дасягнула усяго толькі 31 проц. Некаторая частка паказаных нядоімках забясьпечана з ізьятай маёмасьці, аднак поўнасьцю яшчэ не пакрыта.

Дамагаючыся поўнага і своечасовага выкананьня прынятых плянаў паасобныя сельскія саветы раёну падчас масавапалітычна-выхаваўчую работу падмяняюць адміністраваньнем. Замест правядзеньня растлумачальнай работы, якая забясьпечвала-б пасьпяховае выкананьне пляну, гэтыя сельскія саветы накладаюць штраф, прычым ня толькі на кулацказаможныя гаспадаркі, а нават на серадняцкія і нярэдка бядняцкія.

Аналізуючы самы факт накладаньня штрафаў падчас мы сустракаемся у гэтым пытаньні з поўным скрыўленьнем клясавай лініі і поўным скрыўленьнем адміністрацыйнай палітыкі; як правіла, штраф, як мера, накіраваная у бок забясьпечаньня выкананьня таго, альбо іншага мерапрыемства, павінен ужывацца толькі ў крайніх выпадках, прычым гэтыя выпадкі павінны ужывацца толькі пасьля шырока праведзенай палітычна-выхаваўчай работы. І гэта зразумела, паколькі накладаньне штрафаў і іх ўзысканьне выклікае эканамічае паслабленьне гаспадаркі. Калі зараз гэтыя меры магчыма апраўдаць, як правільны мэтад работы у адносінах да кулацкіх і заможных гаспадарак, то бязумоўна гэты мэтад не вытрымлівае ніякай крытыкі ў адносінах да серадняцкіх і тым больш да бядняцкіх гаспадарак.

Паміж іншым па некаторых сельскіх саветах Быхаўшчыны накладаньне штрафаў прымае масавы характар, зьяўляючыся улюблёным мэтадам для забесьпячэньня выкананьня тых альбо іншых мерапрыемстваў з аднаго боку, а з другога боку мерай пры дапамозе якіх паасобныя сельскія саветы і нават раённыя работнікі (Шукальскі) вядуць барацьбу з кулацтвам. І сапраўды мерай, пры дапамозе якой, паасобныя сельскія саветы праводзяць ліквідацыю, ня кажучы ужо аб кулацкіх, заможных гаспадарках.

У некаторых паасобных работнікаў сельскіх саветаў складалася думка, што заможныя гаспадаркі, да якіх даведзена цьвёрдае заданьне, падлягаюць эканамічнай ліквідацыі нараўне з кулацкімі і таму падчас ім даецца цьвёрдае заданьне, якое-б гэтая гаспадарка ня выканала, а за невыкананьне яго накладваецца штраф.

Як правіла, цьвёрдае заданьне ня можа быць даведзена на здачу, дапусьцім, каровы да заможнай гаспадаркі, якая фактычна мае адну карову, ня можа быць цьвёрдае заданьне таксама даведздна да заможнай гаспадаркі па тых культурах, якіх гэта гаспадарка ня сеяла. Між тым, па Быхаўскаму раёну мы маем, як першае (гарсавет) гэтак і другое (раз да цябе да-

ведзена цьвёрдае заданьне, дык купі, а выканай).

Асабліва падобныя факты мелі месца па Тайманаўскаму с|савету, у якім цьвёрдыя заданьні па ільновалакну даводзіліся да некаторых гаспадарак, яўна непасільнымі, але затое гэтыя заданьні цалкам апраўдвалі вышэйвыказаную думку с|савета зьліквідаваць гаспадарку.

Наяўнасьць падобных фактаў праводзіць да наступных адмоўных момантаў: 1) заданьне па ільнозагатоўках не выконваецца; 2) пры давядзеньні цьвёрдых заданьняў часта да серадняцкіх гаспадарак, пры недавядзеньні гэтых заданьняў да сапраўды заможных гаспадарак, апошнія спэкулююць лёнам замест здачы яго загатоўчым арганізацыямі прадаюць на прыватным рынку па надзвычайна высокіх цэнах. Сельскім саветам неабходна на гэта зьвярнуць самую сур'ёзную увагу, не дапускаючы давядзеньня цьвёрдых заданьняў да серадняцкіх гаспадарак і непрапускаючы ніводнай сапраўды кулацка-заможніцкай гаспадаркі, праводзячы самую жорсткую барацьбу з тымі кулацкімі і заможнымі гаспадаркамі, да якіх даведзены цьвёрдыя заданьні, але імі ня выконваюцца.

Як было паказана вышэй штрафы павінны накладвацца у самым крайнім выпадку, аднак, калі штраф накладзен ён павінен быць пазыскан у абавязковым парадку, бо інакш накладаньне штрафаў ня толькі не палепшыць справу, а пагоршыць. Паміж іншым, паасобныя сельскія саветы накладаюць штрафы падчас у масавым парадку і да ўзысканьня іх ніякіх мер не прымаюць, напрыклад, па Нова-Быхаўскаму сельскаму савету накладзена штрафаў 4198 руб. 50 кап., а пазыскана ўсяго толькі 100 рублёў. Па Чырвона-Берагскаму сельсавету накладзена штрафу 1250 руб., а пазыскана 600 руб. і г. д. і г. д.

Нарэшце факт выкананьня касавага пляну не знаходзіць належнага адбітку у рабоце паасобных сельскіх саветаў і, асабліва ў рабоце спажывецкай капэрацыі, дзе на працягу доўгага часу затрымоўваюцца ў касах даволі значныя сумы наяўных грошай (Віляхаўка, Н. Тошчынскага сельскага савету).

Вось прыкладна, тыя недахопы, якія павінны быць выпраўлены ў першыя-ж дні другога кварталу, бо інакш нельга будзе выканаць фінансавы плян па раёну за другі квартал і зьліквідаваць прарыў у выкананьні фінпляну першага кварталу. Як адно з асноўных умоў выкананьня фінпляну другога кварталу— гэта уцягненьне ў гэтую работу шырокай грамадзкасьці і гэта грамадзкасьць павінна быць арганізавана. **М. А.**

---

## Аб ходзе будаўніцтва прыгараднай гаспадаркі.

*(Клічаўскі раён).*

У мінулы год па ўсіх раёнах была дадзена дырэктыва з боку Саўнаркому Беларусі аб арганізацыі прыгарадных гаспадарак спажывецкай капэрацыяй. На гэтай падставе на прэзыдыуме Клічаўскага РВК было даручана райзёмаддзелу аб адшуканьні вучастку зямлі для арганізацыі садова-агароднай капэрацыйнай гаспадаркі. Такая гаспадарка у нас арганізавана на быўшых кулацкіх землях плошчаю 225 га і дадзена ей назва „Капэрацыйная фэрма". Гаспадарка знаходзіцца каля чыгуначнай станцыі і ў трох кілёмэтрах ад раённага цэнтру. Адным словам „Капэрацыйная фэрма" мае надзвычайна вялікія перспэктывы. Галоўнейшая мэта пастаўленая Райсаюзам—поўнае выкананьне пастаноў партыйных і савецкіх органоў у справе задавальненьня пралетарскіх цэнтраў гароднінай.

Клічаўскі райсаюз за якіх небудзь 4-5 месяцаў зрабіў надта шмат. На сёньнешні дзень маецца 22 кані, 95 кароў, пабудаваны 2 дамы для рабочых і хлеў для жывёлы. Гаспадарка добра падрыхтавана да вясновай сяўбы: забясьпечана насенным матар'ялам поўнасьцю, вывезена больш як 2 тысячы вазоў гною, які сабран з усіх месц дзе толькі могла капэрацыя дастаць, падрыхтавана глеба для засадкі саду ў колькасьці 10 га; наладжан маслабойны пункт, пабудован леднік, і навакол гэтага пытаньня праведзена значная праца сярод акаляючай

беднядка-серадняцкай масы на здачу малака для яго перааапрацоўкі. На ўсё гэта складзен вытварчы плян. Як відаць, Райсаюз мае поўную магчымасьць задавальняць малочнымі прадукамі па нарадах пралетарскія цэнтры. На ўсе гэтыя мерапрыёмствы затрачаны значныя сродкі, якія выражаюцца ў суме каля 25 тысяч рублёў. На набыцьцё гэтай маёмасьці і затраты сродкаў былі указаньні з боку Белкопсаюзу, але апошні праводзіць палітыку на два фронты: адзін раз дае указаньне аб арганізацыі гаспадаркі і нават тэлеграфнае распараджэньне аб набыцьці коняй і г. д., другі раз дае райсаюзу загад аб зьліквідаваньні гаспадаркі. Даючы аб гэтым некалькі дзён таму назад загад, Белкапсаюз папярэджвае, каб райсаюз дагаварыўся з РВК у напрамку абсемяненьня ў час веснавой пасеўнай кампаніі усей зямлі.

Адгэтуль відаць, што Белкапсаюз, дацягнуўшы справу да апошніх дзён пачатку севу, разбурае гаспадарку, ня лічучыся з затрачанымі сродкамі і мэтазгоднасьцю існаваньня гэтай гаспадаркі.

Не глядзечы на такую блытаную дырэктыву Белкапсаюзу, раённыя арганізацыі як партыйныя, так і савецкія ўсе-ж вынеслі пастанову захаваць гэтую гаспадарку, паставіўшы на належную вышыню, каб намечаныя пляны поўнасьцю выканаць. Капэрацыйная фэрма дасьць вялікую колькасьць гародніны і малочных прадуктаў пралятарскім цэнтрам. Белкапсаюзу неабходна было-б больш бліжэй прыглядзецца да разьвіцця капэрацыйнай фэрмы ў Клічаўскім раёне.

**Аноцкі.**

---

**Дырэктыўны ліст.**

# Усім райкомам і гаркомам т-ва Чырвонага Крыжу БССР.

Ажыцьцяўленьне задач шырокага разгорнутага наступленьня сацыялізму па ўсяму фронту, індустрыялізацыі краіны і правядзеньне калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, ліквідацыя на базе суцэльнай калектывізацыі кулацтва, як клясы, узмацненьне абароназдольнасьці краіны—усё гэта патрабуе і ад чырвона-крыжных арганізацый рашучай перабудовы працы і прыстасаваньня ўсёй сваёй дзейнасьці да пасьпяховага вырашэньня вышэйадзначаных задач.

Аднак, ня гледзячы на неаднаразовыя дырэктыўныя паказаньні ЦК Чырвонага Крыжу БССР і непасрэднае інструктаваньне некалькіх дзясяткаў арганізацый шляхам абсьледваньня іх працы—ня ўсе яшчэ нізавыя арганізацыі і іх кіруючыя органы пераключыліся на новыя баявыя тэмпы масавай і дзелавой працы.

Яшчэ і да гэтага часу працягвае быць слабым мейсцам у працы нізавых, асабліва вясковых, чырвонакрыжных арганізацый, асноўная арганізацыйна-масавая праца. Раённае кіраўніцтва ўдзявае недастатковую ўвагу гэтаму важнейшаму і асноўнаму пытаньню.

Маючы на ўвазе вялізарныя дасягненьні ў сэнсе абслугоўваньня чырвонакрыжнымі арганізацыямі рабочых бытавых установ і на прадпрыемствах, а таксама сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі—саўгасаў і калгасаў, аднак у шэрагу арганізацый гэтай справе не ўдзяляецца належнай увагі. Таксама ў шэрагу месц слаба праводзіцца праца ваенна-санітарнай падрыхтоўкі ў арганізацыях і сярод працоўнага насельніцтва.

У мэтах зьнішчэньня вышэйадзначаных недахопаў і рашучага палепшаньня працы ўсіх чырвонакрыжных арганізацый БССР у адпаведнасьці з тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва і выкананьня спэцыяльных задач, якія ўскладаюцца на чырвонакрыжную організацыю, Цэнтральны Камітэт Т-ва Чырвонага Крыжу БССР прапануе ўсім раённым і гарадзкім камітэтам безадкладна выканаць дырэктывы і ўжыць наступныя мерапрыемствы:

1. Уся праца Т-ва Чырвонага Крыжу БССР павінна быць накіравана на выкананьне пастаўленых Партыяй і Савецкай Уладай задач у 3-м рашаючым годзе пяцігодкі, на выкананьне пяцігодкі,

за чатыры гады і на ўзмацненьне санітарнай абараназдольнасьці СССР.

2. Галоўная ўвага арганізацый Чырвонага Крыжу БССР павінна быць на кіравана на ахоп і абслугоўваньне сацыялістычнага сэктару народнае гаспадаркі, забясьпечваючы сваёю дзейнасьцю і ўдзелам пасьпяховае выкананьне задач, пастаўленых перад сацыялістычным, сэктарам народнае гаспадаркі на 1931 г. ахапіўшы ў першую чаргу найбольш буйныя прамысловыя прадпрыемствы будаўніцтва новых прадпрыемстваў і сацыялістычны сэктар вёскі (саўгасы, калгасы і МТС).

3. Работа камітэтаў па лініі ўзмацненьня санітарнай абараназдольнасьці краіны павінна быць пастаўлена як адна з асноўных і важнейшых работ Т-ва. Работа Т-ва ў мірны час павінна быць пабудавана так, каб яе можна было лёгка пераключыць на абарону па абслугоўваньню патрэб Чырвонай Арміі.

Таму заданьні Цэнтральнага К-ту раённа-гарадзкімі к-тамі па В/Сан. рабоце павінны выконваецца ў строгавызначаныя тэрміны і парадку.

4. Рашуча ўзмацніць арганізацыйна-масавую работу камітэтаў і арганізацый, для чаго прэзыдыумы к-таў склікаць ня менш 2-х разоў у месяц у строга вызначаныя дні; у рабоце пленумаў і прэзыдыумаў павінны ўдзельнічаць усе члены к-таў і Прэзыдыуму, а таксама чырвона-крыжны актыў.

Разам з тым практыкаваць у рабоце Прэзыдыуму ЦК Т-ва скліканьне нарад па паасобных пытаньнях чырвона-крыжнай дзейнасьці.

Устанавіць дасканалы вучот наведваньня членамі к-ту і Прэзыдыуму—пленумаў і прэзыдыумаў і непрацаздольных членаў к-таў сваечасова выводзіць з складу апошніх, з давядзеньнем аб гэтым да ведама чырвона-крыжнай масы.

5. Не пазьней 1-га мая поўнасьцю закончыць пачатую перарэгістрацыю членў Т-ва. У час перарэгістрацыі строга праверыць сацыяльны склад членаў Т-ва. Кампанію на пэрарэгістрацыі неабходна шырока выкарыстаць па папулярызацыі задач Т-ва і для вярбоўкі новых членаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў члены Т-ва партыйцаў, камсамольцаў, рабочых, работніц, калгасьнікаў і саўгасьнікаў, а таксама перадавых актывістаў беднякоў і серадняков адзінаасобнікаў—заўтрашніх калгасьнікаў.

6. Для ўзмацненьня ківаўніцтва і ўвязкі працы мясцовыя камітэты павінны пэрыядычна даваць справаздачы аб сваёй дзейнасьці перад партыйнымі, савецкімі, профэсыянальнымі арганізацыямі, а таксама перад шырокай чырвона-крыжнай масай, ў мэтах азнаямленьня апошняй з становішчам чырвонакрыжнай работы і для сваечасовага зьнішчэньня недахопаў.

Ажыцьцяўленьне лёзунгу—крытыка і самакрытыка павінна быць забясьпечана ў штодзённай працы ўсіх чырвона-крыжных арганізацый і іх кіруючых органаў.

Усім мясцовым к-там устанавіць сталую сувязь з Асоавіяхэмам, Т-вам „Прэч няпісьменнасьць", шырока ўцягваючы ў сваю работу камсамольскія арганізацыі і членаў ЛКСМБ.

7. У мэтах азнаямленьня шырокіх рабочых мас з задачамі Т-ва і актывізацыі работы на аснове ініцыятывы мас устанавіць сыстэматычную сувязь з найбольш буйнымі прадпрыемствамі.

8. У бліжэйшы час актывізаваць работу гарадзкіх і раённых камітэтаў па лініі папулярызацыі задач Т-ва, вярбоўкі новых членаў Т-ва і арганізацыі новых ячэяк, з такім разьлікам, каб у 1931 г. ахапіць усе прамысвовыя прадпрыемствы і ўвесь сацыялістычны сэктар вёскі. Колькасьць членаў Т-ва павінна быць давядзена ў 1931 годзе да 200.000.

Неабходна зараз-жа выявіць увесь актыў членаў Т-ва, завесьці вучот яго, падрыхтаваць і шырока выкарыстаць гэты актыў у практычнай працы к-таў і ячэяк.

Неабходна таксама зьвярнуць асаблівую ўвагу пытаньню вярбоўкі юрыдычных членаў Т-ва.

Зараз-жа прыступіць да шырокага разгортваньня работы па арганізацыі ячэяк юных прыхільнікаў Чырвонага Крыжу, ахапіўшы ў першую чаргу школы, піонэрскія атрады і дзіцячыя ўстановы.

9. У далейшай рабоце мясцовых камітэтаў і ячэек шырока прымяняць мэ-

тады сацспаборніцтва. Заключаныя дагаворы па сацспаборніцтву павінны абавязкова ахопліваць усе галіны чырвона-крыжнай работы, дабіваючыся таго, каб задачы і ўмовы былі канкрэтнымі, дасканалымі і рэальнымі. Неабходна ўстанавіць сыстэматычную праверку выкананьня заключаных дагавароў, зьнішчаючы сваечасова ўсялякія прычыны, якія не дазваляюць ажыцьцяўленьню дагавароў па сацспаборніцтву.

Неабходна шырока выкарыстаць мэтады работы праз ударныя брыгады і грамадзкі буксір, які ўжо даў шэраг станоўчых вынікаў ва ўсіх галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Таксама неабходна шырока прымяняць у рабоце ўсіх гарадзкіх камітэтаў і ячэяк шэфства над раённымі к-тамі і сельскімі ячэйкамі.

10. Усім мясцовым камітэтам неабходна прыняць самы актыўны ўдзел ва ўсіх палітычных і гаспадарчых кампаніях, асабліва пасяўной, увязваючы іх з чырвона-крыжнай дзейнасьцю.

Пасьля правядзеньня палітычна-гаспадарчых кампаній паведамляць аб выніках Прэзыдыум ЦК.

11. Прэзыдыуму ЦК і ўсім мясцовым к-там неабходна ўстанавіць самую шчыльную сыстэматычную сувязь з часьцямі Чырвонай Арміі, шляхам узяцьця культурна-санітарнага шэфства над паасобнымі часьцямі РСЧА, аказаньня канкрэтнай дапамогі ў справе ўзмацненьня яе санітарнага становішча.

Узмацніць чырвона-крыжную работу у часьцях Чырвонай Арміі, шляхам арганізацыі ячэяк, вярбоўкі членаў таварыства, правядзеньня санітарна-бытавых і санітарна-асьветных мерапрыемстваў сярод чырвонаармейцаў.

12. Праверыць становішча і работу ўсіх існуючых сан. дружын, выявіўшы сацсклад дружыньнікаў і забясьпечыць іх неабходным абсталяваньнем.

На аснове гэтай праверкі зараз-жа намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па іх якаснаму палепшаньню. У бліжэйшы час арганізаваць новыя сан. дружыны у горадзе і вёсцы.

13. Пры складаньні плянаў працы прадугледзець шырокае разьвіцьцё сеткі ўстаноў Ахматмладу і Аздраўдзету (консультацыі, ясьлі, пляцоўкі) і шэраг аздаравіцельных мерапрыемстваў, як-та: водпуск гарачых сьнеданьняў у школах, Служба Здароўя Юных Піонэраў, пасылка дзяцей у лягеры, санаторыі і г. д. Сетка гэтых устаноў павінна быць разгорнута на прамысловых прадпрыемствах, у сацсэктары вёскі і ў першую чаргу ў мясцох з пераважна жаночай працай, увязваючы гэта разгортваньне з зацікаўленымі арганізацыямі.

14. Разьвіцьцё санітарна-бытавых мерапрыемстваў, асабліва ў сацсэктары, павінна знайсьці свой поўны адбітак у плянах працы камітэтаў. Гэтыя мерапрыемствы павінны садзейнічаць узьняцьцю культурнага ўзроўню працоўных мас, палепшаньню бытавых умоў, падняцьцю вытворчасьці працы і тым самым спрыяць выкананьню задач соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Разам з гэтым неабходна шырока разьвіць санітарна-асьветную работу шляхам прыцягненьня мэдыцынскіх работнікаў у парадку грамадзкай нагрузкі.

15. Надаючы вялікае значэньне пытаньню правядзеньня Першай Усесаюзнай Лётарэі, ЦК прапануе ўсім гарадзкім і раённым камітэтам поўнасьцю рэалізаваць заданьне, мабілізуючы вакол гэтага пытаньня ўсю чырвона-крыжную грамадзкасьць.

16. У мэтах устанаўленьня лепшага кантролю за сваечасовым і поўным паступленьнем збораў ад тэатральных відовішчаў і для нагляду за сваечасовай перадачай органам Наркомфіну часьці збораў, гарадзкім і раённым камітэтам зараз-жа выдзяліць у Камісію пры Райфінадзелах прадстаўнікоў і ўзяць на сябе работу па гэтым кантролю.

17. Гарадзкія і раённыя камітэты прэтэнзыйную работу павінны лічыць адным з асноўных вучасткаў сваёй работы. Гэтая работа павінна знайсьці поўны адбітак у плянах працы гарадзкіх і раённых камітэтаў і ячэяк, для чаго неабходна выдзеліць членаў прэзыдыуму,

на якіх ускласьці адказнасьць за гэтую работу.

Разам з гэтым узмацніць растлумачальную работу сярод насельніцтва шляхам выданьня плякатаў, лістовак, часопісаў, радыё-перадач, асьвятленьня пытаньняў у мясцовым друку, насьцен. газэтах і г. д.

Даручыць усім раённым і гарадзкім камітэтам Т-ва Чырвонага Крыжу БССР гэтую дырэктыву ЦК Т-ва Чырвонага Крыжу БССР дасканала прапрацаваць, ужыць і канкрэтныя мерапрыемствы і вынікі паведаміць ЦК Т-ва праз месяц.

Старшыня ЦК Т-ва Чырвонага Крыжу БССР **А. Хацкевіч.**

17 красавіка 1931 г.

# ПАСТАНОВЫ УРАДУ БССР.

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак на 1931 г.

У адпаведнасьці з палажэньнем пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак на 1931 г., зацьверджаным ЦВК і СНК СССР 29 сакавіка 1931 г. (газ. „Известия ЦИК СССР и ВЦИК“ за 1931 г., № 88) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Калгасам, якія выканаюць вытворчыя заданьні па пасеве, апрацоўцы і ўборцы, даецца 10 проц. скідка з налічанай сумы падатку.

2. Устанавіць для калгасаў наступныя тэрміны выплаты сельска-гаспадарчага падатку:

да 1-га лістапада 1931 г.—50% акладу,
да 1-га сьнежня 1931 г.—50% акладу.

3. Даходы ад паляводзтва вызначаць па пахаці, гэта значыць, выходзячы з агульнай плошчы ворнай зямлі гаспадаркі, незалежна ад таго засеяна яна, ці не, ва ўсіх раёнах, апроч наступных раёнаў:

Лоеўскага, Асіповіцкага, Азарыцкага, Жыткавіцкага, Мазырскага, Ельскага, Капаткевіцкага, Лельчыцкага, Нараўлянскага, Пятрыкоўскага, Тураўскага, Юравіцкага і Чачэвіцкага, ў якіх даходы ад паляводзтва вызначаць па пасеве, г. зн., выходзячы з плошчы сапраўды засеянай зямлі ў гаспадарцы.

4. Устанавіць для раёнаў наступныя нормы даходаў, якія абкладаюцца с.-г. падаткам.

| №№ па парадку | Раёны | Нормы абкладанага даходу ў рублёх | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1 гэктар | | | | | | На 1 штуку | | | | |
| | | Пахаці | Пасеву | Сенаж. залiўной | Сенаж. незалiўной | Гароду | Саду | Коняй стар. 4 год | Бык. і нецеляй ст. 3 год і кароў | Валоў стар. 4 год | Перазім. авечак і коз р. | Перазім. авечак і коз к. |
| 1 | Азарыцкі . . | — | 49 | 24 | 9 | 55 | 175 | 20 | 16 | 14 | 1 | 80 |
| 2 | Аршанскі . . | 39 | — | 28 | 8 | 215 | 245 | 25 | 33 | 15 | 1 | 80 |
| 3 | Асіпавіцкі . . | — | 53 | 31 | 19 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 4 | Асьвейскі . . | 34 | — | 27 | 16 | 215 | 185 | 24 | 17 | 15 | 1 | 80 |
| 5 | Бабруйскі . . | 41 | — | 31 | 19 | 210 | 285 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 6 | Багушэўскі . . | 38 | — | 28 | 17 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 7 | Барысаўскі . . | 38 | — | 29 | 19 | 215 | 225 | 24 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 8 | Бешанковіцкі . | 35 | — | 24 | 17 | 170 | 195 | 26 | 21 | 15 | 1 | 80 |
| 9 | Брагінскі . . | 43 | — | 33 | 20 | 180 | 205 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 10 | Буда-Кашалёўская. | 41 | — | 33 | 20 | 190 | 205 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 11 | Быхаўскі . . | 43 | — | 36 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 12 | Бягомльскі . . | 32 | — | 27 | 17 | 155 | 165 | 19 | 18 | 15 | 1 | 80 |
| 13 | Бялыніцкі . . | 38 | — | 31 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 14 | Бярэзінскі . . | 39 | — | 29 | 19 | 180 | 185 | 23 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 15 | Боркавіцкі . . | 37 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |

| №№ па парадку | Раёны | Нормы абкладанага даходу ў рублёх | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1 гэктар | | | | | | На 1 штуку | | | | |
| | | Пахаці | Пасеву | Сенаж. заліўной | Сенаж. незаліўной | Гароду | Саду | Коняй стар. 4 год | Бык. і нецеляй ст. 3 год і кароў | Валоў стар. 4 год | Перезім. авечак і коз р. | Перезім. авечак і коз к. |
| 16 | Віцебскі | 42 | — | 31 | 19 | 280 | 285 | 28 | 28 | 15 | 1 | 80 |
| 17 | Веткаўскі | 41 | — | 36 | 21 | 190 | 210 | 25 | 23 | 15 | 1 | 80 |
| 18 | Ветрынскі | 35 | — | 27 | 18 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 19 | Вульскі | 35 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 20 | Вушацкі | 35 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 21 | Высачанскі | 42 | — | 29 | 18 | 225 | 245 | 28 | 26 | 15 | 1 | 80 |
| 22 | Гарадоцкі | 35 | — | 24 | 18 | 225 | 245 | 27 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 23 | Глускі | 39 | 8 | 36 | 19 | 195 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 24 | Гомельскі | 42 | — | 34 | 21 | 205 | 225 | 25 | 26 | 15 | 1 | 30 |
| 25 | Горацкі | 39 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 26 | Грэскі | 45 | — | 26 | 18 | 225 | 255 | 26 | 24 | 14 | 1 | 80 |
| 27 | Дубровенскі | 37 | — | 28 | 17 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 28 | Дрыбінскі | 39 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 29 | Дрысенскі | 36 | — | 27 | 17 | 215 | 186 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 30 | Ельскі | — | 50 | 28 | 20 | 155 | 175 | 24 | 17 | 16 | 1 | 80 |
| 31 | Жлобінскі | 41 | — | 36 | 19 | 205 | 285 | 25 | 22 | 16 | 1 | 80 |
| 32 | Журавіцкі | 39 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 33 | Жыткавіцкі | — | 47 | 27 | 19 | 155 | 175 | 22 | 17 | 14 | 1 | 80 |
| 34 | Заслаўскі | 42 | — | 29 | 22 | 240 | 270 | 26 | 25 | 15 | 1 | 80 |
| 35 | Камарынскі | 37 | — | 36 | 20 | 170 | 195 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 36 | Капыльскі | 49 | — | 24 | 18 | 225 | 260 | 30 | 28 | 16 | 1 | 80 |
| 37 | Капаткевіцкі | — | 49 | 24 | 19 | 155 | 175 | 23 | 17 | 14 | 1 | 80 |
| 38 | Кармянскі | 38 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 39 | Касьцюковіцкі | 38 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 26 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 40 | Копыскі | 41 | — | 28 | 19 | 215 | 245 | 25 | 23 | 15 | 1 | 80 |
| 41 | Коханаўскі | 40 | — | 28 | 19 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 42 | Койданаўскі | 43 | — | 29 | 22 | 215 | 270 | 27 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 43 | Клічаўскі | 38 | — | 33 | 19 | 195 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 44 | Клімавіцкі | 38 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 45 | Краснапольскі | 35 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 46 | Крупскі | 36 | — | 28 | 17 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 47 | Круглянскі | 41 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 48 | Крычаўскі | 39 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 49 | Лагойскі | 40 | — | 26 | 18 | 175 | 225 | 24 | 22 | 14 | 1 | 80 |
| 50 | Лельчыцкі | — | 47 | 24 | 18 | 155 | 175 | 23 | 16 | 15 | 1 | 80 |
| 51 | Лепельскі | 34 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 52 | Лёзненскі | 43 | — | 30 | 19 | 225 | 245 | 28 | 28 | 15 | 1 | 80 |
| 53 | Лоеўскі | — | 58 | 36 | 20 | 170 | 195 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 54 | Любанскі | 41 | — | 24 | 18 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 55 | Ляднянскі | 37 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 56 | Магілеўскі | 42 | — | 36 | 19 | 215 | 270 | 25 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 57 | Мазырскі | — | 51 | 30 | 20 | 155 | 175 | 23 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 58 | Межанскі | 37 | — | 26 | 17 | 170 | 195 | 27 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 59 | Менскі | 50 | — | 32 | 22 | 250 | 290 | 29 | 29 | 15 | 1 | 80 |
| 60 | Мсьціслаўскі | 43 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 27 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 61 | Нараўлянскі | — | 49 | 29 | 19 | 155 | 175 | 24 | 17 | 16 | 1 | 80 |
| 62 | Парыцкі | 37 | — | 31 | 19 | 195 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 63 | Пятрыкоўскі | — | 51 | 29 | 20 | 155 | 175 | 23 | 17 | 16 | 1 | 80 |
| 64 | Плешчаніцкі | 32 | — | 27 | 17 | 156 | 210 | 20 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 65 | Полацкі | 36 | — | 27 | 18 | 215 | 185 | 24 | 21 | 15 | 1 | 80 |
| 66 | Прапойскі | 38 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 67 | Пухавіцкі | 42 | — | 27 | 21 | 240 | 270 | 26 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 68 | Рагачоўскі | 41 | — | 36 | 19 | 205 | 285 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 69 | Расьнянскі | 38 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 70 | Расонскі | 34 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 71 | Рэчыцкі | 40 | — | 36 | 20 | 195 | 210 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 72 | Сеньненскі | 37 | — | 28 | 18 | 170 | 195 | 27 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 73 | Сіроцінскі | 36 | — | 24 | 18 | 225 | 245 | 27 | 22 | 15 | 1 | 80 |

| №№ па парадку. | Раёны | Нормы абкладанага даходу ў рублях | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1 гэктар | | | | | | На 1 штуку | | | | |
| | | Пахаты | Пасеву | Сенаж. залїўной | Сенаж. незалїўной | Гароду | Саду | Коняй стар. 4 год | Бык. і нецелій ст. 3 год і кароў | Валоў стар. 4 год | Перезім. авечак і коз | |
| | | | | | | | | | | | р. | к. |
| 74 | Слуцкі . . . | 50 | — | 29 | 18 | 210 | 285 | 31 | 28 | 15 | 1 | 80 |
| 75 | Смалявіцкі . . | 42 | — | 27 | 20 | 205 | 255 | 25 | 23 | 15 | 1 | 80 |
| 76 | Ст. Дароскі . . | 37 | — | 24 | 18 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 77 | Старобінскі . . | 40 | — | 24 | 18 | 205 | 255 | 25 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 78 | Сураскі . . | 41 | — | 28 | 18 | 225 | 245 | 27 | 25 | 15 | 1 | 80 |
| 79 | Сьвіслацкі . . | 39 | — | 31 | 19 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 80 | Сьмілавіцкі . . | 43 | — | 28 | 20 | 205 | 255 | 26 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 81 | Талачынскі . . | 41 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 82 | Тураўскі . . | — | 55 | 28 | 18 | 155 | 175 | 23 | 17 | 15 | 1 | 80 |
| 83 | Уваравіцкі . . | 42 | — | 36 | 21 | 195 | 210 | 25 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 84 | Вузьдзенскі . . | 41 | — | 27 | 18 | 175 | 225 | 25 | 22 | 14 | 1 | 80 |
| 85 | Халопеніцкі . . | 33 | — | 27 | 18 | 155 | 165 | 20 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 86 | Хоцімскі . . | 39 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 87 | Хойніцкі . . | 42 | — | 33 | 20 | 195 | 210 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 88 | Церахаўскі . . | 39 | — | 30 | 20 | 190 | 180 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 89 | Чавускі . . | 41 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 90 | Чэрэйскі . . | 36 | — | 28 | 19 | 215 | 245 | 25 | 19 | 15 | 1 | 80 |
| 91 | Чачэрскі . . | 42 | — | 36 | 20 | 190 | 210 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 92 | Чачэвіцкі . . | — | 52 | 31 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 93 | Чашніцкі . . | 34 | — | 26 | 17 | 170 | 195 | 26 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 94 | Чэрвенскі . . | 41 | — | 24 | 18 | 175 | 225 | 25 | 23 | 15 | 1 | 80 |
| 95 | Чэрыкаўскі . . | 37 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 | 80 |
| 96 | Чырв. Слаб. . . | 47 | — | 24 | 18 | 205 | 285 | 31 | 24 | 15 | 1 | 80 |
| 97 | Шклоўскі . . | 43 | — | 36 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 | 80 |
| 98 | Юравіцкі . . | — | 54 | 32 | 20 | 155 | 175 | 24 | 19 | 15 | 1 | 80 |

5. У наступных раёнах прамысловага масларобства: Горацкім, Жлоібнскім, Рагачоўскім, Віцебскім, Гарадоцкім, Лёзьненскім, Высачанскім, Гомельскім, Магілеўскім, Копыльскім, Менскім, Боркавіцкім і Нараўлянскім (даходы ад кароў і быкоў у гаспадарках, якія заключылі контрактацыйныя дагаворы аб здачы прадукцыі жывёлагадоўлі абкладаюцца сельска-гаспад. падаткам са скідкаю ў 50 проц. у параўнаньні з нормамі, ўстаноўленымі для адпаведных паселішчаў.

6. Даход ад плошчаў, занятых пасевамі ільну і канапель, налічваецца па ўсіх раёнах з палавіннаю скідкаю з норм даходнасьці, ўстаноўленных для палявых земель.

7. Даходы ад неземляробчых заработкаў уключаюцца ў абкадзены сельска-гаспадарчым падаткам даход у наступных разьмерах: а) заработная плата работнікаў, якія стала жывуць у сваёй сельскай гаспадарцы, ў разьмеры 15 проц.; б) заработная плата работнікаў, якія стала жывуць па-за сваёй сельскай гаспадаркай, у разьмеры 10 проц.; в) плата, якая атрымліваецца на адходных промыслах за работу па найме, ў разьмеры 20 проц.; г) даходы, атрыманыя ад адходных промыслаў, не па найме, ў разьмеры 40 проц.; д) даход, атрыманы ад саматужных рамесьніцкіх і іншых заработкаў без нанятых рабочых, у разьмеры 50 проц.

Для каапэраваных саматужнікаў і рамесьнікаў, якія не карыстаюцца наёмнай працай, вылічаны такім чынам даход паніжаецца на чвэрць: ільгота гэта пашыраецца толькі на тых саматужнікаў і рамесьнікаў, якія зьяўляюцца членамі таварыстваў, што ўваходзяць у капэрацыйную сыстэму.

8. Гаспадаркі лічацца кулцкімі і абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, калі ёсьць адна ці некалькі з наступных адзнак:

а) калі ў гаспадарцы сыстэматычна ўжываецца наёмная рабочая сіла для сельска-гаспадарчых работ больш 30 рабочых дзён у год.

Па гэтай адзнацы не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку гаспадаркі, якія ўжываюць нанятую рабочую сілу ня больш 30 рабочых дзён у год, або ня больш аднаго сталага рабочага пры наступных акалічнасьцях: хвароба, мабілізацыя, прызыў у РСЧА, выбары на грамадзкую пасаду, якая патрабуе адрыву ад гаспадаркі, ўдовы з малымі дзецьмі на ўвесь час данага становішча гаспадаркі, а таксама гаспадаркі, члены якіх адыходзяць на сэзонную работу, а гаспадарка з гэтае прычыны ўжывае на пэрыяд адыходу на сэзонную работу нанятую рабочую сілу, ня больш аднаго рабочага;

б) калі ў сельскай гаспадарцы ёсьць саматужна-прамысловае прадпрыемства і ў ім ужываецца нанятая рабочая сіла незалежна ад разьмеру.

Не абкладаецца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку тыя гаспадаркі, саматужна-прамысловыя прапдрыемствы, якіх па асаблівых умовах вытворчасьці, ўжываюць ня больш аднаго дарослага рабочага або двух вучняў (напр.: малатабоец у каваля);

в) калі ў гаспадарцы ёсьць млын незалежна ад колькасьці паставаў, маслабойка, крупадзёрка, просадзёрка, воўначоска, воўнабітка, цёрачнае прадпрыемства, сушня бульбы, садавіны ці гародніны, або іншае прамысловае прадпрыемства пры ўмове ўжываньня ў пералічаных прадпрыемствах або мэханічнага рухавіка або сілы ветру ці вады, або конскай цягавай сілы, або, калі гэтыя прадпрыемствы працуюць пераважна на скупліваемым сырцы.

Калі ў гаспадарцы ёсьць адно з пералічаных прадпрыемстваў без мэханічнага рухавіка, дык гэта зьяўляецца адзнакаю для індывідуальнага абкладаньня пры ўмове, калі даход з гэтага прадпрыемства за год складае больш 150 руб.

Калі-ж у гаспадарцы ёсьць некалкі з пералічаных прадпрыемстваў, дык гэта зьяўляецца адзнакаю для індывідуальнага абкладаньня хаця ў даных прадпрыемствах няма паказаных вышэй умоў;

г) калі гаспапарка мае або арандуе прамысловае прадпрыемства, якім эксплёатуе насельніцтва праз здачу тых, або іншых работ на дом, або праз здачу гэтага прадпрыемства ў арэнду ці субарэнду;

д) калі гаспадарка дае ў наймы сельска-гаспадарчыя машыны з мэханічным рухавіком, або за плату праводзіць работу з гэтымі машынамі для іншых гаспадарак, а таксама калі гаспадарка эксплёатуе складаныя сельска-гаспадарчыя машыны і без мэханічнага рухавіка, але даход ад эксплёатацыі гэтых машын за год перавышае 150 руб.;

е) калі гаспадарка дае ў карыстаньне ваколічнаму насельніцтву рабочую жывёлу на ўмовах, прызнаных раённай падатковай камісіяй кабальнымі;

ж) калі гаспадарка здае або арандуе для гандлёвай ці прамысловай эксплёатацыі сад ці гарод больш 0,5 гэктараў у сельскіх мясцовасьцях, ці 0,25 гэкт. у гарадох;

з) калі гаспадарка сыстэматычна здае ў наймы памяшканьне пад жыльлё, ці прадпрыемства, або спэцыяльнае памяшканьне пад дачу і сума арэнднай платы за год перавышае 150 руб.

Калі-ж гаспадарка здае памяшканьне пад школы, лікпункты, хаты-чытальні і інш. дзяржаўныя ці грамадзкія ўстановы, дык гэтыя гаспадаркі не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, калі ў іх няма іншых адзнак с пералічаных у гэтым артыкуле;

і) калі члены гасападаркі займаюцца гандлем па рэгістрацыйным пасьведчаньні, або без яго (скупкай перапрода-жам сельска-гаспадарчых прадуктаў і іншых рэчаў, ліхварствам, пазычаньне грошай ці іншых рэчаў на проcанты, альбо на адработак), ці маюць іншыя непрацоўныя даходы, ў тым ліку служкі рэлігійных культаў;

к) калі гаспадарка арандуе вадазборы для рыбнай лоўлі;

л) калі у гаспадарцы ёсьць даходы ад эксплёатацыі ўласнай ці арэндаванай лайбы і атрыманы за год даход перавышае 150 руб.;

м) калі гаспадарка бярэ на пашу за плату чужую жывёлу і атрыманая за гэта плата перавышае за год 150 руб.

Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты, Менскі, Віцебскі і Гомельскі гарадзкія саветы ўстанавіць пільны нагляд за тым, каб ні ў якім разе не дапускалася абкладаньне ў індывідуальным па-

радку серадняцкіх гаспадарак. Вінаватыя ў парушэньні гэтага правіла павінны прыцягвацца да суровай адміністрацыйнай або судовай адказнасьці.

9. Устанавіць наступныя тэрміны для выплаты калгасьнікамі па іх неаграмаджаных даходах і аднаасобнымі гаспадаркамі сельска-гаспадарчага падатку:

да 1 верасьня 1931 г.—30 проц. акладу,
да 15 кастрычн. 1931 г.—50 проц. акладу,
да 1 сьнежня 1931 г.—20 проц. акладу.

Усе гаспадаркі абкладзеныя ў індывідуальным парадку, павінны заплаціць усе 100 % падатку да 1-га верасьня 1931 г.

10. Для падліку платнікаў сельска-гаспадарчага падатку і крыніц іх даходаў і для разгляду скаргаў па сельска-гаспадарчым падатку, арганізуюцца сельскія падатковыя камісіі ў складзе: старшыні камісіі (старшыня сельскага савету) і членаў камісіі: старшыня камітэту ўзаемадапамогі, прадстаўнік калгасаў, прадстаўнік групы беднаты, прадстаўнік сэкцыі РСІ і член сельскага савету з таго паселішча або вучастку, дзе праводзіцца подлік аб'ектаў абкладаньня, або справы якога разглядаюцца ў камісіі.

11. Налічэньне абкладанага даходу і акладаў сельска-гаспадарчага падатку па ўсіх гаспадарках, апрача калгасаў, складаньне і перадача акладных лістоў ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты. Раённым выканаўчым камітэтам даецца права, калі яны знойдуць магчымым ускласьці гэтую працу на асобныя сельскія саветы.

12. У раёнах арганізуюцца раённыя камісіі па сельска-гаспадарчым падатку ў складзе старшыні камісіі—загадчык раённага фінансавага аддзелу і членаў камісіі: загадчык раённага зямельнага аддзелу і прадстаўнікоў: раённай пракуратуры, раённай РСІ, раённага калгассаюзу, раённага прафсавету і раённага камітэту т-ваў узаемадапамогі. На раённыя камісіі ўскладаюцца абавязкі паказаныя ў арт. арт. 8, 50, 53, 86, 92 і 93 палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак на 1931 г.

13. Усім платнікам сельска-гаспадарчага падатку акладныя лісты павінны быць пераданы не пазьней 1-га жніўня 1931 г.

14. Прапанаваць усім раённым выканаўчым камітэтам, Менскаму, Віцебскаму і Гомельскаму гарадзкім саветам не пазьней 10 красавіка г. г.: а) устанавіць і апублікаваць нормы даходнасьці для паасобных сельскіх саветаў і ў асобных выпадках для паасобных паселішч, выходзячы з раённых норм, паказаных у арт. 4 гэтае пастановы; б) вырашыць пытаньне, якое вынікае з увагі першай да арт. 28 палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак, пра прыцягненьне да абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам і інш. спэцыяльных галін не прадугледжаных арт. 4 гэтай пастановы, устанавіўшы ў адпаведных выпадках для іх спэцыяльныя нормы даходнасьці; в) па раёнах, на тэрыторыі якіх ёсьць гарады альбо мястэчкі гарадзкога тыпу, апроч гэтага ўстанавіць і апублікаваць парадак абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам грамадзян, якія займаюцца сельскай гаспадаркай на гарадзкіх землях, у адпаведнасьці з арт. арт. 30 і 86 палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак, пры чым прадугледзець, што тыя з грамадзян, якія будуць абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам павінны выплачваць его па даходах ад сельскай гаспадаркі, а таксама і ад неземляробчых заработкаў.

15. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам, гарадзкім і сельскім саветам безадкладна разгарнуць шырокую агітацыйна-растлумачальную кампанію па папулярызацыі новага закону, асабліва растлумачыўшы ільготы, ўстаноўленыя для калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

16. Даручыць Народнаму Камісарыяту Фінансаў не пазьней 25 красавіка г. г. выдаць інструкцыю аб парадку ажыцьцяўленьня закону пра сельска-гаспадарчы падатак.

17. У зьвязку з выданьнем гэтай пастановы скасаваць пастанову ЦВК і СНК БССР за 19 сакавіка 1930 г. пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак (З. З. БССР 1930 г. № 17, паст. 116) і пастановы ЦВК і СНК БССР за 31 сьнежня 1930 г. „Пра азнакі кулацкіх гаспадарак". (З. З. БССР 1931 г., № 3, паст. 19).

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **Гнілякевіч.**

